# НАШ КРАЙ




№ 4 (31)

КРАСАВІК 1928



## ШТОМЕСЯЧНІК
## Ц.Б. КРАЯЗНАЎСТВА

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 4 (31) Красавік 1928

ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ



ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1928

# Краязнаўства ў працы профсаюзных арганізацый.

Краязнаўчая праца ў асноўным праходзіць наступныя этапы: арганізацыя краязнаўчых сіл; падлік і выбар об'ектаў, якія падлягаюць вывучэньню ў данай мясцовасьці; плянавая дасьледчая праца ў розных галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва; папулярызацыя вынікаў дасьледчае працы (пастаноўкай дакладаў, праз друк) з мэтай дапамогі дзяржаўным органам і грамадзкім арганізацыям у соцыялістычным будаўніцтве сваёй краіны. Зусім зразумела дзеля гэтага неабходнасьць цеснай сувязі краязнаўчых арганізацый з гаспадарчымі ўстановамі, профэсыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі, якія маюць сваёй мэтай плянавае і арганізаванае будаўніцтва гаспадаркі і культуры.

Рабочыя масы, якія пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі будуюць гаспадарку на новым грунце, твораць сваю пролетарскую культуру і новы быт, павінны добра ведаць сваю краіну, мясцовыя прыродныя багацьці, мясцовую гаспадарку, быт і звычаі насельніцтва, бо ва ўсякім будаўніцтве трэба выходзіць з конкрэтных, рэальных запатрабаваньняў і мясцовых магчымасьцяй. Пры вырашэньні, напрыклад, пытаньня адносна забясьпечаньня прамысловага прадпрыемства мясцовай сырывінай неабходна ведаць магчымасьці запасаў і дастаўкі гэтае сыравіны; пры складаньні і абгаварэньні вытворчай програмы неабходна ведаць запатрабаваньні рынку, попыт на продукты вырабу; пры наладжанай культурнай сувязі з вёскай трэба добра ведаць соцыяльна-экономічнае становішча гэтае вёскі, мясцовае звычаёвае права, культурныя запатрабаваньні насельніцтва і г. д. Тым больш неабходна ўсебакова ведаць сваю краіну профсаюзным працаўніком, якой-бы кваліфікацыі яны ні былі.

У штодзённай будзённай працы ўсіх кіруючых установ патрэбна практычнасьць, жыцьцёвасьць, веданьне бліжэйшых задач і мясцовых магчымасьцяй. Як-жа можна, напрыклад, складаць вытворчыя пляны, праводзіць вытворчыя нарады, калі ня ведаць усіх вытворчых сіл свайго раёну? У гэтым напрамку неабходна даць належныя веды і ўсім рабочым. А паглядзім, як праводзіцца ў нас культасьветная праца на прадпрыемствах і наогул сярод сяброў саюзу. Ці многа там пастаўлена дакладаў, прачытана лекцый на тэмы мясцовай гаспадаркі, гісторыі, культуры, быту? Саюзныя організацыі ў гэтым напрамку зрабілі вельмі і вельмі мала. Такім пытаньнем не прыдаецца належнага значэньня. А між тым гэтыя пытаньні маглі-б найбольш зацікавіць працоўныя масы. Краязнаўчых гурткоў нават пры буйных прадпрыемствах мы яшчэ ня бачым. У саюзных бібліотэках адсутнічае края-

знаўчая літаратура. А яна вельмі была-б патрэбна і ў першую чаргу для кіраўнікоў профсаюзнай працай.

Такое становішча, разумеецца, нельга прызнаць нормальным.

Саюзным організацыям неабходна наладзіць цесную контактную працу з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі, выкарыстоўваючы вынікі іх дасьледчай працы ў сваёй практычнай працы, а гэтым самым правяралася-б і праца краязнаўчых організацый у напрамку выбару об'ектаў дасьледваньня і ўстаноўкі падыходу да гэтых дасьледваньняў.

Асабліва шырака можна было-б выкарыстаць краязнаўчыя організацыі ў мэтах пастаноўкі дакладаў і лекцый, організацыі гутарак аб мясцовым краі: яго гаспадарцы, прамысловасьці, прыродных багацьцях і інш. Пашырэньне ведаў аб сваім краі сярод працоўных мас— адна з вялікіх задач асьветнай працы профсаюзных організацый. Гэту асьветную працу маглі-б праводзіць профсаюзныя і краязнаўчыя організацыі разам.

Краязнаўчыя організацыі маглі-б далей прыняць удзел у складаньні сьпісу краязнаўчай літаратуры для профсаюзных бібліотэк, у дапамозе організацыі вывучэньня некаторых пытаньняў жыцьця і быту рабочых, мінулага ў жыцьці таго ці іншага прадпрыемства і д. т. п. Гэтыя даныя патрэбны былі-б як для краязнаўчай працы, так і для профсаюзных організацый.

З свайго боку саюзныя організацыі маглі-б вельмі дапамагчы краязнаўчым організацыям у іх працы. Перш за ўсё профсаюзныя працаўнікі маглі-б прыняць належны ўдзел і дапамагчы ў популярызацыі краязнаўчае працы, маглі-б супрацоўнічаць, даваць належныя матар'ялы для краязнаўчых організацый і г. д.

На фабрыках, заводах, у мясцкомах і заўкомах часта маюцца досыць каштоўныя матар'ялы па гісторыі рабочага руху, некаторыя даныя з часоў барацьбы за Савецкую ўладу, матар'ялы па гаспадарчым і культурным будаўніцтве; усё гэта вельмі патрэбны краязнаўчы матар'ял. Праўдзівае вывучэньне быту рабочых і служачых розных профэсій, умоў іх жыцьця, культурных запатрабаваньняў немагчыма толькі на падставе адных пісаных матар'ялаў (протоколы сходаў, насьценныя газэты) альбо толькі на падставе здабытых вестак у час экскурсій; вывучэньне гэтых пытаньняў павінна быць доўгатэрміновым, працяжным вывучэньнем штодзённага жыцьця. Такія даныя магчыма атрымаць толькі ад саміх рабочых, служачых ці профсаюзных працаўнікоў, якія блізка стаяць да профсаюзнай масы.

Экскурсіі ў прыроду, на прадпрыемствы, у музэі маюць вялікае выхаваўчае і асьветнае значэньне для працоўных мас. Профсаюзныя організацыі павінны прыняць гэта пад увагу і сумесна з краязнаўчымі таварыствамі наладзіць і правесьці шэраг такіх экскурсій. У сувязі з краязнаўчымі экскурсіямі профсаюзныя організацыі маглі-б шмат дапамагчы краязнаўчым таварыствам і гурткам у зборы розных экспонатаў і матар'ялаў для мясцовых краязнаўчых музэяў, як, напр.: продуктаў вырабу таго ці іншага прамысловага прадпрыемства, дыяграм і г. д.

Неабходнасьць наладжаньня належнай сувязі ў працы профсаюзных і краязнаўчых організацый відавочна. Дзеля гэтага мы лічым патрэбным:

1. З боку краязнаўчых організацый:

а) пэрыодычна ставіць даклады і праводзіць лекцыі на краязнаўчыя тэмы сярод сяброў саюзу;

б) уцягнуць у краязнаўчую працу профсаюзных працаўнікоў і найбольш актыўных рабочых і служачых;

в) даваць належныя спраўкі і матар'ялы па вывучэньні свайго краю профсаюзным організацыям;

г) дапамагаць у організацыі і правядзеньні краязнаўчых экскурсій з рабочымі і служачымі;

2. З боку профсаюзных організацый:

а) прыняць належныя меры да магчыма шырокага азнаямленьня сяброў саюзаў з краязнаўствам, яго задачамі і практычнай працай;

б) прыняць актыўны ўдзел у працы мясцовых краязнаўчых організацый, даючы належныя зьвесткі, матар'ялы, экспонаты ў музэй і інш;

в) профсаюзныя бібліотэкі папоўніць літаратурай аб мясцовым краі;

г) пэрыодычна праводзіць краязнаўчыя экскурсіі ў прыроду, прадпрыемствы, культурныя ўстановы і інш.

*В. Самцэвіч.*

---

М. П. Сьмірноў.

# Яшчэ пра біоклімат Беларусі.

У папярэднім нарысе біоклімату Беларусі („Наш Край" № 3—1928 г.) мы не закранулі, дзеля недахопу месца, істотных яго бакоў, без чаго ўяўленьне аб біоклімаце тэй ці іншай краіны будзе няпоўным. Там мы імкнуліся высьветліць тыя элемэнты, якія зьяўляюцца статыстычнымі, сярэднімі, утвараюць нібы касьцяк усякага біоклімату. Але, як вядома кожнаму, ход сэзонаў год за годам мяняецца, бывае розным: часам вясна ці восень прыходзяць раней, часам пазьней; іншы год даныя сэзону адбываюцца дружна, а часам яны зацягваюцца. Злучанасьць розных гадавых ваганьняў, якія заўважаюцца ў ходзе сэзонаў, інакш кажучы, у рытме біосфэры данага раёну, складае другую істотную рысу біоклімату, якую можна назваць яго дынамікай. Матар'ялы, якія ў нас ёсьць, даюць мажлівасьць да вядомай ступені ўявіць характар гэтых ваганьняў, гэтых парушэньняў сярэдняга ходу біокліматычных процэсаў, якія маюць месца ў Беларусі. Дзеля высьвятленьня характару і велічыні штогодных ваганьняў у ходзе сэзонных зьяў, перш за ўсё патрэбна мець пэўныя сярэднія даты надыходу розных зьяў у данай мясцовасьці. Каб атрымаць такія даты, неабходны шматгадовыя нагляданьні, якія праводзіліся ў адным пункце па адным мэтодзе над адным відам расьліны ці жывёлы. У залежнасьці ад біолёгічных асаблівасьцяй організмаў сталыя сярэднія даты атрымліваюцца ў выніку нагляданьняў ад сямі да дваццаці і больш гадоў, пры гэтым для большасьці організмаў досыць дзесяці дат для атрыманьня сталых сярэдніх; таму пункты, дзе вяліся нагляданьні ня меней гэтага тэрміну, можна прымаць за апорныя пункты пры высьвятленьні пытаньняў, зьвязаных з дынамікай біоклімату. Для Беларусі такім апорным пунктам будзе паперш усяго в. Лазаравічы (Быхаўскага раёну), дзе Т. Я. Галавіцкая вядзе нагляданьні бадай што нясупынна з 1895 году да гэтага часу. Табліцы з вынікамі гэтых нагляданьняў надрукаваны ў № 3 час. „Наш Край" за бягучы год. Да вядомай ступені гэтаму запатрабаваньню задавальняюць нагляданьні Я. К. Мароза за 1892—1924 г. г. на хут. Фатынь, Лепельскага раёну, надрукаваныя ў № 4 „Нашага Краю" за 1927 год. Апрача гэтых нагляданьняў, дзеля нашае мэты магчыма часткова скарыстаць шматгадовыя нагляданьні ў сумежных з Беларусьсю раёнах, якія часткай ужо надрукаваны, а часткай захоўваюцца ў архівах З. Н. Кайгарадава і Расійскага Таварыства Аматараў Сьветазнаўства. Першым пытаньнем, якое патрэбна разьвязаць

пры вызначэньні характару хістаньняў у ходзе сэзонаў, будзе пытаньне аб разьмерах магчымых ухіленьняў у часе надыходу розных зьяў ад іх шматгадовых сярэдніх. Каб гэта пытаньне вырашыць, робім параўнаньне сярэдняй даты кожнай паасобнай зьявы з датамі зьяў паасобных гадоў. Так, сярэдняя дата зацьвітаньня бэзу, атрыманая з 24 гадоў нагляданьняў у в. Лазаравічах,—19 мая. Адхіленьні ад яе, пачынаючы з 1895 г., паступова будуць такія: —1,+6,—9, 0,+2,+9,+3, +13,—9,+3,—4,—14,+7,+12,—10,—7,+7,—8,—6,+2,—6,+8, 0, 0. Падобныя радкі лёгка атрымаць для кожнай зьявы, якая маецца ў памянёнай табліцы. Калі пасьля гэтага падлічыць колькасьць ухіленьняў кожнай велічыні дзеля ўсіх зьяў, занатаваных у Лазаравічах, дык атрымаецца такая табліца:

**Расьліны.**

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Разьмер адхіленьня . . | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | дзён |
| 2 | Лік адхіленьняў у бок спазьненьня . . . . . | 8 | 6 | 8 | 6 | 7 | 7 | 13 | 8 | 3 | 5 | 6 | 6 | 5 | 4 | 1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | „ |
| 3 | Лік адхіленьняў у бок ранейшага надыходу . . | – | 11 | 3 | 3 | 7 | 4 | 10 | 11 | 4 | 4 | 3 | 1 | 2 | 3 | 4 | 1 | 2 | 2 | 3 | 0 | „ |
| | Усяго . . | 8 | 17 | 11 | 9 | 14 | 11 | 23 | 19 | 7 | 9 | 9 | 7 | 7 | 7 | 5 | 1 | 2 | 2 | 3 | 0 | „ |

**Жывёлы.**

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Разьмер адхіленьня . . . | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | дзён |
| 2 | Лік адхіленьняў у бок спазьненьня . . . . . . | 13 | 14 | 13 | 9 | 7 | 11 | 7 | 5 | 3 | 3 | 1 | 5 | 4 | 0 | 2 | 0 | 2 | 1 | 0 | „ |
| 3 | Лік адхіленьняў у бок ранейшага надыходу . . . | — | 8 | 9 | 6 | 5 | 6 | 9 | 7 | 5 | 6 | 3 | 5 | 3 | 2 | 1 | 2 | 0 | 1 | 0 | „ |
| | Усяго . . | 13 | 22 | 22 | 15 | 12 | 17 | 16 | 12 | 8 | 9 | 4 | 10 | 7 | 2 | 3 | 2 | 2 | 2 | 0 | „ |

З гэтай табліцы відаць, што ў Лазаравічах за пэрыод з 1895 г. па 1927 г. усе хістаньні зьяў ад сярэдніх вялічынь замыкаліся ў межах ±18 дзён. Межы гэтыя ў параўнаньні з іншымі мясцовасьцямі досыць цесныя: у Палтаве, напрыклад, паводле нашых вылічэньняў, гэтыя хістаньні даходзяць да ±28 дзён, у Гельсінфорсе да ±26 дзён, у Або да ±30 дзён і да т. п. Але, як зусім слушна кажа проф. П. А. Віхляеў у „Очерках теоретической статистики“, абазначэньне гранічных адхіленьняў вялічынь адзнак, якія вывучаюцца, ня маюць паважнага навуковага зьместу, таму што амплітуда адхіленьня паасобных вялічынь знаходзіцца ў мацнейшай залежнасьці ад ліку наглядальных выпадкаў. Самае рэзкае адхіленьне наглядаецца найменей часта, і таму з большай верагоднасьцю можна чакаць спатканьня такога адхіленьня пры больш значным ліку нагляданьняў. Дзеля гэтага, апрача велічыні адхіленьняў, трэба ўлічваць, якая верагоднасьць кожнага з даных адхіленьняў, інакш кажучы, як часта гэтае адхіленьне ў запраўднасьці наглядалася. Для высьвятленьня гэтага падлічваем у процантах лік розных адхіленьняў. Атрымаецца для таго-ж пункту наступная табліца:

| Разьмеры ў днёх . . | 0—3 | 4—6 | 7—9 | 10—12 | 13—15 | 16—18 | 19—∞ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Агульны лік адхіленьняў у % . . . . . . | 33,3 | 26,5 | 18,8 | 12,5 | 5,7 | 3,1 | 0,0 |
| У расьлін . . . . . . | 26,3 | 28,1 | 20,5 | 13,5 | 7,6 | 4,1 | 0,0 |
| У жывёл . . . . . . | 40,3 | 25,2 | 17,4 | 17,8 | 3,9 | 2,2 | 0,0 |

Такім чынам вынікае, што амаль 60 проц. усіх адхіленьняў тутака замкнуты ў досыць цесныя граніцы шасьці дзён, пры гэтым хістаньні ў расьлін большыя, як у жывёл.

У сваіх ранейшых працах*) мы ўжо паказвалі, што процант адхіленьняў ад сярэдніх у расьлін у граніцах ±6 дзён можа служыць паказчыкам устойлівасьці біоклімату данай мясцовасьці, прычым высокі процант паказвае на ўстойлівы біоклімат, нізкі—на няўстойлівы. Дзеля параўнаньня ўстойлівасьці біоклімату Беларусі з іншымі мясцовасьцямі даем наступныя цыфры гэтага паказчыка: Умань—67,9, Ленінград—58,0, Лясной (каля Ленінграда)—56,7, Варшава—52,4, Новаржэўскі павет—50,4, Болхаў—50,7, Гельсінгфорс—43,9, Або—40,7 і г. д. Дзеля таго, што для Лазаравічаў гэты паказчык раўняецца (26,3+28,1)=54,4, дык выходзіць, што наша мясцовасьць знаходзіцца як-бы на схіле ўстойлівасьці, якая найбольш вялікая на поўдні ад яе—у заходняй Украіне, а найменшая на поўначы—у Фіншчыне. Ступень устойлівасьці біоклімату мае істотнае значэньне пры высьвятленьні мажлівасьці фэнолёгічных прогнозаў: чым вышэй паказчык устойлівасьці, тым лягчэй прадбачыць верагодны характар надыходзячых вясны, лета, восені. Вышэйзроблены аналіз хістаньняў паказвае, што ў Быхаўскім раёне, грунтуючыся толькі на вывучэньні шматгадовых сярэдніх, ці інакш кажучы, календара прыроды, у большасьці выпадкаў можна з дакладнасьцю да ±6 дзён рабіць трапныя прадвешчаньні. Але гэтыя прадвешчаньні можна значна наблізіць да запраўднасьці, калі высьветліць раней ня толькі велічыню мажлівых адхіленьняў ходу зьяў ад нормы, але і кірунак гэтых адхіленьняў. Дзеля гэтага мы павінны паказаны тут мэтод фэно-аномалій выкарыстаць яшчэ больш пэўна, а менавіта, наступным чынам. Возьмем які-колечы адзін год і паглядзім, як зьмяняюцца фэно-аномаліі яго для розных зьявішч на працягу ўсяго сэзону. Так, у сакавіку 1896 году ў Лазаравічы грак прыляцеў пазьней сярэдняга на 3 дні, жаўранак—на 5 дзён, шпак—на 1 дзень, у сярэднім гэтыя тры зьявы спазьніліся на тры дні, інакш кажучы, фэно-аномалія сакавіка 1896 г. была +3 дні; для красавіка таго-ж году падобным спосабам знаходзім сярэднюю аномалію з 7 дат +7,0, для мая з 13 дат +5,3. Зрабіўшы падобны падлік для ўсяго пэрыоду нагляданьняў у Лазаравічах і ў Фатыні, мы атрымаем паказаныя ніжэй табліцы сярэдніх месячных фэно-аномалій. У іх паказваецца, на колькі дзён раней (знак мінус) або пазьней (знак плюс) сярэдняга праходзілі зьявы ў кожным месяцы вясны. Цыфра ў дужках паказвае, з якога ліку нагляданьняў выведзена даная аномалія. Прылёт зязюлі, салаў'я, ластаўкі і ўдода пры вывадзе аномалій у разьлік ня прымаліся, таму што гэтыя зьявы выяўляюць шэраг асаблівасьцяй, якія часта вылучаюць іх з агульнага ходу сэзонаў і патрабуюць у далейшым спэцыяльнага вывучэньня.

---

*) Глядзі, напрыклад: „Фенологический очерк Ленинградской губернии", у „Трудах Ленинградского общества изучения местного края". Ленінград, 1927 г., стар. 278.

**Сярэднія месячныя фэно-аномаліі паводле нагляданьняў у Лазаравічах.**

| Гады \ Месяцы | Сакавік | Красавік | Май | Гады \ Месяцы | Сакавік | Красавік | Май |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1895 | + 8,5(2) | + 5,6(8) | + 1,8(9) | 1910 | — 7,0(3) | — 4,4(10) | — 3,6(7) |
| 1896 | + 3,0(3) | + 7,0(7) | + 5,3(13) | 1911 | + 1,7(3) | + 2,1(9) | — 2,7(7) |
| 1897 | + 2,0(1) | — 5,3(15) | — 8,0(6) | 1912 | — 8,7(4) | — 3,1(7) | + 9,2(11) |
| 1898 | + 8,5(2) | +11,1(7) | + 2,8(12) | 1913 | —11,0(7) | —12,2(10) | — 8,0(4) |
| 1899 | — 6,0(2) | — 2,2(11) | + 0,4(7) | 1914 | —10,1(9) | — 4,3(6) | — 1,9(7) |
| 1900 | +11,5(2) | + 6,2(6) | + 7,0(12) | 1915 | + 6,0(2) | + 0,5(11) | + 1,6(7) |
| 1901 | — 4,0(4) | + 0,1(8) | + 1,9(8) | 1916 | + 6,0(3) | — 2,5(10) | — 1,5(6) |
| 1902 | — 4,5(4) | — 0,2(5) | + 7,6(7) | 1917 | + 3,0(2) | + 4,8(5) | + 6,1(8) |
| 1903 | —13,1(8) | — 7,7(8) | — 2,8(5) | 1919 | — 6,5(2) | + 2,5(4) | + 0,3(3) |
| 1904 | + 3,0(2) | + 2,0(10) | — 1,3(9) | 1920 | —13,7(4) | — 8,8(6) | — 2,5(2) |
| 1905 | — 1,2(4) | + 1,7(9) | + 2,1(7) | 1921 | — 7,5(4) | —10,0(4) | — |
| 1906 | —12,2(4) | — 3,9(10) | — 6,7(6) | 1925 | + 7,0(2) | — 7,3(9) | 0,0(1) |
| 1907 | + 4,7(3) | + 5,2(9) | + 4,3(9) | 1926 | — 8,2(4) | + 1,0(1) | + 5,5(4) |
| 1908 | +11,0(2) | + 6,0(8) | + 7,7(12) | 1927 | —10,0(5) | + 4,5(2) | +10,0(1) |
| 1909 | + 7,0(2) | + 6,4(8) | + 8,7(8) | | | | |

**Сярэднія месячныя фэно-аномаліі паводле нагляданьняў у Фатыні.**

| Гады \ месяцы | Красавік | Май | Чэрвень | Гады \ месяцы | Красавік | Май | Чэрвень | Гады \ месяцы | Красавік | Май | Чэрвень |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1892 | — | — 1,5(2) | — | 1909 | — | +16,0(1) | +10,0(1) | 1917 | — | + 9,3(3) | — |
| 1893 | — | +12,5(2) | + 9,0(1) | 1911 | — | — 6,7(3) | — | 1918 | —14,0(1) | — 4,0(2) | — |
| 1898 | — | + 2,0(1) | — | 1912 | — | + 8,0(3) | — | 1920 | —18,0(1) | —15,0(2) | — |
| 1899 | — | — 1,0(1) | — | 1913 | — | — 5,0(1) | — | 1921 | —20,0(2) | — | — |
| 1900 | — | +10,0(1) | — | 1914 | — | — 5,0(3) | — | 1922 | — | + 5,0(1) | — |
| 1902 | — | +15,0(1) | +15,0(1) | 1915 | — | + 1,3(3) | — | 1923 | — | 0,0(1) | — |
| 1904 | — | 0,0(2) | — | 1916 | — | — 9,7(3) | — | 1924 | — | + 5,3(3) | — |

**Параўнаўчая табліца месячных фэно-аномалій у Беларусі і ў сумежных з ёю мясцовасьцях за 1895-1900 і 1920 г. г.**

| ГОД | Месяц | Лазаравічы | Фатынь | Пскоў | Ноўгарад | Вялікалуцкі павет | Бранск | Умань | Горадня | Варшава |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | III | + 8,5 | — | +12,0 | + 7,5 | — | — | + 1,5 | — | — |
| 1895 | IV | + 5,6 | — | + 8,0 | +11,5 | + 3,4 | — | — 0,2 | — | — |
| | V | + 1,8 | — | — | — 4,0 | + 1,4 | — | + 1,4 | — | — |
| | III | + 3,0 | — | — 0,4 | 0,0 | — | — 0,5 | — | + 7,0 | —13,0 |
| 1896 | IV | + 7,0 | — | — | — | — | — | +11,3 | — | — 5,0 |
| | V | + 5,3 | — | +10,0 | — 2,0 | — | — | +10,0 | + 6,5 | + 3,0 |
| | III | + 2,0 | — | — 4,2 | — | — | — | — 9,0 | — | + 8,0 |
| 1897 | IV | — 5,3 | — | + 3,0 | + 6,0 | — | — | — 8,5 | — | — 1,0 |
| | V | — 8,0 | — | — | — 4,0 | — | — | — 5,3 | — | — 3,0 |
| | III | + 8,5 | — | + 2,7 | — | — | — | — | — | + 5,0 |
| 1898 | IV | +11,1 | — | — | — | — | — | + 7,0 | — | — 2,2 |
| | V | + 2,8 | +2,0 | — | — | — | — | + 5,5 | — | + 2,5 |
| | III | — 6,0 | — | — 4,0 | — | — | — 6,0 | —16,0 | — | — 6,0 |
| 1899 | IV | — 2,2 | — | + 2,5 | +10,0 | — | — | — 9,8 | — | — 8,0 |
| | V | + 0,4 | —1,0 | + 4,5 | — 3,0 | — | + 3,0 | — 6,7 | — | + 1,7 |
| | III | +11,5 | — | — | — | + 3,0 | + 8,0 | — | — | — |
| 1900 | IV | + 6,2 | — | — | — | + 6,5 | + 6,0 | + 3,0 | — | + 2,0 |
| | V | + 7,0 | +10,0 | — | — | + 8,0 | + 5,0 | — 0,5 | + 9,0 | — |
| | III | —13,7 | — | —11,0 | —14,8 | —25,0 | — | — | — | — |
| 1920 | IV | — 8,8 | —18,0 | — | + 4,0 | —16,0 | — | — | — | — |
| | V | — 2,5 | —15,0 | — | — 7,8 | —13,5 | — | — | — | — |

Разглядаючы гэтыя табліцы, мы бачым, што вялічыні аномалій у Лазаравічах і ў Фатыні ў адны і тыя-ж гады па месяцах у большасьці выпадкаў вельмі мала адрозьніваюцца паміж сабой. Так, майская аномалія 1898 году ў Фатыні была+2,0, у Лазаравічах+2,8; у 1900 годзе ў першым пункце+10,0, у другім+7,0. У нас няма падобных даных для іншых пунктаў рэспублікі. Але мы іх можам параўнаць з фэно-аномаліямі мясцовасьцяй, якія знаходзяцца недалёка ад ея межаў. Робім некалькі падобных параўнаньняў у паказанай параўнаўчай табліцы месячных фэно-аномалій. З яе мы бачым, на працягу трох вясновых месяцаў 1895—1900 і 1920 гадоў некалькі разоў было, што ва ўсіх паказаных пунктах аномаліі мелі адзін і той самы знак. Так, гэта наглядалася ў сакавіку 1895 г., у маі 1897 і 1898, у сакавіку 1899, у сакавіку і красавіку 1900, і ў сакавіку і маі 1920 г. Значыцца, у гэтыя месяцы па ўсёй Беларусі наглядалася аднароднае адхіленьне ад нормы, напрыклад, у 1895 годзе позьняя вясна была і на поўначы Беларусі і на поўдні і г. д., інакш сказаць—на ўсім абшары была фэнодэпрэсія; наадварот, у 1920 годзе ўся рэспубліка была ахоплена фэноэкспрэсіяй. Цяпер паглядзім, як хістаюцца аномаліі ад месяца да месяца. У 1909 годзе мы маем у Лазаравічах у сакавіку+7,0, у красавіку+6,4, у маі+8,7; у Фатыні ў тым-жа годзе ў маі+16,0, у Чэрвені+10,0. Значыцца, спазьненьне ў ходзе зьяў, якое наглядалася

ў сакавіку, захавалася аж да чэрвеня. Падобную карціну мы маем для сакавіка-мая ў большасьці выпадкаў. З гэтага можна зрабіць вывад, што вяснові сэзон на ўсёй тэрыторыі Беларусі адрозьніваецца значнай устойлівасьцю, і рэжым, які вызначыўся ў сакавіку, вельмі паволі і нязначна зьмяняецца на працягу красавіка і мая. Такім чынам, паводле велічыні мартаўскай аномаліі, мы з вялікай верагоднасьцю можам прадбачыць адхіленьні ад сярэдніх вялічынь у красавіку і маі. Праўда, гэта правіла ў іншыя гады парушаецца. Так, у мінулым 1927 годзе першыя вясновыя зьявы прайшлі ў нас у сярэднім на 10 дзён раней нормы, а ў красавіку і асабліва ў маі яны ішлі ўжо з вялікім спазьненьнем. Гэта паказвае, што паводле адных мясцовых адзнак не заўсёды можна зрабіць надзейны прогноз аб ходзе наступаючага сэзону. Як мы паказалі ў сваім артыкуле „Опыт обработки фенологических наблюдений с 1885 па 1925 год“ („Мироведение“, 1926 г. № 1), у кожным пункце Эўропы ход фэно-аномалій падпадае ўзбуджаючаму ўплыву цэнтраў: Карскага, Ісланскага, Афрыканскага і Пэрсыдзкага—і для надзейных прогнозаў неабходна ведаць разьмеркаваньне фэно-аномалій ня толькі ў часе, але і ў прасторы.

Для вызначэньня надыходзячых у вядомым сэзоне хістаньняў у ходзе фэно-аномалій для Беларусі вельмі важна своечасова ўсьвядоміцца ў тым, як праходзіць даны сэзон у цэнтральнай Расіі, бо ў большасьці выпадкаў фэно-аномаліі прасоўваюцца да нас з усходу прычым прасоўваньне гэта досыць павольнае. Таму, калі мы хочам вызначыць, як праходзіць даны вясновы сэзон у Беларусі, мы раней усяго вызначаем, на колькі дзён раней ці пазьней сярэдняга адбыліся зьявы сакавіка: прылёт гракоў, шпакоў, жаўранкаў. На падставе гэтага мы ў большасьці выпадкаў можам сказаць, што зьявы ў красавіку і маі прыблізна пройдуць з такім-жа адхіленьнем. Далей, каб вызначыць, у які бок трэба чакаць адхіленьня ад аномаліі сакавіка, мы даведваемся пра ход зьяў на ўсход ад нас: калі там у даны момант наглядаецца адыход у бок ухутчэньня, экспрэсіі, дык магчыма і ў нас ход зьяў паступовa будзе хутчэйшым, і наадворот,—дэспрэсія, спазьненьне ў ходзе зьяў на ўсходзе, насунуўшыся праз некалькі часу на нас, выкліча і тут адхіленьне фэно-аномаліі ў бок спазьненьня.

Вось у кароткіх рысах некаторыя асноўныя элемэнты дынамікі біоклімату Беларусі. Праўда, яны датычацца толькі вясновага пэрыоду. Калі знойдуцца наглядальнікі-фэнолёгі, якія будуць зьбіраць матар'ялы аб ходзе ўсіх сэзонаў, дык у далейшым можна будзе высьветліць вельмі важны момант кожнага біоклімату—час рэзкіх перамен у ходзе гадавога цыклю пэрыодычных зьяў, якія мы называем крытычным пэрыодам данага біоклімату. Але пакуль што, пры наяўнасьці параўнаўча невялікіх матар'ялаў, ахапляючых амаль выключна вясновы пэрыод, вырашэньне гэтага важнага пытаньня прыходзіцца адкласьці на будучае.

**М. Касьпяровіч.**

# Аб краязнаўстве ў Фіншчыне*).

Фінскае краязнаўства ўжо даўно прыцягвае ўвагу далёкіх і блізкіх суседзяў Фіншчыны. Так, у разьвіцьці рускага краязнаўства вы-

*) Апошнім пленумам ЦБК была прынята пастанова надрукаваць брошуру аб краязнаўстве ў Фіншчыне, але выкананьне гэтага па матар'яльных прычынах адклалася на неазначаны час.

датнае значэньне мелі пераклады прац вядомых фінскіх краязнаўцаў— Р. Больдта „Организованное исследованіе родіны в Фінляндіі“ (С. Петербург 1910 г.) і А. Тальгрэна „Родіноведеніе в Фінляндіі (задачі, історія і современная его организація)“ (С.-Петербург 1913), а таксама справаздача Г. Шэнберга „Фінляндія на IX международном географіческом конгрессе в Женеве“. Эстонскае і латыскае краязнаўства пераймае шмат якія спосабы і віды краязнаўства Фіншчыны. Урэшце Цэнтральнае Бюро Краязнаўства БССР улетку 1927 году командыравала свайго прадстаўніка ў Фіншчыну для азнаямленьня з краязнаўчай справай на яе тэрыторыі.

Гэтая зацікаўленасьць фінскім краязнаўствам цалкам апраўдваецца вынікамі вывучэньня яго. Гісторыя яго пачынаецца значна раней чым у іншых краінах. Фінская навука наогул пачынаецца з заснаваньня унівэрсытэту ў Турку ў 1640 годзе. Побач з распрацоўкай агульнанавуковых тэорэтычных проблем і вывучэньнем Фіншчыны, яна ня цуралася вывучэньня і паасобных краёў стараны. У XVII сталецьці унівэрсытэтам ужо было выдадзена дзевяць такіх мясцовых дасьледваньняў, першым з якіх лічыцца „Кароткае апісаньне Эстэрботніі“. Праца Юсьленіуса „Стары і новы Турку“, якая зьявілася ў 1700 годзе, лічыцца мяжою ад захапленьня сваім краем да навуковага пазнаньня яго. Апошняе пачало значна шырэй разгортвацца пасьля так званай Паўночнай вайны, якая прымусіла адшукваць новыя прыродныя багацьці ў сваёй старане і наогул падштурхнула мясцовую інтэлігенцыю да пазнаньня свайго краю. У 1730-31 г. г. вышлі з друку ў провінцыяльным горадзе Вазе першыя мясцовыя краязнаўчыя працы мясцовых працаўнікоў. Апрача таго, на працягу другой паловы XVIII сталецьця Туркаўскім унівэрсытэтам было надрукована каля 50 прац аб мясцовых краёх і Упсальскім і Лундзкім унівэрсытэтамі—каля 65. Усе яны былі напісаны студэнтамі як залікавыя працы пад кіраўніцтвам профэсароў. Але і пасьля выхаду свайго з унівэрсытэтаў былыя студэнты звычайна ўкладалі апісаньні сваіх мясцовасьцяй, якія маюць вялікае навуковае значэньне. У 1782 годзе фінскім вучоным Портанам у газэце „Туркаўскія весткі“ былі надрукованы інструкцыі апісаньня парафіяў (адміністрацыйных адзінак Фіншчыны) і гарадоў. У выніку гэтага ў тэй-жа газэце пазьней было зьмешчана вельмі шмат апісаньняў паасобных мясцовасьцяй Фіншчыны. Але на працягу першых трох чвэртак XIX сталецьця ў справе разьвіцьця мясцовага краязнаўства ў Фіншчыне адбываўся пэўны застой. Гэты кругабег зьяўляецца часам росквіту шматлічных навукова-грамадзкіх таварыстваў агульнафінскага маштабу. Яны таксама зрабілі вялізную працу вывучэньня паасобных краёў Фіншчыны, але былі ўсё-ж навуковымі таварыствамі Фіншчыны, а не навукова-краязнаўчымі організацыямі. На працягу сваёй навуковай дзейнасьці гэтыя таварыствы назапасілі вельмі шмат мясцовых матар'ялаў, а таксама выдалі шэраг інструкцый і програм для дасьледваньня і вывучэньня краю і вынікаў гэтага вывучэньня. З ліку такіх таварыстваў неабходна ўспомніць: Фінскую акадэмію навук, Фінскае навуковае, Фінска-угорскае, Флёры і фаўны, Фінскае літаратурнае, Швэдзкае літаратурнае, Гістарычнае, Старажытнасьцяй, Географічнае, Дыялектолёгічнае і інш.

У 1881 годзе на дапамогу гэтым таварыствам у справе вывучэньня Фіншчыны і яе частак прыходзяць музэі. Першы провінцыяльны музэй заснаваўся ўласна ў гэтым годзе ў горадзе Турку. Але гэтыя мясцовыя музэі яшчэ ў большай меры прычыніліся новаму ўздыму ўласна краязнаўчай справы. У пачатку апошняй чвэрці XIX ст. і пачаўся мясцовы організаваны краязнаўчы рух. У 1883 годзе было заснавана першае провінцыяльнае таварыства радзімазнаўства (так завуць

тамака краязнаўства) ў горадзе Куопьо. Амаль праз дзесяць год, у 1884 годзе, заснавалася першае прыходзкае таварыства радзімазнаўства ў Лойо. У 1907-8 акадэмічным годзе арганізацыйна аформілася і стала сыстэматычнай студэнцкая краязнаўчая праца. Урэшце, у 1908 годзе адбыўся фінскі зьезд мясцовых краязнаўчых арганізацый, на якім на аснове прадстаўніцтва ад навуковых інстытуцый і арганізацый была абрана Цэнтральная камісія радзімазнаўства. Камісія з 1909 году пачала выдаваць часопіс „Родны край“. Пераважная большасьць мясцовых краязнаўчых арганізацый заснавалася ў час ад 1910 да 1914 году. Пасьля абвяшчэньня фінскай буржуазнай рэспублікі ў часе рэволюцыі развой краязнаўства ў Фіншчыне зноў прыпыніўся. Значна ажывілася дзейнасьць агульнафінскіх навуковых таварыстваў, заснаваных у XIX сталецьці. З гэтага, зразумела, не выцякае, што дзейнасьць мясцовых краязнаўчых арганізацый прыпынілася. Наадварот, у некаторых мясцох (Тамель) праца значна ажывілася, а ў некаторых (Нейшлот)—заснаваліся новыя жыцьцяздольныя арганізацыі. Цэнтральная камісія радзімазнаўства, улічваючы некаторую перагрупоўку сіл і інтарэсаў, імкнецца да далейшага разьвіцьця краязнаўства на мясцох.

У сучасны момант краязнаўчыя арганізацыі існуюць амаль ва ўсіх провінцыях стараны, а таксама ў шмат якіх нізавых адміністрацыйных адзінках—прыходах і пры студэнцкіх зямляцтвах. Краязнаўства ў Фіншчыне разумеецца як усебаковае пазнаньне адносна невялікай тэрыторыі, а ўласна: а) прыродна-географічнае вывучэньне шляхам мэтэоролёгічных нагляданьняў, дасьледваньне флёры і фаўны краю, яго паверхні, водаў, межаў і г. д.; б) культурна-гістарычнае вывучэньне шляхам азнаямленьня з гістарычнымі і дагістарычнымі помнікамі старасьветчыны і быту, архівамі, картамі і інш., зьбіраньня матар‘ялаў аб дзеячох краю, назваў географічных об‘ектаў і г. д.; в) грамадзка-экономічнае вывучэньне шляхам дасьледваньня насяленьня і ўсіх тых вынікаў, якіх яно дасягнула ў сваёй рознастайнай дзейнасьці, яго фізычных асаблівасьцяй, родаслоўных даных і інш., а таксама—мясцовых будоў, промыслаў і заняткаў насяленьня, яго фольклёру і г. д. Але дзейнасьць мясцовых краязнаўчых арганізацый носіць у большай меры культурна-гістарычны характар і ня мае такой канцавой практычнай мэты, якую мае дзейнасьць нашых краязнаўчых арганізацый. Для ўзору коратка азнаёмімся з Лойоскім парафіяльным таварыствам радзімазнаўства, Куопіокскім провінцыяльным таварыствам радзімазнаўства, студэнцкім зямляцтвам провінцыі Сатакунта і Цэнтральнай камісіяй радзімазнаўства.

Лойоскае таварыства радзімазнаўства было заснавана для ўкладаньня ўсебаковага, магчыма больш дакладнага і падрабязнага апісаньня Лойоскае парафіі. Для выкананьня такой працы, з якой таварыства не магло справіцца сваімі сіламі, запрашаліся вучоныя спэцыялістыя. Частку прац па ініцыятыве таварыства выконвалі агульнафінскія навуковыя таварыствы. З тае прычыны, што ўсебаковае апісаньне парафіі адразу ўкласьці немагчыма, працы на пэўныя тэмы апісаньня парафіі друкаваліся ў якасьці дадаткаў да будучага ўсебаковага апісаньня. Такіх дадаткаў выдана некалькі дзесяткаў з фотографіямі, картамі і інш. Сярод іх ёсьць працы грамадзка-экономічнага і прыродна-географічнага, але большасьць—культурна-гістарычнага характару. Апрача таго, Лойоскае таварыства радзімазнаўства заснавала ў 1912 годзе парафіяльны музэй, у якім большасьць экспонатаў складаюць сельска-гаспадарчыя прылады і рэчы быту, пабудавала каменны будынак для архіву, адчыніла мэтэоролёгічную станцыю, сабрала вялізную колекцыю запісак, датычных жыцьця парафіі, яе прыроды і

інш., а таксама колекцыю фотографій свае парафіі, уклала карту парафіі, організоўвала шматлюдныя краязнаўчыя зьезды і лекцыі і г. д. Для дапамогі Лойоскаму парафіяльна таварыству радзімазнаўства ў справе дасягненьня пастаўленай ім сабе мэты ў сталіцы Фіншчыны—Гэльсінках яшчэ ў 1909 годзе заснавалася было Лойоскае таварыства радзімазнаўства. Яно аб'яднала амаль выключна выхадцаў з Лойоскай парафіі, якія жывуць у сталіцы. Лойоскае таварыства ў Гэльсінках за час свайго існаваньня сабрала багатыя матар'ялы па быту і інш. у Лойоскай парафіі, склікала сходы з дакладамі, папулярызавала свае ідэі пазнаньня парафіі і г. д. Сродкі Лойоскага пара-



Нацыянальны музэй у Гэльсінках.

фіяльнага таварыства, як і Лойоскага таварыства ў Гэльсінках, складаліся з членскіх складак і субсыдый.

Куопіокскае таварыства радзімазнаўства заснавалася з мэтаю вывучэньня мовы, гісторыі, вуснай народнай творчасьці і культуры свайго краю. Прыроду краю вывучала мясцовае таварыства прыродазнаўства. Таварыства радзімазнаўства заснавала і зараз утрымлівае вялікі музэй мясцовага краю, большасьць экспонатаў якога носяць этнографічны і культурна-гістарычны характар. Апрача таго, таварыствам сабраны вялікія колекцыі народнай творчасьці, матар'ялы аб групаваньні сялянскіх будынкаў і д. т. п. і адчыніла архіў. Таварыства выдала чатыры зборнікі сваіх прац пад назваю „Аарні"; апошні зборнік вышаў у 1924 годзе. У тым-жа годзе Таварыства склікала 2 зьезды. Сродкі таварыства складаюцца з членскіх складак і субсыдый.

Усе студэнты унівэрсытэту ў Гэльсінках уваходзяць у абавязковым парадку ў тое або іншае зямляцтва, якіх налічваецца 12. Краязнаўчаю працаю членаў зямляцтва кіруе асобны камітэт пры праўленьні яго. Мэтодычнае кіраўніцтва ажыцьцяўляе спэцыялісты па выбару зямляцтва. Для ўзору пазнаёмімся з працай зямляцтва Сатакунты,

якім больш 23 год кіруе выдатны вучоны Міккаля. Яно за час свайго існаваньня сабрала вельмі шмат розных матар'ялаў для пазнаньня свае провінцыі, асабліва ў галіне сялянскай родолёгіі, але галоўным дасягненьнем яго трэба лічыць выданьне зборнікаў аб сваёй провінцыі пад яе-ж назваю—„Сатакунта". Кожны зборнік—вялізны том на 250-300 стар. з малюнкамі, картамі і інш. Для характарыстыкі зьместу іх пакажам назвы матар'ялаў, хоць-бы ў томах 4 і 6. Шосты том зьмяшчае працы: а) з гісторыі Сатакунты; б) геолёгіі яе; в) гісторыі мовы; г) пахаджэньня насяленьня; д) помнікаў старога царкоўнага і школьнага пяяньня; е) докумэнты XVI і XVII ст.; э) лацінскі поэта Сатакунты XVI-XVII ст.; ё) маёнткі XVII ст.; ж) мораплаваньне; з) казачныя і рэальныя ўспаміны; і) праца па этнографіі. У чацьвертым томе зьмешчаны: а) агляд гісторыі ратайства; б) новае аб аднэй балядзе; в) 2 старасьвецкіх лацінскіх вершы; г) друк г. Пора за 60 год назад; д) могілкі і цэрквы г. Поры; е) гісторыя аднаго прыходу; э) структура аднэй горнай грады; ё) аб флёры аднаго прыходу і яго ваколіц. Усё гэта працы сучасных або былых студэнтаў; часамі зьмяшчаюцца і спэцыялістых—членаў зямляцтва. Справа ў тым, што і той, хто скончыў унівэрсытэт, застаецца членам зямляцтва. Усяго памянёных зборнікаў выдана зямляцтвам шэсьць; апошні вышаў у 1926 годзе. Прадаецца каля 1000 паасобнікаў кожнага тому і выданьне сябе акупляе. Раней зямляцтва мела субсыдыю, а цяперака ня мае ў ёй патрэбы. Маемасьць зямляцтва Сатакунты ацэньваецца ў некалькі дзесяткаў мільёнаў марак.

З 12 зямляцтваў унівэрсытэту Гэльсінак 11 выдаюць такія зборнікі. Апрача гэтага унівэрсытэту, ёсьць яшчэ два ў Турку. З краязнаўчых прац, якія выконваліся студэнтамі, трэба адзначыць дапамогу організаваньню музэяў, зьбіраньне экспонатаў для іх, назапашваньне вялізарных колекцый фотографій свайго краю, організаваньне зьездаў і сходаў, выданьне сваіх прац і г. д., а таксама зьбіраньне матар'ялаў і вывучэньне сямейных паданьняў, мясцовых назваў гарадоў, двароў, вёсак, гісторыі сялянскіх сем'яў, фольклёру, флёры, фаўны, гісторыі школ, прамысловасьці і г. д., а таксама ўкладаньне краёвай бібліографіі, зарысоўваньне мясцовага краю і д. т. п. Такім чынам краязнаўчая праца студэнтаў у Фіншчыне мае ня толькі выхаваўчае, але і значнае навуковае значэньне.

Цэнтральная камісія радзімазнаўства была заснавана з мэтаю аб'яднаньня кіраўніцтва мясцоваю краязнаўчаю працаю шляхам зьбіраньня гадавых справаздач паасобных організацый, асьвятленьня іх практыкі ў краязнаўчым часопісу, укладаньня програм і інструкцый для вывучэньня мясцовага краю, склікаўньня агульнафінскіх зьездаў, організаваньня выставак і д. т. п. За ўвесь час свайго існаваньня камісія прарабіла ў гэтым кірунку вялікую працу. Архіў камісіі, які знаходзіцца ў доме навуковых таварыстваў, мае вельмі багатыя матар'ялы: комплекты газэт, колекцыі фотографій, справаздачы, рукапісы, комплекты клішэ часопісу і інш. Важным пунктам дзейнасьці Камісіі зьяўляецца выданьне часопісу „Родны край" на фінскай і на швэдзкай мовах, якое пачалося ў 1909 годзе. Неабходнасьць такога краязнаўчага часопісу разумелася даўно. У 70-ых г. г. XIX ст. яго мерылася выдаваць Археолёгічнае Таварыства, але гэтая думка ўрэшце скончылася выданьнем у 1894 годзе „Фінскага музэю". Намеры Фінскага літаратурнага таварыства скончыліся выданьнем популярнага часопісу народнай творчасьці „Антэро Віпунэн". Толькі заснаваная Цэнтральная Камісія радзімазнаўства змагла ажыцьцявіць выданьне ўласна краязнаўчага часопісу. Часопіс „Родны край" („Коцісэуту") на фінскай мове выходзіў да 1922 году ўключна; на ўсім працягу выхаду багата ілюстраваўся.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Комплект яго за | 1909-1910 | год | складаецца з | 24 | нумароў на | 377 | бал. |
| „ | 1911 | „ | „ „ | 13 | „ „ | 290 | „ |
| „ | 1912 | „ | „ „ | 12 | „ „ | 207 | „ |
| „ | 1913 | „ | „ „ | 12 | „ „ | 247 | „ |
| „ | 1914 | „ | „ „ | 12 | „ „ | 242 | „ |
| „ | 1915 | „ | „ „ | 12 | „ „ | 214 | „ |
| „ | 1916 | „ | „ „ | 12 | „ „ | 161 | „ |
| „ | 1917 | „ | „ „ | 12 | „ „ | 142 | „ |
| „ | 1918 | „ | „ „ | аднаго тому | „ | 98 | „ |
| „ | 1919 | „ | „ „ | „ | „ „ | 116 | „ |
| „ | 1920 | „ | „ „ | „ | „ „ | 118 | „ |
| „ | 1921 | „ | „ „ | „ | „ „ | 66 | „ |
| „ | 1922 | „ | „ „ | „ | „ „ | 96 | „ |

Комплекту пазьней 1922 году ва унівэрсытэцкай бібліотэцы не знайшлося. Часамі, як у 1917 г., нумары выходзілі падвойнымі на ўсім працягу году. Характар часопісу пераважна культурна-гістарычны. Шмат увагі аддавалася мясцовым музэям; у комплекце за 1920 год апісаньняў працы музэяў ёсьць каля 20, за 1921 год—каля 10 і г. д. Цікавымі зьяўляюцца справаздачы Цэнтральнай Камісіі радзімазнаўства і інформацыі мясцовых організацый; у комплекце за 1917 г., напр., апошніх налічваецца каля 125.

Адначасна з „Коцісэўту" выдаваўся і часопіс на швэдзкай мове „Родны край" („Гэмбюгдэн"), які ў 1919 годзе зьмяніў назву на „Гэм ох Гэмбюгд", а ў 1926 г.—на „Свэнскбюгдэн", што азначае „Швэдзкі край". Выданьне часопісу на швэдзкай мове тлумачыцца тым, што ў Фіншчыне налічваецца каля 10% швэдаў. Фіншчына ў свой час была падпарадкавана Швэцыі і да самых апошніх часоў швэдзкая мова была пануючай. Нядаўна яе месца заняла мова большасьці насяленьня—фінская. Зараз швэдзкая і фінская мовы лічацца роўнапраўнымі, але змаганьне паміж імі яшчэ ня скончылася. Апошняе не азначае, зразумела, што фінскія швэды жадаюць далучэньня Фіншчыны да Швэцыі; іх нацыяналістычная інтэлігенцыя за швэдзкую мову як за „больш культурную". Лепшыя з фінаў лічаць, што культурныя запросы фінскага насяленьня трэба абслугоўваць на фінскай мове, так як гэта робіцца ва ўсіх старонах. Вось у такіх нацыянальных узаемаадносінах і пачаў выходзіць часопіс „Родны край" на швэдзкай мове, які фактычна ня спыніўся да гэтага часу. Фактычнае рэдагаваньне яго належала швэдзкаму таварыству „Брагэ". У апошні час пад новаю назваю яго выдае Швэдзкае таварыства прыяцеляў народнай школы. Зьместам сваім гэты часопіс адрозьніваўся ад зьместу часопісу на фінскай мове, апрача некоторых кіраўнічых матар'ялаў.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Комплект яго за | 1911 | год | складаецца з | 10 | нумароў на | 150 | бал. |
| „ | 1912 | „ | „ „ | 10 | „ „ | 152 | „ |
| „ | 1913 | „ | „ „ | 10 | „ „ | 156 | „ |
| „ | 1914 | „ | „ „ | 10 | „ „ | 160 | „ |
| „ | 1915 | „ | „ „ | 10 | „ „ | 152 | „ |
| „ | 1916 | „ | „ „ | 10 | „ „ | 156 | „ |
| „ | 1917і18 | „ | „ „ | 10 | „ „ | 152 | „ |

Як і часопіс на фінскай мове „Гэмбюгдэн" часамі выходзіў на працягу ўсяго году падвойнымі нумарамі, але лік балонак у комплектах амаль аднолькавы, апрача 1917 і 1918 г. г., на працягу якіх вышла столькі-ж нумароў у 5 кніжках, колькі ў папярэднія гады выходзіла за год. Характар часопісу таксама больш культурна-гістарычны; значная ўвага аддавалася фольклёру і быту.

Тутака да рэчы адзначыць, што мясцовы краязнаўчы друк у Фіншчыне (тэрыторыя—387,565 кв. клм., насяленьне—3.560.000 чал.) мае значныя разьмеры. На працягу 1924 году вышла каля 60 мясцовых краязнаўчых зборнікаў. Апрача таго, шматлічныя газэты і часопісы Фіншчыны зьмяшчаюць вельмі шмат краязнаўчых матар'ялаў, ня цураючыся нават анкет, абежнікаў, праграм, справаздач і д. т. п. Газэты маюць вельмі прыемную традыцыю выпушчаць спэцыяльныя багата ілюстраваныя нумары газэт, прысьвечаныя апісаньню тае або іншае парафіі. К 1912 году, такім чынам, газэты далі апісаньне звыш 110 парафій. Часамі краязнаўчы матар'ял друкуецца ў газэце з такім разьлікам, каб выняўшы, ці выразаўшы яго з газэты, можна было скласьці яго кніжкаю. Часта газэты наладжваюць конкурсы фотографій і падаюць ініцыятыву ў краязнаўчай справе.

Цэнтральная Камісія радзімазнаўства існуе на ўрадовыя сродкі, а таксама мае свае фонды. Наогул краязнаўчая справа ў Фіншчыне шчодра падтрымліваецца субсыдыямі. Часамі асыгноўваюцца вялікія сумы нізавымі адміністрацыйнымі адзінкамі, так званымі комунамі (сельсаветамі), на ўкладаньне слоўніка мовы свае тэрыторыі ці на якое іншае вывучэньне яе. Парафіі (раёны) клапоцяцца ўкладаньнем карт сваіх тэрыторый, іх гісторыі і інш. і выдаюць такія працы на свае сродкі. Тутака трэба яшчэ адзначыць выданьне пагубэрскага апісаньня Фіншчыны пад назваю „Суомэнмаа“. Яго вышла ўжо шэсьць частак. Гэта надзвычайна дакладнае і падрабязнае апісаньне старааны зьяўляецца выходным пунктам працы кожнага краязнаўцы.

Апрача мясцовых краязнаўчых організацый, якія аб'ядняюцца Цэнтральнай Камісіяй радзімазнаўства, у Фіншчыне існуюць і такія па сутнасьці краязнаўчыя організацыі, якія абхопліваюць сваёй дзейнасьцю вялікія часткі Фіншчыны, або ўсю яе. Узорам апошніх можа зьяўляцца таварыства Брагэ. Цэнтральнае праўленьне яго стала краязнаўчым цэнтрам для ўсяго швэдзкага насяленьня Фіншчыны. Аддзяленьні таварыства ёсьць у шмат якіх гарадох Фіншчыны. Само таварыства заснавалася ў 1906 годзе з мэтаю зьбіраньня народнай поэзіі, музыкі, танцаў, касьцюму і інш. і вывучэньня іх, а таксама развою. Гэта таварыства здолела злучыць сур'ёзную навукова-краязнаўчую працу з задаваленьнем попыту насяленьня на культурную забаву. Праца таварыства выявілася ў самых розных відах. Апрача колекцыянаваньня і вывучэньня музыкі, фольклёру і інш. адпаведна сваім мэтам, таварыства: а) організоўвала краязнаўчыя концэрты, спаборніцтвы мясцовых музыкантаў і сьпевакоў, маніфэстацыі ў мясцовых народных касьцюмах, сходы з дакладамі і лекцыямі, хоры, прадстаўленьні з мясцовага народнага жыцьця і г. д.; б) уклала колекцыю выразаных з усіх газэт, часопісаў і інш. выданьняў прац, артыкулаў і заметак, датычных жыцьця фінскіх швэдаў і тэрыторыі, якую яны засяляюць; в) апрацавала і выдала інструкцыю для ўкладаньня фольклёрных колекцый; г) інсцэнавала і выдала сялянскае вясельле, а таксама—вельмі шмат народных песень з нотамі і прац сваіх сяброў аб фінскіх швэдах, іх жыцьці і атачэньні і г. д. Колекцыі таварыства складаюцца з фольклёрных запісаў, грамафонных пласьцінак з народнымі песьнямі, запісаў мясцовых гаворак, узораў народных тканін і гарнітураў, портрэтаў музыкантаў з народу, этнографічных рысункаў, карцін і інш. Злучыўшы так кажучы разумовае краязнаўства з пачуцьцёвым гэта таварыства прасякнула далёка ў гушчы народныя дасягнуўшы значных вынікаў у сваёй дзейнасьці.

Значнае разьвіцьцё атрымала ў Фіншчыне краязнаўства і па-за межамі краязнаўчых організацый. Першае месца ў даным выпадку

займаюць агульнафінскія навуковыя таварыствы, якія з мэтаю разьвіцьця сваёй галіны навукі выконваюць часта ўласна краязнаўчую працу. З шматлічных агульнафінскіх навуковых таварыстваў, частка якіх пералічана вышэй, для ўзору спынімся на Фінскай акадэміі навук, таварыстве флёры і фаўны і Фінскім літаратурным таварыстве.

Фінская адкадэмія навук заснавалася ў 1908 годзе як прыватнае навуковае таварыства. Падобна ўсім іншым навуковым таварыствам акадэмія мае вялікія грашовыя фонды, атрыманыя ў якасьці ахвяр. Яны складаюць удзячны матар'яльны грунт для дзейнасьці акадэміі. Яна мае вельмі шмат сваіх каштоўных выданьняў. Ёю-ж выдаецца міжнародны фольклёрны часопіс. Пакуль што акадэмія зьмяшчаецца



Музэй на высьпе; сялянскі двор.

ў будынку Фінскага літаратурнага таварыства, але ўжо ёсьць проект пабудовы свайго ўласнага будынку.

Таварыства флёры і фаўны заснавалася ў 1821 годзе. Яно мае каля 600 членаў, з якіх больш паловы жыве на провінцыі. Як правіла, кожны прыродазнаўца зьяўляецца членам гэтага таварыства, шмат матар'ялаў атрымліваецца таварыствам з месц, але ня менш здабываецца шляхам экспэдыцый. Пачынаючы з 1848 году таварыства выдае шэраг каштоўных выданьняў: „Гэрбарны музэй Фіншчыны“, „Акты“ і інш. Ніякі краязнаўца-дасьледчык мясцовай прыроды ў сваёй працы ня можа абыйсьціся без знаёмства з гэтымі выданьнямі.

Найбольш цікавым у краязнаўчым стасунку зьяўляецца Фінскае літаратурнае таварыства. Яно заснавалася 97 год таму назад. Аб'яднае аматараў і вучоных і мае навукова-дасьледчы характар. Вялізную і каштоўную працу зрабіла таварыства ў галіне зьбіраньня фінскага фольклёру і ўкладаньня слоўніка мясцовых гаворак і слоўнікаў новай і старой літаратурнай фінскай мовы. Практычныя слоўнікі ў Фіншчыне ўкладаюцца ўрадовымі камісіямі. Слоўнікі старой і новай мовы ўкладаюцца звычайным спосабам. Значную дапамогу, як і ва ўсякай навуковай працы, робяць студэнты пад кіраўніцтвам профэсара фінскае мовы. Часамі даецца заданьне выпісваць словы арыштантам. Усе словы выпісваюцца на карткі па галінах веды: тэхніка,

права і д. т. п. Значна больш складаная праца зьбіраньня слоўніка мясцовых гаворак фінскае мовы.

Гэтая праца пачалася таварыствам у 1895 годзе. Амаль праз 30 год, а ўласна ў 1924 годзе, пры таварыстве ўтварыўся слоўнікавы легат для выкананьня працы па зьбіраньні і ўкладаньні слоўніка мясцовых гаворак. Спачатку ён разумеўся як своеасаблівае акцыянэрнае таварыства, але ў тым-жа 1924 годзе парлямант даў легату грашовую дапамогу. З 1924 па 1927 год уключна легат ад ураду атрымаў у відзе такой дапамогі адзін мільён марак. Таварыства і надалей спадзяецца, што ўрад будзе даваць субсыдыю на слоўнікавую працу па тысяч чатырыста марак у год. Уся праца зьбіраньня слоўніка гаворак мае працягнуцца яшчэ год дзесяць. Пасьля гэтага тэрміну мяркуецца распачаць рэдагаваньне і выданьне яго. Таварыства скарыстоўвае на гэтую працу ня толькі свае сродкі і субсыдыі ўраду, але і сумы афяраваныя на гэта прыватнымі асобамі, а таксама асыгнаваньні камун на ўкладаньне слоўнікаў мовы свае тэрыторыі. Перасылка матар'ялаў у легат і лістоў апошняга робіцца поштай дарэмна.

Само зьбіраньне слоўнікавых матар'ялаў робіцца спэцыялістымі і падрыхтаванымі студэнтамі пераважна экспэдыцыйным спосабам. У апошнія часы легат імкнецца набраць такіх падрыхтаваных працаўнікоў, якія-б доўга жылі на адным месцы ў провінцыі, ад чаго-б выйграла якасьць самой работы. Сталыя колектары (зьбіральнікі) за сваю працу атрымліваюць каля 3.000 марак (150 руб.) у месяц. Да іх працы таварыства адносіцца з поўным давер'ем і яны настолькі добрасумленныя, што для іх якой-небудзь контрольнай лічбы слоў-картак ня існуе. Колькі зьбіральнік за даны месяц зьбярэ слоў—столькі ён іх пасылае ў легат; само сабою ясна, што больш ён іх сабраць ня мог, а калі-б мог,—сабраў-бы і прыслаў-бы. Легат лічыць, што вычэрпваючы запіс і вывучэньне слоў аднае гаворкі можа быць выканана адным чалавекам на працягу трох год. Летам легат пасылае экспэдыцыі па чалавек 20—30 для зьбіраньня слоў. У мінулым 1927 годзе адна такая экспэдыцыя ў складзе 20 асоб працавала ва ўсходняй частцы Фіншчыны, каля мяжы з СССР. Часамі атрымліваюцца матар'ялы і адказы на анкеты з месц. Той з аматараў, які прышле пэўны лік матар'ялаў ці адказаў на анкетныя запытаньні, атрымлівае вызначаную ўзнагароду.

Зьбіральнікі слоўніка ў Фіншчыне забясьпечаны кіраўнічымі матар'яламі. Яшчэ ў 1899 годзе Фінскім літаратурным таварыствам выданы быў вялікі орыентовачны слоўнік для зьбіральнікаў. У апошнія часы ім-жа перавыдана кніжка аб мэтодах зьбіраньня слоў і аб практыцы ранейшых зьбіральнікаў. Разам выдана брошура аб тым, як выбраць мясцовага чалавека, ад якога трэба запісваць словы. Этнографічныя працы выдатных вучоных часткамі раздадзены зьбіральнікам на прадмет праверкі, ці існуюць у народзе такія народныя тэрміны, якія ёсьць у гэтых працах, высьвятленьне іх сучаснага значэньня, адценьняў сэнсу і вымаўленьня і г. д. Выдаецца часопіс „Шукальнік слоў" („Сапастайя").

У легаце ёсьць багаты матар'ял у справе кіраваньня зьбіральніцкай працай: карты мясцовасьцяй, дзе словы сабраны і дзе не, карты ліку сабраных матар'ялаў, каталёгі зьбіральнікаў і інш.

Усіх слоў-картак у легаце ёсьць каля 1.250.000. Апрача таго таварыствам зьбіраецца слоўнік фінскай карэльскай мовы, слоў-картак якога налічваецца ўжо каля 500.000. Карткі разьмешчаны па камунах і па альфабэту, што дазваляе лёгка азначыць географію слоў.

Апрача слоўнікавай працы таварыства мае вялікія дасягненьні

ў справе зьбіраньня фінскага фольклёру. Колекцыі запісаў яго займаюць вялізнае памяшканьне. Гэта нязьлічонае багацьце запісаў дае магчымасьць мець усе адменьнікі і рабіць запраўды навуковую апрацоўку іх. Фінскі фольклёр ужо амаль увесь сабраны таварыствам і даныя колекцыі яго лічацца аднымі з найбагатшых у Эўропе.

Таварыства мае свае вялікія грашовыя фонды, якія часта раней дарыліся прыватнымі асобамі, а таксама значную ўрадовую субсыдыю і невялікія сумы членскіх складак. Гэтаму таварыству належаць найбагатшыя колекцыі фінскіх выданьняў. Таварыства мае сваё выдавецтва, якое дае прыбытак; ім выдаюцца поўныя зборы твораў пісьменнікаў, пераклады клясыкаў, фольклёр, слоўнікі і д. т. п.

Вельмі цікаваю зьяваю ў фінскім навуковым жыцьці зьяўляецца Дом навуковых таварыстваў. Усе навуковыя агульнафінскія таварыствы зьмяшчаюцца ў гэтым доме, апрача Фінскага літаратурнага, якое зьмяшчаецца ў сваім уласным доме і дае памяшканьне Фінскай акадэміі навук. Дом навуковых таварыстваў займае вялізарны будынак з заляю для паседжаньняў, рознымі службовымі пакоямі і бібліотэку, быць можа на паўмільёна кніг, сабраную выключна шляхам абмену, прычым па самых розных галінах веды.

Яшчэ большую дапамогу маюць мясцовыя краязнаўчыя організацыі ад музэяў. Іх налічваецца ў Фіншчыне каля 46. Частка музэяў, а ўласна—24, утварылі агульнафінскі саюз музэяў. Рэшта музэяў у саюз не ўваходзіць. Саюзам склікаюцца зьезды музэйных работнікаў, выдаюцца працы зьездаў і інш. выданьні, організуецца дапамога мясцовым музэям радамі і інш., абмен колекцыямі і г. д. Мясцовыя музэі маюць пераважна культурна-гістарычны характар. Жывуць на дапамогу ад гарадоў і самаўрадаў, а таксама на сродкі розных таварystваў. Большасьць мае ўласныя памяшканьні. Вельмі шмат музэйнай працы на мясцох выконваецца дармова. Мясцовыя музэі маюць навуковае і асьветнае значэньне; чыста навуковымі музэямі зьяўляюцца цэнтральныя. Пры мясцовых музэях існуюць музэйныя таварыствы або мясцовыя краязнаўчыя організацыі. Такім чынам яны часта зьяўляюцца месцам усёй мясцовай краязнаўчай працы.

З музэяў сталіцы Фіншчыны—Гэльсінак—асаблівую цікавасьць для краязнаўцы маюць Нацыянальны музэй і Музэй на высьпе Фэлізон. Фінскі нацыянальны музэй зьмяшчаецца ў прыгожым, вялізным, спэцыяльна для яго пабудаваным будынку. Апрача апошняга, на музэйным двары ёсьць вялікае памяшканьне для такіх экспонатаў, як чаўны, калёсы, невады, сані і інш. Музэй складаецца з двох аддзелаў: гістарычна-археолёгічнага і этнографічнага, колькасьць экспонатаў у якіх амаль не паддаецца ўлічэньню. Экспозыцыя мае строга вытрыманы краязнаўчы характар па краёх і эпохах.

Музэй на высьпе Фэлізон займае ўсю выспу. Ён складаецца з цэлых сялянскіх двароў, дамоў, хат, цэркваў, млыноў, вялізных пастак на розных зьвяроў і г. д. у іх натуральным атачэньні. Гэтыя двары і інш. перавезены сюды з розных краёў Фіншчыны і адноўлены ў іх ранейшым стане з поўным абсталяваньнем, прыладамі, начыньнем і д. т. п. Музэй дзівіць сваёй вялізарнасьцю, сваім сьмелым замыслам і сваім строгім прынцыпам навуковасьці, праведзеным у яго організацыі. Утвораны гэты музэй па прыватнай ініцыятыве пры дапамозе грамадзкіх сіл і дзяржавы. Ён цесна зьвязаны з Нацыянальным музэем.

Найбольш цікавым у краязнаўчым стасунку з матар'ялаў Нацыянальнага музэю зьяўляецца яго архіў мясцовасьцяй, у якім па прыходах ёсьць выразкі з газэт адносна гэтага прыходу, пляны яго, фотографіі і д. т. п. Увесь час гэты архіў папаўняецца і асабліва інтэн-

сыўна ў галіне мясцовых помнікаў старасьветчыны, мастацтва, прыроды і быту.

Апрача музэяў і навуковых таварыстваў краязнаўчая праца часамі выконваецца рознымі ведамствамі—Геолёгічнай камісіяй, Статыстычнай управай і інш. з мэтаю задаваленьня сваіх ведамсьцьвенных інтарэсаў. У гэтай галіне неабходна ўспомніць дзяржаўную археолёгічную камісію і Экскурсійную камісію Міністэрства народнай асьветы, Археолёгічная камісія складаецца з штату музэю і старшынёю яе зьяўляецца дырэктар музэю. Мэтаю яе зьяўляецца ахова помнікаў, якою яна і кіруе. Непасрэдную ахову выконваюць на аснове асобнага закону аб ахове ўласьнікі помнікаў ці зямлі, на якой яны знаходзяцца, а таксама мясцовая адміністрацыйная ўлада. На свае патрэбы камісія мае сродкі па каштарысу Нацыянальнага музэю. Экскурсійная камісія Міністэрства народнай асьветы арганізуе шмат экскурсій з асьветнымі мэтамі. На іх экскурсанты зьбіраюць фотографічны і іншы матар'ял, які часта пасьля апублікоўваецца.

Дзякуючы наяўнасьці такога вялікага ліку навуковых і краязнаўчых організацый Унівэрсытэт ня мае неабходнасьці весьці навуковую працу. Навуковы пэрсонал яго і студэнты прымаюць актыўны ўдзел у апошняй, але па лініі навукова-краязнаўчай. У сярэдняй і ніжэйшай школе радзімазнаўства займае важнае месца. У сярэдняй школе розныя ўкладаньні даюцца вучням на краязнаўчыя тэмы. Ацэнку іх робіць камісія з трох вучняў і выкладчыка. Часта дзьве-тры лепшыя працы выдаюцца звычайным друкарскім спосабам. Часамі ў школах ёсьць гурткі краязнаўства, якія маюць свае музэйчыкі. За лепшыя экспонаты выдаюцца вучням прэміі. Выкладаньне ў ніжэйшай школе адбываецца на аснове радзімазнаўства. Выкладаецца нават такая навука пад назваю радзімазнаўства. Усе іншыя прадметы з ім зьвязаны. У настаўніцкіх сэмінарыях выкладаецца мэтодыка радзімазнаўства і ёсьць свае музэі. Вучні школ для дарослых, народных унівэрсытэтаў і народных акадэмій у абавязковым парадку выконваюць часта краязнаўчую працу ў мэтах пэдагогічных. З гэтых прац варта ўспомніць зьбіраньне розных колекцый і фольклёру, сходы з дакладамі, прысьвечанымі родным мясцовасьцям і пісаньне прац, якія часта выдаюцца ўстановамі пад назваю ўспамінаў з родных месц. Калі да ўсяго гэтага ўспомніць пра курсы па радзімазнаўству, якія часамі організоўваў унівэрсытэт, дык мы ўбачым, што ў Фіншчыне справа падрыхтоўкі краязнаўцаў наладжана сама сабою даволі добра. Таму амаль усё насяленьне пераконана ў карысьці навукі і краязнаўства і апошняе мае месца нават у войску. Пра дапамогу краязнаўчай справе розных асьветных таварыстваў і інш. грамадзкіх організацый і гаварыць няма чаго. Кірканумскі саюз моладзі ўвёў нават абавязковыя штогадовыя адлічэньні сваіх членаў па 500 марак (25 руб.) на працягу 1924—1930 году на выданьне краязнаўчай працы аб сваёй мясцовасьці.

Пры такім узроўні разьвіцьця краязнаўства і пры такім веданьні свае краіны ня дзіва, што краязнаўчы прынцып даволі рэзка выявіўся ў фінскім мастацтве наогул і літаратуры прыватна. Ды яно і зразумела—бяз удзелу мастацтва ў шырокім сэнсе слова краязнаўства не дасягнула-б такіх вынікаў. Гэта даводзіцца адным прыкладам працы таварыства Брагэ. Больш шырака краязнаўства выявілася ў працы наступных пісьменьнікаў і мастакоў: Ійво Гэркёнэна, Аксэля Гартмана, Алі Мунстэр'ельма, П. Атэра, А. Эльгэнбэрга, Ф. Эстэрблёма, І. Кюхкюнэна, А. Луоманэна і інш. Першы з іх зьяўляецца асабліва сьвежым і робіць моцны ўплыў на агульнае культурнае разьвіцьцё свае радзімы—Карэліі.

**М. Дабратворскі.**

# Чмялі-зязюлі (Hymenoptera, Psithyridae).

Дзіўная назва, а між тым вельмі ўдалая; гэтыя шасьціножкі, як і ўсім вядомая птушка зязюля, адкладаюць яйцы ў чужое гняздо, а самі не клапоцяцца аб сваім патомстве.

У вясну, калі толькі растае сьнег і зацьвітуць першыя кветкі — пачынаюць абуджацца чмялі-зязюлі. Хоць яны сустракаюцца ў нас ня рэдка, але адрозьніць іх ад запраўдных чмялёў, асабліва ў прыродзе, ня лёгка, бо яны вельмі да іх падобны. Нават старыя энтомолёгі не адрозьнівалі іх паміж сабой, але-ж калі чмель-зязюля трапіць вам у рукі, і вы больш уважліва яго разгледзіце, то адразу ўбачыце розьніцу паміж ім і запраўдным чмялём. Вядома, што чмялі, як і нашы звычайныя пчолы, зьбіраюць з кветак пылок і мёд для сваёй чарвы. Для зьбіраньня пылку ў пчол і чмялёў ёсьць спэцыяльны апарат на задніх нагах, які называецца кошычкам, праўда з надворнага боку ён на кошык ня вельмі падобны, але служыць ім, як звычайны: туды яны зьбіраюць пылок.

Гэты кошычак пабудаваны вельмі проста: галёнка, якая ў іншых шасьціножак круглая, у чмялёў з надворнага боку роўная і бліскучая, на ўсёй паверхні зусім непакрытая валасамі, і толькі на краёх мае густыя доўгія шчацінкі. Вось гэты апарат, які зьяўляецца характэрным для чмялёў, у чмялёў-зязюль адсутнічае, а галёнка круглая і ўся густа пакрыта валасамі. Дзеля гэтага чмялі-зязюлі ня могуць зьбіраць пылок і самастойна гадаваць уласную чарву.




P s i t h y r u s v e s t a l i s;
1. самка; 2. Задняя нага з надворнага боку,
а—галёнка, б—пятка.

Задняя нага чмяля;
1. Кошычак.

У вясну мы бачым чмялёў і чмялёў-зязюль, занятых, як-быццам, аднолькавай працай; яны лётаюць нізка над зямлёй, лазяць у мышыныя норы і дасьледуюць розныя шчылінкі і ямінкі. Першыя шукаюць зручнага памяшканьня для пабудовы гнязда, а другія—ужо пабудаваных чмялямі гнёзд; для абодвых гэта нялёгкая задача, а асабліва чмялю-паразыту, бо мала знайсьці гняздо чмяля, але трэба знайсьці такога віду, які быў-бы да яго падобны па афарбоўцы. Вельмі рэдка бываюць выпадкі, калі паразыт інакш афарбаваны, чым гаспадар гнязда.

Калі чмель-зязюля знайшоў адпаведнае гняздо, то ён там робіцца поўным гаспадаром. Спачатку, калі ў чмялінае гняздо трапіць такі па-

разыт, то чмялі на яго нападаюць і прабуюць прагнаць, але, звычайна, хутка супакойваюцца і далей не зьвяртаюць увагі на няпрошанага госьця.

Чмель-зязюля прыносіць шкоду гнязду галоўным чынам тым, што зьядае вельмі многа запасаў як сам, так і яго чарва. Дзякуючы гэтаму чмялям прыходзіцца галадаць, праўда, бываюць выпадкі, калі паразыт забівае самку чмяля —заснавальніцу гнязда.

Пасяліўшыся ў чмяліным гнязьдзе, чмель-зязюля там праводзіць амаль што цэлы дзень, а к канцу лета перастае зусім вылятаць і займаецца адкладкай яечак, з якіх потым вылупліваецца чарва, якая корміцца пылком і мёдам, сабраным чмялямі.

Чмяліная сям'я, у якой завёўся чмель-зязюля, дзякуючы недахопу корму, вельмі слаба размнажаецца і к канцу лета можа ня даць маладых самак; такім чынам прысутнасьць чмяля-зязюлі губіць усю чмяліную сям'ю.

К канцу лета выводзяцца маладыя чмялі-зязюлі—самкі і самцы. Пасьля запладненьня самак самцы гінуць, а самкі зімуюць дзе-небудзь у сухіх лісьцях, ці пад якім-небудзь карчом.

Сямейства чмялёў-зязюль не багата відамі, у нас можа быць іх каля 7 відаў. Табліцу для азначэньня самак ніжэй зьмяшчаю *).

У часе палёту чмялёў-зязюль лёгка адрозьніць ад запраўдных чмялёў па крыльлях. У першых яны заўсёды цёмныя, а ў другіх празрыстыя.

### Азначальная табліца.

1. Канец чэраўца чырвоны альбо рыжы, бяз белых валасоў . . 2
— Канец чэраўца белы альбо жоўты, калі рыжы то 3-4 сэгмэнты белыя . . . . . . . . . . 3
2. Вялікі, чорны, канец чэраўца чырвоны. Грудзі ўсе чорныя, ці сьпераду жоўтыя. Крыльлі чорныя з фіялетавым бляскам. **P. rupestris** F.
— Меншай велічыні (14-17 м. м.). Крыльлі менш зацемнены. Чэраўца больш абкруглёнае. Рэдкі від. **P. globosus** Ewersm.
3. Канец чэраўца белы, ці жоўты, 1-2 апошнія сэгмэнты з чорнымі валасамі . . . . . . . . . . 4
— 1-2 апошнія сэгмэнты рыжыя. Першы і другі сэгмэнты чэраўца чорныя 3—4 белыя, 5 чорны. Грудзі сьпераду жоўтыя. Рэдкі від. **P. quadricolor** Lep.
4. Грудзі сьпераду і ззаду пакрыты сьветлымі валасамі . . 7
— Грудзі толькі сьпераду пакрыты жоўтымі валасамі . . 5
5. Пятка вузкая, вузей, чым вяршына галёнкі. Дробны від. 1. і 2. сэгмэнты чэраўца чорныя, 3. і 4. белыя, астатнія чорныя, самы апошні часта з няяснымі рыжымі валасамі. (глядзі § 3). **P. quadricolor** Lep.
— Пятка шырокая . . . . . . . . . . 6
6. Грудзі толькі сьпераду сьветла-жоўтыя. Аснаваньне чэраўца чорнае, канец белы, апошнія сэгмэнты з прымешкай чорных валасоў. **P. distinctus** Pérez.
— Вельмі падобен да папярэдняга, грудзі сьпераду рыжавата-жоўтыя. Рэдкі від. **P. vestalis** (Fourcr.).
7. Апошні сэгмэнт чэраўца (трыкутны) бліскучы. Грудзі жоўтыя, толькі пасярэдзіне чорная паласа, якая часта да аснаваньня

*) Табліца складзена так, каб па ёй можна было адзначаць нашых Psityrus'оў бяз лупы. Азначэньне самцоў без мікроскопу ці добрай лупы немагчыма, таму я ня прыводжу табліцы для іх азначэньня.

крыла робіцца няяснай ад прымешкі жоўтых валасоў. Аснаваньне чэраўца чорнае, канец жоўты.

**P. campestris** Panz.

— Апошні сэгмэнт чэраўца цьмяны. Чорная паласа на грудзёх больш рэзкая, чым у папярэдняга. Канец чэраўца белы, часам жоўты. **P. Barbutellus** K.

**В. Купрэвіч.**

# Да пытаньня аб ахове прыроды.

У апошнія часы справам аховы прыроды аддаюць шмат увагі. Мы маем шэраг вельмі каштоўных артыкулаў, інструкцый і іншага друкаванага матар'ялу аб гэтым пытаньні. Праглядаючы гэтую літаратуру, пераконваемся, што справа аховы прыроды з боку, гэтак кажуцы, агітацыйнага выглядае ня так ужо кепска. Аднак гэта нікольki не перашкаджае надзвычайна кепскай пастаноўцы справы аховы прыроды на мясцох. Зьвяртаючыся непасрэдна да прыроды, мы бачым не ахову, а бязьлітаснае яе зьнішчэньне: сыстэматычна і няўхільна выбіваюцца рэшткі цікавых сысуноў, бессардэчна зьнішчаюць тысячы птушак, выкараняюць рэдкія расьліны.

Я дазволю сабе прывесьці адпаведныя факты такога зьнішчэньня. У мінулым годзе мной быў складзены асобны апытальнік, які мелася на ўвазе высьветліць факты руйнаваньня птушыных гнёзд сялянскімі дзяцьмі. Апытальнік, пры дапамозе сяброў школьнага краязнаўчага гуртка*), быў запоўнены ў ліку 128 паасобнікаў. У запаўненьні апытальніку прымалі ўдзел 128 сялянскіх дзяцей (узростам ад 11 да 15 год), якія давалі весткі па 20 вёсках раёну (Смалявіцкага). Пастаноўка самай працы па запаўненьні апытальніку бадай-што цалкам выключала няверныя адказы. У выніку апрацоўкі сабранага матар'ялу я атрымаў наступныя лічбы:

1. 128 асобамі, якія далі адказы, уласнаручна зруйнавана (за лета 1926 году) наступная колькасьць гнёзд (з яечкамі або птушанятамі):

| | | |
|---|---|---|
| Варон (corvus cornix L.) | 251 | гняздо. |
| Вераб'ёў (Passer domesticus і P. montanus) | 263 | „ |
| Жаўранкаў (Alauda arvensis) | 87 | „ |
| Ластавак (Hirundo rustica) | 83 | „ |
| Сарок (Pica caudata) | 56 | „ |
| Шпакоў (Sturnus vulgaris) | 49 | „ |
| Галубоў (Columba livia Briss) | 48 | „ |
| Ястрабаў (Розн. віды) | 44 | „ |
| Плісак (Matacilla flava) | 36 | „ |
| Дзятлаў (Dendrocopus major і D. minor Koch) | 35 | „ |
| Драздоў (Turbus pilaris) | 32 | „ |
| Качак (Галоўн. чынам Anas boschas, L.) | 19 | „ |
| Соек (Garrulus glandarius) | 18 | „ |
| Соў (розн. віды) | 16 | „ |
| Кнігавак (Vanellus cristatus) | 15 | „ |
| Цецярукоў (Tetrao tetrix, L.) | 11 | „ |
| Салаўёў | 6 | „ |
| Удотаў (Upupa epops) | 3 | „ |
| Птушак, невядомых руйнаваўшым | 298 | „ |
| Усяго зруйнавана 128 хлапцамі | 1370 | гнёзд. |

*) Пры Смалявіцк. белар. сямігодцы.

Падкрэсьліваю, што прыведзеныя весткі ў адносінах колькасьці гнёзд магчыма лічыць дакладнымі. Назвы птушак запісаны на падставе вывучэньня сабраных матар'ялаў.

2. Па 20-ці абсьледваных вёсках, што складае прыблізна $^1/_3$ населеных пунктаў раёну, зруйнавана за лета 1926 году агулам—4273 гнязды. Весткі трэба лічыць прыблізнымі.

Перад намі жудасны малюнак зьнішчэньня птушак. Асяродкавай фігурай у гэтай справе зьяўляецца наш вясковы хлапец (падлетак). Праўда, апошні не застаецца адзінокім: неабходна дадаць аналёгічную дзейнасьць катоў, сабак ды бязьмернай колькасьці браконьераў.

Ня лепей стаіць справа з аховай і іншых компонэнтаў жывое прыроды. Кожны год можна бачыць паляўнікоў на куніц, выдраў, белак, дзікаў, глушцоў і інш. І гэта не зьяўляецца ні для каго сакрэтам. Конкрэтных мер да барацьбы ніхто ня прымае. Справа абмяжоўваецца простай „агітацыяй“, якая звычайна „вісьне ў паветры“.

Так справа заставацца ня можа. Трэба прымаць азначныя крокі, а то будзе позна.

Проф. А. Фядзюшын у сваім артыкуле „Ахова прыроды і школа“[1]) кажа, што выратаваньне рэшткі нашай ужо вельмі ўбогай жывой прыроды і далейшае яе падтрыманьне і ахова знаходзяцца ў руках настаўніцтва. Наколькі праўдзіва гэта зацьвярджэньне, можна бачыць з таго, што ўсе 128 падлеткаў, дзейнасьць якіх прыводзілася вышэй, зьяўляюцца вучнямі мясцовых школ. Ясна—ахова прыроды можа быць зьдзейсьнена толькі праз школу.

Такім чынам, перад настаўнікам вясковай школы паўстае новая задача—гэта—уплыў на вясковага хлапца з мэтай выхаваньня ашчадных адносін да прыроды, а таксама азнаямленьне падлетка (і насельніцтва) з адпаведнымі ведамі аб жыцьці і значэньні ў экономіі прыроды і жыцьці чалавека некаторых прадстаўнікоў жывое і мёртвае прыроды. Прыведзеныя мэты ня толькі не пярэчаць агульным мэтам выхаваньня і асьветы ў савецкай школе, а нават уваходзяць у склад апошніх.

Прыглядаючыся да працы вясковае школы, мы з упэўненасьцю можам сказаць[2]), што выхаваньне і асьвета ў гэтым кірунку зьяўляецца **выпадковай** адзнакай пэдагогічнага процэсу ў данай школе. Прычынай такога становішча зьяўляецца заняпаўшае агульнае палажэньне школьнага прыродазнаўства, як з боку яго програмнага зьместу, так і з боку мэтодаў выкладаньня.

Відавочна, пры такой выпадковай пастаноўцы выхаваньня ашчадных адносін да прыроды, ніякіх дадатных вынікаў чакаць нельга. Мала карысьці дадуць (і даюць) і такія прыёмы, як організацыя „птушыных дзён“, або „дзён пасадкі дрэў“, ці будова дуплянак і т. п., калі ўсе гэтыя прыёмы ня вынікаюць, як лёгічны вывад, з самай працы школы па выхаваньні падлетка ў азначаным кірунку, а зьяўляюцца проста „ўрачыстым“ выпадкам у яе працы. Што выхаваньне магчыма толькі пры наяўнасьці **працяжнага** ўплыву, аб гэтым ніхто спрачацца ня стане. Аднак аб гэтым вельмі часта забываюць.

Вясковаму хлапцу беларусу нельга адмовіць у такіх прыродных уласьцівасьцях, як дабрата, замілаваньне, дапытлівасьць, імкненьне да фізычнай і разумовай працы. Такім чынам, у нас маюцца ўсе неабходныя даныя да выхаваньня і асьветы падлетка ў кірунку, які забясьпечвае ашчадныя адносіны да нашае, і без таго ўжо абрабаванае жывое прыроды.

[1]) Гл. „Наш Край“ № 8—9, 1926 г.

[2]) У адносінах да большасьці школ.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

В. Самцэвіч.

## м. Лагойск (Менскай акругі).

### Палажэньне і надворны выгляд мястэчка.

М. Лагойск цяпер зьяўляецца цэнтрам Лагойскага раёну Менскай акругі, а да раёнаваньня было валасным асяродкам Лагойскае воласьці Барысаўскага павету, б. Менскай губ.

Мястэчка знаходзіцца на адлегласьці 44,8 клм. ад Менску, 48 клм. ад Барысава і 30 клм. ад бліжэйшай чыгуначнай ст. Вітгенштэйнская (Смалявічы) Маск.-Бел.-Балт. чыгункі. З г. Менскам, Барысавам і бліжэйшымі мястэчкамі (Плешчаніцы і Смалявічы) Лагойск зьвязаны грунтавымі дарогамі. У 1927 годзе ўжо распачаты работы па правядзеньні шасы Лагойск—Менск. Грунтавыя дарогі даюць магчымасьць нормальна зносіцца з вакольнымі вёскамі раёну ва ўсе поры году; масты і грэблі адноўлены і знаходзяцца ў лепшым становішчы, чым былі ў даваенныя часы. Найлепшымі дарогамі лічацца: дарога на Менск, на м. Плешчаніцы, на Барысаў. Далёкая адлегласьць мястэчка ад чыгункі не дазваляе яму, па нашай думцы, разьвіцца ў больш буйны экономічны і культурны цэнтр.

З паўночнага захаду на паўднёвы ўсход праз м. Лагойск па ледавіковай даліне працякае рака Гайна—правая прытока р. Бярэзіны. Правы бераг ракі Гайны каля Лагойску багаты крыніцамі з чыстай і прыемнай на смак вадой. Па некаторых літаратурных даных у Лагойску на левым беразе ракі Гайны, супроць касьцёлу, у 50-х гадох мінулага стагодзьдзя быў невялікі курорт з жалезістымі і сернымі крыніцамі, дзе лячыліся ад рэўматызму, нэрвовых хвароб і паралюшу. Старажылы па гэтым пытаньні даюць супярэчныя паказаньні. У мінулым годзе гэтыя крыніцы дасьледвала спэцыяльлння камісія з Менску. Крыніцы гэтыя цяпер у поўным заняпадзе. Шырыня ракі Гайны каля мястэчка дасягае 25 мэтраў, глыбіня ад 2 да 5 мэтр. У рацэ водзяцца шчупакі, плоткі, акуні, ляшчы, налімы, пескары, ліны. Сіла рачной вады выкарыстоўваецца для прывядзеньня ў дзейнасьць вадзяных турбін-рухавікоў; у мястэчку ёсьць вадзяны млын; другі млын і крупадзёрка маецца ў саўхозе Луцаўшчына (1 клм. ад Лагойску па плыні ракі).

Навакол мястэчка па абодвых берагох ракі паверхня хвалістая, пакрытая лесам і гаямі; то цэлымі невялікімі градамі, то паасобку раскінуты лясістыя ўзгоркі, што прыдае прыгожы выгляд ваколіцам мястэчка. Берагі ракі паросшы вольхай.

Мястэчка распаложана ў нізіне (лог-Лагожеск-Лагожск-Лагойск) на правым беразе ракі Гайны. На левым беразе маецца 4 двары, касьцёл і пошта („Жыр“).

У мястэчку маюцца наступныя вуліцы: Савецкая (б. Віленская), Комунальная (б. Касьцёльная), Комсамольская (б. Замкавая), Смалявіцкая, Барысаўкая, вул. Профінтэрна (б. Мікольская) і перавулкі: Завозерскі. Банны, Чырвоны Роў. Брукаваны толькі гэткія вуліцы: Савецкая, частка Барысаўскай і Замкавая (плян).

Праз раку Гайну праведзены драўляны мост у 1920 г.[1]); ёсьць таксама драўляныя масткі праз ручай Вапенец па дарогах Барысаўскай, Смалявіцкай і на Менск.

Асьвятляецца Лагойск электрычнасьцю, якая праведзена ў 1921 г.[2]).

У мястэчку ёсьць паштова-тэлеграфнае аддзяленьне і каса ашчэднасьці.

Будынкаў у мястэчку налічваецца 695, з іх 681 драўляных і 14 каменных, крытых саломай 241, гонтам—450, жалезам—4.

Комунальных жылых дамоў: драўляных 17 і каменных 2. Выдатных будынкаў у Лагойску няма. Воддаль ад мястэчка (0,75 клм.), уверх па плыні р. Гайны, з правага яе боку стаіць былўшы графскі палац (цяпер у ім знаходзіцца РВК і іншыя раённыя ўстановы).

У адносінах да пажараў м-ка досыць небясьпечна з прычыны скучанасьці дамоў па Савецкай і Барысаўскай вуліцах, прычым дамы ўсе драўляныя, крытыя гонтам альбо саломай.

Вялікі пажар адбыўся ў 1920 г., калі белапалякі пры адступленьні спалілі больш паловы Савецкае вуліцы, млын і мост праз р. Гайну. Савецкая ўлада шчыра дапамагала пагарэльцам адбудаваць новыя дамы.

З 1911 г. для аховы м-ка ад пажараў існуе пажарная дружына (54 чал.)[3]), маецца пажарнае дэпо і неабходныя пажарныя прылады, якія патрабуюць рамонту.

### Гістарычныя весткі і помнікі старасьветчыны.

Першыя зьвесткі аб Лагойску належаць да XII ст. Лагойск уваходзіў у склад зямель Полаччыны і перажываў асноўныя моманты яе (Полаччыны) гісторыі. У 1128 г. у час барацьбы паміж полацкімі і кіеўскімі князямі Лагойск адыходзіць да Кіева. З перамогай палачан (Усяславічаў) Лагойск зноў пераходзіць пад уладу Полацка, але ў ім былі свае князі ў XII і XIII ст. У часы Літоўскае дзяржавы Лагойск дастаецца брату Ягайлы Скіргайлу, а потым Вітаўту, які ўзмацніў і пашырыў замак у Лагойску і перадаў потым горад свайму пляменьніку Андрэю Ўладзімеравічу. У XV ст. Казімер IV падараваў Лагойск князю Аляксандру Чартарыскаму і такім чынам Лагойск зрабіўся прыватна-ўласьніцкім. Дагэтуль-жа ён быў гаспадарскім. У часы барацьбы перакопскай горды з Менскім княствам Лагойск быў зусім зруйнованы ў 1505 годзе Махмэт-Гірэем, насельніцтва было выразана. Разбуран быў замак і спалена ў замку старая Багаяўленская царква з праваслаўным манастыром. У 1517 годзе Лагойск пераходзіць у якасьці пасагу за дачкой Сямёна Чартарыскага да Васіля Тышкевіча (ваяводы Падляскага), які ў 1531 г. адбудаваў замак (разбураны татарамі) і пабудаваў драўляную Багаяўленскую царкву.

У часы вайны са швэдамі (1701-1721) горад з замкам і Багаяўленскай царквой былі спалены. Лагойск прышоў у занапад і быў пра-

---

[1]) Стары мост быў спалены белапалякамі пры адступленьні.

[2]) Сьпярша электрычнасьць была праведзена ў 1918 г., але пры адступленьні белапалякамі была спалена дынамо-машына.

[3]) Зорганізавана па ініцыятыве Н. Яршова (н-ка пошты).

даны Тышкевічамі жмудзкаму біскупу Тышкевічу, які заснаваў у замку уніяцкі манастыр у 1752 г. *).

У 1918 г. Лагойск быў окупаваны немцамі, а ў 1919 г. белапалякамі (з жніўня 1919 г. па ліпень 1920 г.), якія сваёй полёнізатарска-клерыкальнай політыкай, рабаваньнем і зьдзекамі над насельніцтвам, асабліва яўрэямі, пакінулі жудасныя ўспаміны. Пры адступленьні перад

**Плян м. Лагойска**

Чырвонай арміяй дэзорганізаванае польскае войска спаліла большую частку Савецкай (б. Віленскай) вуліцы і млын. Тушыць пажар было забаронена; ва ўсіх, хто імкнуўся што-небудзь выратаваць ад пажару, стралялі.

Калі разглядаць плян Лагойску ад 1865 г., дык мы ўбачым яшчэ існаваўшыя наступныя будынкі: пад № 1—Прачысьценскую царкву, на месцы якой потым пабудована каменная Мікалаеўская царква; царква гэтая існуе да гэтага часу; пад № 2—Спаскую царкву (цяпер на месцы яе застаўся толькі могільнік); пад № 3—Мікольскую царкву, руіны якой зьнішчаны зусім нядаўна ; пад № 4—касьцёл (існуе цяпер). Апрача таго, замчышча, дзе была Багаяўленская царква і базыліянскі манастыр, ўжо заворана і там засаджана садам.

Левы бок дарогі з мястэчка ў палац (дзе цяпер б. графскі сад) і таксама мясцовасьць, дзе цяпер стаіць палац, як сьведчаць старажылы,

*) Россія, под ред. В. П. Семенова, т. IX, стр. 409-411. Досыць добра выкладзена гісторыя Лагойску і яго ваколіцы Сяльца. Да гэтае крыніцы мы і накіроўваем жадаючых азнаёміцца з ёй.

была заселена. Частка гэта—лічылася некалі, трэба думаць, прыгарадам Лагойску і насіла назву „Загарадзьдзе“ (і да гэтага часу так завецца). У пачатку XIX ст. граф Тышкевіч перасяляе цэлы шэраг сем‘яў з „Загарадзьдзя“ (нават усю вуліцу, дзе цяпер сад) у розныя вёскі [1]). У 1815 г. пры р. Гайне будуецца новы палац, што існуе і да гэтага часу [2]), потым насаджваецца вялікі (каля 20 дз.) пладовы сад на „ачышчаным“ ад сялян месцы.

У ляску на ўзгорку за садам раней была Юраўская (Георгіевская) царква; цяпер застаўся толькі могільнік.

У 50-я гады мінулага сталецьця Канстантынам Тышкевічам у палацы быў адчынены музэй і бібліотэка. У музэі знаходзіліся розныя рэчы, якія былі знойдзены пры раскопках курганоў—могільнікаў (Тышкевічам і Кіркорам): пярсьцёнкі, маністы, бранзалеты, а таксама 2 старых мячы з пазалочанымі малюнкамі Стэфана Баторыя, сьцяг, які быў узяты ў швэдаў, шабля Пятра I., каля 200 карцін італьлянскага малярства і колекцыі этрускіх ваз [3]). Старажылы сьведчаць, што бібліотэка была надзвычайна вялікая на расійскай, польскай і розных чужаземных мовах. Частку музэю ў 1905 г. купіў археолёг Татур, а остатнюю частку музэю і бібліотэку ў 1910-11 г. Юзэф Тышкевіч перавёз у Вільню. Найменш каштоўныя рэчы і экземпляры кніг былі часткай зьнішчаны ў 1917 г. і канчаткова ў часы окупацый.

Замчышча мае ў даўжыню каля 85 саж., у шырыню—больш 30 саж., навакол абведзена шырокім ровам і аднэй стараной прылягае да нізкага балоцістага берага р. Гайны. Замчышча зараз узарана, ёсьць фруктовы сад, некалькі будынкаў. З Комсамольскай вуліцы (б. Замковай) праз роў праведзена насыпная дарога ў замчышча, а раней тут праз роў замчышча злучалася з мястэчкам драўляным мастом на сваях (цяпер засталіся толькі рэшткі свай у зямлі).

## Насельнікі мястэчка і іх заняткі.

У мястэчку налічваецца 346 двароў з насельніцтвам у 1776 чал Рост і склад насельніцтва можна бачыць з наступнае табліцы:

| ЧАС | Яўрэяў | Белар. | Расійц. | Палляк. | Інш. | Усяго | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 50-я гады XIX ст. | — | — | — | — | — | больш 1500 | Россия, под ред. В. П. Семенова т. IX, стр. 410 |
| 1900-1905 г. . . | 685 | Лі | чбы | нявя | домы | 1180 | |
| 1927 г. . . . . | 1014 | 712 | 4 | 34 | 12 | 1776 | паводле даных сельсавету. |

Думаецца, што лічба насельніцтва 1180 чал. для дзевяцісотых гадоў ня зусім адпавядае запраўднасьці, бо асаблівага росту мястэчка за апошнія два дзесяцігодзьдзі не прыкмячалася. На вялікі жаль, статыстычных матар‘ялаў для гэтага часу знайсьці на месцы не ўдалося.

Яўрэі зьявіліся ў мястэчку ў пачатку XIX ст. (1808 г.). Пій Тышкевіч для павялічэньня сваіх прыбыткаў знайшоў необходным пашырэньне ў мястэчку гандлю. З гэтай мэтай з Барысава вызваны былі 4 сям‘і яўрэяў, якім даны былі некаторыя прывілеі, адпушчаны лес на пабудову,

[1]) Сем‘і Беляговічаў, Галдовічаў—у в. Гасьцілавічы.

[2]) Раней палац быў каля возера пад в. Заазер‘е, у 1,5-2 клм. на паўднёвы ўсход ад мястэчка.

[3]) Россия, под ред. В. П. Семенова, т. IX, стр. 410.

дровы для апалу і інш. Пасьля гэтага лік яўрэяў гандляроў пачаў з кожным годам павялічвацца; яўрэі сталі прыбываць з розных месц і патрохі папаўняць панскую казну.

Па роду заняцьцяў насельніцтва разьмяркоўваецца наступным чынам:

| Род заняцьця | Земляр. | Рамесьн. | Гандляр. | Служач. | Інш. |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік двароў . . | 144 | 69 | 87 | 44 | 2 |

Землеробствам займаецца беларуская і часткай польская насельнасьць мястэчка; яўрэі пераважна заняты гандлем, рамесьніцтвам і часткай служаць; 3 яўрэйскія сям'і ў апошнія гады атрымалі зямельныя надзелы і займаюцца сельскай гаспадаркай.

Прыродныя ўмовы і ўраджайнасьць глебы спрыяюць заняцьцю сельскай гаспадаркай. Забясьпечанасьць гаспадарак зямлёй характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Колькасьць зямлі | Да 1 дз. | Ад 1 да 2 дз. | Ад 2 да 3 дз. | Ад 3 да 5 дз. | Ад 5 да 8 дз. | Ад 8 да 16 дз. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік гаспадарак . | 12 | 14 | 28 | 43 | 40 | 7 | 144 |

З агульнага ліку гаспадарак серадняцкіх налічваецца 61,8%, кулацкіх—толькі адна гаспадарка, а 37,5%—бядняцкіх. У сучасны момант у зямлякарыстаньні сялян знаходзіцца пахатнай зямлі 392,64 дз., пад сенажацямі—102,77 дз. і інш. 29,36 дз., усяго 524,77 дз. Да Кастрычнікавай рэволюцыі было 476,44 дз.; прыбавілася 48,33 дз. з былых памешчыцкіх і царкоўных зямель.

Частка былых батракоў экономіі Тышкевіча ўтварыла сел.-гаспадарчы колектыў. Гаспадарка мае 54 дз. пахатнай зямлі і 20 дз. сенажаці; колектыў вядзе гаспадарку досыць добра. Пераважная большасьць графскіх зямель каля Лагойску адышла пад савецкую гаспадарку Луцаўшчына.

Недахоп зямлі ў значнай меры адчуваецца бядняцкай часткай насельніцтва і часткай серадлякамі. Пазбавіцца зямельнага крызісу можна было-б толькі больш інтэнсыўным вядзеньнем гаспадаркі. У сучасны момант сыстэма гаспадаркі зернавая, сыстэма паляводзтва—парушаная трохпалёвая. Пераходу на шматпольле перашкаджае цераспалосіца і шматпалосіца. Найбольш пашыранымі і пераважнымі палявымі культурамі зьяўляецца: жыта, авёс, бульба, ячмень, пшаніца. Сяўба кармовых траў пашырана слаба. Досыць пашырана сяўба лубіну для ўгнаеньня. Сярэдняя ўраджайнасьць наступная (у пудох): жыта—48 пуд, ячмень—45 пуд, авёс—50-55 пуд, пшаніца—45 пуд., бульба—750-800 пуд з дзесяціны.

Гародніцтва, садоўніцтва і пчалярства слаба пашыраны і маюць спажывецкі характар. Прамысловае значэньне маюць сады: б. графскі (каля 20 дз.), у савецкай гаспадарцы Луцаўшчына (каля 10 дз.) і часткай б. Вержбаловіча (цяпер комун. гаспадаркі) ёсьць адна культурна-паказальная пасека.

У мястэчку маюцца наступныя прамысловыя прадпрыемствы: 3 маслабойкі, 3 ваўначоскі, цагельня, два млыны з лесапілкай у Лу-

цаўшчыне. Рамесьнікаў і саматужнікаў налічваецца 69 сем'яў: ёсьць краўцы, шаўцы, кавалі, сталяры, возчыкі, цырульнікі і інш.

Разьмеркаваньне іх (рамесьнікаў і саматужнікаў) па розных галінах вытворчасьці можна бачыць з наступнае табліцы:

| Род заняткаў | Шаўцоў | Краўцоў | Кавалёў | Возчыкаў | Загатоўшч. | Шапашнік. | Сталяроў | Бляхароў | Калёсьнікаў | Муляраў | Цагельш. | Шкляроў | Цырульнік. | Гадзіншчык. | Пекароў | Фарбараў | Смалакураў | Алейнікаў | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць асоб | 23 | 26 | 15 | 23 | 5 | 3 | 2 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | 4 | 1 | 2 | 5 | 118 |

У 80 і 90 гады мінулага сталецьця пашыраны быў выраб плугоў, якія збываліся партыямі ў г. Барысаў для продажы. У 1837 г. К. Тышкевічам была заснавана і працавала да 60-х гадоў ткацкая фабрыка, якая знаходзілася на месцы б. валаснога праўленьня (цяпер яўрэйская школа). Будынкі для кватэр і сталоўкі знаходзіліся ў прадмесьці Жыр. На фабрыцы працавалі прыгонныя (20—25 чал.), выключна мужчыны; набіралі іх падлеткамі і навучалі ткацтву. Першыя майстры вызваны былі з Польшчы. Выраблялiся: абрусы, сарвэты, ручнікі з рознымі малюнкамі і палатно досыць добрай якасьці. Пража загатаўлялася на бліжэйшых вёсках і здавалася на фабрыку. Вырабамі фабрыкі задавольваліся патрэбы графскага двара, галоўным-жа чынам меўся на ўвазе попыт рынку. У Луцаўшчыне ў даваенныя часы існаваў бровар.

Зорганізаваліся і працуюць колектывы: краўцоў, шаўцоў, загатоўшчыкаў і возчыкаў (возяць галоўным чынам розныя рэчы і продукты ў Менск і з Менску).

У часы вясеньняга вадазьбегу вада ў раўчаку Вапеньнік вымывае каменьні-вапнякі, з якіх сяляне мястэчка здабываюць вапну для мясцовых запатрабаваньняў; у 1,5 клм. па дарозе на м. Гайну здабываецца досыць добрая чырвоная гліна (ганчарная); каля вёскі Рудня сяляне здабываюць белую гліну для бяленьня печаў.

### Тэхніка сельскай гаспадаркі і агрономічная дапамога.

Тэхніка вядзеньня сельскае гаспадаркі паступова паляпшаецца. Зямля апрацоўваецца выключна плугамі і баронамі (у большасьці драўлянымі з зялезнымі зубамі). Першы плуг у мястэчку зьявіўся ў пачатку 80-х гадоў мінулага сталецьця і скора зусім выцесьніў саху. У сучасны момант у мястэчку ёсьць 198 плугоў (пераважна аднаконных), 4 касілкі, 4 сортыроўкі, 8 жняярак і некалькі дзесяткаў малатарань. Сельска-гаспадарчыя прылады маюцца на месцы ў сельска-гаспадарчым коопэратыве і прадаюцца па цане: малатарня 110—143 руб., барана пружынная—36 руб., плуг № 0—9 руб. 30 кап., акучнік—11 р.

У Лагойску пры РВК ёсьць раённы агроном і памоцнік. Для сялян калі-ні-калі робяцца даклады, выстаўкі. Культурна-паказальных сялянскіх гаспадарак у мястэчку няма.

### Коопэрацыя і гандаль.

Да 1917 г. у мястэчку існавала толькі крэдытнае т-ва прыблізна з лікам 200 сяброў. Гандаль знаходзіўся ў руках прыватных гандляроў. Цяпер у мястэчку ёсьць сельска-гаспадарчае крэдытнае т-ва з лікам 1173 пайшчыкі, з зваротным капіталам 5246 р. 60 к.; адчынена ў 1924 г. пры 50 пайшчыках; пазычанага капіталу 5650 руб.

Спажывецкае т-ва на 1 жніўня налічвала 1000 сяброў (пасьля перарэгістрацыі 900) з зваротным капіталам 12037 руб. Маецца 3 копэратыўных крамы: 1) бакалейная, 2) галянтарэйная і мануфакт.-скураная і 3) жалезная; прыватных крам—21. Мясцовы рынак больш чым на 50% знаходзіцца яшчэ ў прыватных руках, што ў значнай меры тлумачыцца адсутнасьцю ў коопэратыўных крамах прадметаў першай неабходнасьці.

З ліпня м-ца 1916 г. у Лагойску існуе местачковае т-ва ўзаемадапамогі, сяброў 95 г., зваротны капітал 70 руб. Камітэт сялянскай узаемадапамогі дапамагае бедняком выдачай грашовых і насенных пазык (зваротных і беззваротных), хадайнічае аб водпуску лесу ў першую чаргу. Лік сяброў—352 чал.

У лютым м-цы 1926 г. зорганізавалася пазычкова-ашчэднае крэдытнае т-ва, якое налічвае 112 пайшчыкаў; у т-ва ўваходзяць 2 арцелі: шавецка-загатовачная і сялецкая арцель гантаўшчыкоў (61 ч.). Капітал на 1 жніўня складаўся з 1020 р. 43 к. паявых і 1110 р. 55 к. укладаў.

Кірмашы ў Лагойску адбываюцца: на вясеньняга і зімовага Міколу (22 мая і 19 сьнежня) і на Спаса—19 жніўня (па н. ст.). 19 сьнежня прадаюцца: кажухі, сукно, мясцовыя бандарныя вырабы (бочкі, цабры, вёдры), гонты, абодзьдзі. 22 мая шмат прадаецца кароў. На ўсіх кірмашох прадаюцца коні, сала, каўбасы, шынкі і інш. Да вайны кірмашы праходзілі досыць ажыўлёна, за часы вайны і окупацыі былі замёрлі і зноў ажылі (хаця і не ў ранейшых разьмерах) з 1924 г. Штотыдзень у чацьвер і нядзелю бываюць кірмашныя дні, калі сяляне вакольных вёсак прадаюць прадметы хатняга вырабу і продукты гаспадаркі і купляюць патрэбныя для гаспадаркі тавары ў копэратыве і прыватных крамах.

Цэны на прадметы штодзённага ўжываньня наступныя:

| | Жыта (пуд.) | Авёс (пуд.) | Яйкі (дзесят.) | Масла (фунт) | Сала (фунт) | Малако (літр) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| У крас. і маі . . | 1 р. 80 к. | 1 р. 60 к. | 28--30 к. | 40 к. | 50 к. | 8--10 к. |
| У жніўні . . . | 1 р. 20 к. | 1 р. 40 к. | 40 к. | 50--55 к. | 50 к. | 10 к. |

Зімой фунт масла прадаецца па 80 к., яйкі—60 к. дзесятак, малако 12 к. літр.

## Народная асьвета і культасьветная праца.

У 1864 г. адчынілася першая народная школа, якая існавала да 1918 г.; яўрэйскія дзеці вучыліся ў „хэдарах“, якіх было некалькі ў мястэчку. У лютым месяцы 1918 г. у м-ку была адчынена вышэйшае пачатковае вучылішча, рэорганізаванае ў 1919 г. у школу II ст. У часы польскай окупацыі школа была зачынена і замест яе была адчынена расійская чатырохклясавая прогімназія; з 1920 г. існуе сямігадовая школа. Вучні першых выпускаў мелі добрую падрыхтоўку і агульнае разьвіцьцё, па сканчэньні сямігодкі паступалі ў розныя ВНУ. Перашкодамі ў працы сямігодкі зьяўляюцца: неадпаведнасьць будынкаў пад школу, цесната пакояў, вельмі дрэннае абсталяваньне школы, адсутнасьць габінэтаў і бібліотэкі, а таксама частая зьмена загадчыкаў і настаўнікаў. З 1919 г. працуе яўрэйская чатырохгадовая школа. У тым-жа годзе была адчынена і польская школа; у часы польскай

окупацыі яна была пашырана ў прогімназію імя Касьцюшкі, якая праводзіла полёнізатарскую політыку і сярод дзяцей беларусоў. У мінулым навучальным годзе працавалі: дзіцячы сад на 40 чал. (з беларускім і яўрэйскім аддзяленьнямі), школа рабочай моладзі для малапісьменных, вячэрняя школа для дарослых і лікпункт. Пры нардоме працавалі гурткі: політычны (30 чал.), драматычны з 2 сэкцыямі: яўрэйскай і беларускай (42 ч.), ваенны, гурток фізкультуры (120 ч.), музыкальны (12 ч.).

У бібліотэцы налічваецца 4026 кніг: на беларускай мове—389, на яўрэйскай—153 і на расійскай—3484; чытачоў—367, з іх 30% вучнёўскай моладзі.

Насельніцтва мястэчка выпісвае наступныя газэты: „Известия ЦИК ССР“—6, „Правда“—23, „Зьвязда“—39, „Беларуская вёска“—27, „Юный пионер“—26, „Юнгер арбайтэр“—5, „Чырвоная Зьмена“—9, „Крестьянская газета“—10, „Учительская газета“—6, „Савецкая Беларусь“—11, „Октябрь“—41 і інш—14; часопісаў—47; найбольш па сельскай гаспадарцы—15 („Сам себе агроном“, „Плуг“ і інш., профруху, навуковых).

Пры нардоме працуе кіноперасоўка, ставяцца спэктаклі; ёсьць радыё.

Прыкмячаецца значнае пашырэньне элемэнтаў новага быту асабліва сярод моладзі, якая ўжо мала зьвязана з царквой ці сынагогай, пазбаўлена рэлігійных забабонаў. Яшчэ 8-9 год таму назад у вышэйшай пачатковай школе і потым у школе II ст. (калі я там быў загадчыкам) прыходзілася весьці барацьбу з т. зв. „суботнікамі“—вучнямі, якія не хацелі пісаць у школе ў суботу па рэлігійных мотывах, цяпер ужо гэтага няма. Адчуваецца вялікая цяга дзяцей у піёнэры і моладзі ў ЛКСМ. Зьмяняюцца патрыярхальныя сямейныя ўзаемаадносіны, якія былі ў Лагойску досыць моцныя да часоў рэволюцыі.

## Санітарны стан і ахова здароў'я.

Санітарнае становішча мястэчка нельга прызнаць здавальняючым: вуліцы вясной і ў восень досыць гразкія, двары ў большасьці таксама брудныя. Па бакох вуліц у цэнтральнай частцы праложаны масткі (тротуары). Вадой насельніцтва карыстаецца з калодзежаў (ёсьць усяго 3), крыніц і ракі.

Хаты досыць малыя, цесныя, з нізкай стольлю. У большасьці адчуваецца недахоп сьвету і вэнтыляцыі. Адны і тыя самыя пакоі зьяўляюцца і майстэрнямі, і сталовымі, і спальнямі.

Найбольш пашыранымі хваробамі зьяўляюцца: кароста, трахома, хваробы жывата, прастуда. У мястэчку маецца раённая больніца з стацыянарным і амбуляторным лячэньнем. Праз амбуляторыю з 1 студзеня па 9 жніўня прайшло 10718 хворых рознымі хваробамі; зубалячэбны габінэт наведала 3000 чал.

Некаторыя хваробы, як рожу, лечаць бабкі-шаптухі. Наогул-жа насельніцтва зварочваецца за мэдыцынскай дапамогай.

М. Мікіцін.

# Кірмаш ў м. Клічаве Бабруйскае акругі.

(19-га студзеня 1928 г.).

*(Спроба вывучэньня зроблена вучнёўскім гуртком краязнаўства пры Клічаўскай сямігадовай школе).*

Раённым цэнтрам, мястэчкам, фактычна Клічаў зрабіўся толькі ў 1924 годзе, пасьля раёнаваньня.

Да таго часу—звычайнае сяло, з слабымі адзнакамі саматужнае прамысловасьці і дробнага гандлю, ня гледзячы, што некалі была там і шкляная гута.

Выгляду звычайнага беларускага мястэчка з яго саматужнікамі, з яго жвавым гандлем, пэрыодычнымі кірмашамі Клічаў ня меў.

Аб гэтым самым можна знайсьці зазначэньне нават у летапісу Клічаўскае царквы за 1869 год, дзе паказана, што „в Кличеве не было и теперь нет не только утвержденных правительством ярмарок, купцов, ремесленных цехов, лавок и проч., но даже нет обыкновенных по местечкам торгов".

Дый ня дзіва.

Прытуліўшыся ў самым кутку Чэрвенскага (Ігуменскага) павету, б. Менскае губэрні, збоку ад буйных шляхоў зносін—як чыгунка, шаша, воддаль ад гарадоў і мястэчак—Клічаў ня мог разьвінаць жвавы гандаль, ня мог быць тым асяродкам, дзе-б стыкаўся ў памене тавараў і продуктаў горад з вёскай і, як вынік з гэтага, ня мог мець і сваіх кірмашоў,—кірмашоў экономічнага значэньня.

Кірмашы, якія адбываліся ў Клічаве што-год 19 студзеня (6 ст. ст.) і на „сёмуху", ня мелі экономічнага значэньня, а насілі характар кірмашоў, выключна прысьвечаных дню сьвята данае царквы.

У першыя гады існаваньня Клічава, як асяродку самастойнага раёну, можна было наглядаць тое самае.

Але з цягам часу, калі Клічаў пачынае ўзбуйняцца, як раённы асяродак, пачынае ўзрастаць і яго экономічнае значэньне. Павялічваецца лік саматужнікаў, разьвінаецца гандаль і сяло ператвараецца паступова ў мястэчка. Дзеля гэтага і сьвяточныя кірмашы пачынаюць прымаць аблічча экономічнага характару.

З мэтай вывучэньня гэтага зьявішча вучнёўскім гуртком быў абсьледваны кірмаш м. Клічава 19-га студзеня 1928 году.

Даныя абсьледваньня кірмашу наступныя:

| №№ | НАЗОЎ ТАВАРУ | Кольказсьць | Прасілі | | Давалі | | На якую суму было прывезена тавару | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| | **1. Вырабы з дрэва.** | | | | | | | |
| 1 | Цэбры малыя | 3 шт. | 1 | 50 | 1 | 50 | 4 | 50 |
| 2 | Рашоты | 40 „ | — | 50 | — | 50 | 20 | — |
| 3 | Каробкі (сявачкі) | 70 „ | 1 | 30 | 1 | 20 | 91 | — |
| 4 | Сіты | 30 „ | 1 | 10 | 1 | — | 33 | — |
| 5 | Начоўкі маленькія | 2 „ | — | 35 | — | 30 | — | 70 |
| 6 | Калаўроты (самапрадкі) | 55 „ | 3 | 50 | 3 | — | 202 | 50 |
| 7 | Сані простыя | 2 „ | 3 | 50 | 3 | — | 7 | — |
| 8 | Сані „кáры" | 2 „ | 3 | — | 2 | 50 | 6 | — |
| 9 | Табурэты | 4 „ | — | 75 | — | 65 | 3 | — |

| №№ | НАЗОЎ ТАВАРУ | Колькасьць | Прасілі | | Давалі | | На якую суму было прывезена тавару | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 10 | Дугі | 5 „ | — | 50 | — | 50 | 2 | 50 |
| 11 | Верацёны | 80 „ | — | 05 | — | 05 | 4 | — |
| 12 | Бёрды | 220 „ | 1 | 10 | 1 | 10 | 242 | — |
| 13 | Лыжкі сярэднія | 310 „ | — | 03 | — | 03 | 9 | 30 |
| 14 | Лыжкі малыя | 50 „ | — | 03 | — | 02½ | 1 | 50 |
| 15 | Апалоньнікі | 55 „ | — | 10 | — | 10 | 5 | 50 |
| 16 | Канапы | 1 „ | 7 | — | 6 | — | 7 | — |
| 17 | Куфры | 2 „ | 22 | — | 20 | — | 44 | — |
| 18 | Шпулі з вілачкамі | 150 „ | — | 70 | — | 60 | 105 | — |
| | | | | | | | 788 | 50 |
| | **2. Вырабы з жалеза.** | | | | | | | |
| 19 | Сякеры | 135 шт. | 2 | 50 | 2 | 50 | 337 | 50 |
| 20 | Сьвярдзёлкі вялікія | 60 „ | 1 | 50 | 1 | 30 | 90 | — |
| 21 | Сьвярдзёлкі сярэднія | 40 „ | — | 50 | — | 40 | 20 | — |
| 22 | Сьвярдзёлкі малыя | 28 „ | — | 30 | — | 25 | 8 | 40 |
| 23 | Стругі | 13 „ | 1 | — | 1 | — | 13 | — |
| 24 | Чапёлы | 15 „ | — | 20 | — | 20 | 3 | — |
| 25 | Секачы | 20 „ | — | 45 | — | 40 | 9 | — |
| | | | | | | | 480 | 90 |
| | **3. Гліняны посуд.** | | | | | | | |
| 26 | Гладышы | 80 шт. | — | 30 | — | 20 | 24 | — |
| 27 | Гаршкі | 160 „ | — | 10 | — | 08 | 16 | — |
| 28 | Місы | 120 „ | — | 25 | — | 20 | 30 | — |
| 29 | Глякі і інш. | 100 „ | — | 10 | — | 10 | 10 | — |
| | | | | | | | 80 | — |
| | **4. Адзеньне, абутак і матар'ялы для іх.** | | | | | | | |
| 30 | Аўчыны | 25 шт. | 4 | — | 3 | — | 100 | — |
| 31 | Воўна | 4 футн. | 1 | 50 | 1 | 25 | 6 | — |
| 32 | Сукно | 35 арш. | 2 | — | 1 | 80 | 70 | — |
| 33 | Боты | 2 пар. | 19 | — | 18 | — | 38 | — |
| 34 | Лыкі | 60 пуд. | 3 | 20 | 3 | — | 192 | — |
| 35 | Шчэць | 2,5 фунт. | 1 | 20 | 1 | — | 3 | — |
| | | | | | | | 409 | — |
| | **5. Вырабы з скуры.** | | | | | | | |
| 36 | Аброці | 2 шт. | 3 | — | 2 | 50 | 6 | — |
| 37 | Гужы | 1 пар. | 4 | — | 3 | — | 4 | — |
| | | | | | | | 10 | — |
| | **6. Мясныя продукты.** | | | | | | | |
| 38 | Каўбасы | 60 фунт. | — | 35 | — | 15 | 21 | — |
| | | | | | | | 21 | — |
| | **7. Коні.** | | | | | | | |
| 39 | Коні лепшыя | 1 | 250 | — | 215 | — | 250 | — |
| 40 | Коні сярэднія | 1 | 160 | — | 130 | — | 160 | — |
| 41 | Коні горшыя | 1 | 70 | — | 50 | — | 70 | — |
| | | | | | | | 480 | — |
| | **8. Збожжа.** | | | | | | | |
| 42 | Жыта | 105 пуд. | 2 | 10 | 2 | — | 220 | 50 |
| 43 | Авёс | 25 „ | 2 | 20 | 2 | — | 55 | — |
| 44 | Ячмень | 22 „ | 2 | — | 1 | 80 | 44 | — |
| | | | | | | | 319 | 50 |
| | **9. Іншых тавараў.** | | | | | | | |
| 45 | Цукеркі, пернікі і інш. | На 10 століках | — | — | — | — | 150 | — |
| | | | | | | | 150 | — |

Такім чынам падлічыўшы ўвесь тавар, што быў зарэгістраваны, атрымоўваецца сума ў 2.738 руб. 90 кап.

Ясная справа, што такі лік тавару ня можа здаволіць запатрабаваньні насельніцтва, але самы факт, што сьвяточны кірмаш пачынае ператварацца ў кірмаш экономічнага значэньня, застаецца фактам.

Цікава адзначыць, што крамы, як прыватныя, так і коопэрацыйныя, мелі ў гэты дзень меншы зваротак, чым чакалася. Увага насельніцтва, што зьехалася на кірмаш, была адцягнута самым кірмашом.

На кірмашы было каля 2.400 чалавек.

Паводле даных падліку, паказаных у табліцы, відаць, што галоўнымі таварамі на кірмашы зьяўляліся вырабы з дрэва і жалеза. Кірмаш насіў характар сялянска-саматужніцкі.

Жывёлы амаль што ня было. Трэба тлумачыць мусіць тым, што на коні ёсьць асобны кірмаш, які заўсёды адбываецца ў м. Сьвіслачы, або езьдзяць сяляне купляць коні на Случчыну.

Неабходна зазначыць, што на кірмаш былі прывезены ня толькі тавары мясцовага вырабу, але і з іншых мясцовасьцяй. Так, гліняны посуд прывезены быў з Шклову, лыкі—з-пад Рагачэва.

На экономіцы Клічаўскага раёну наогул і ў прыватнасьці на разьвіцьці Клічава з яго кірмашамі, павінна будзе адыграць значную ролю чыгунка, якая прарэжа ўвесь раён: пройдзе ў 5-6 кілёмэтр. ад Клічава.

Матар'ялы сабраныя вучнямі гуртка даюць магчымасьць прасачыць за паступовым ператварэньнем, у сучасны момант, сёл у мястэчкі і за разьвіцьцём у іх кірмашоў.

---

# Дасьледваньне Менскага рынку студэнтамі Белпэдтэхнікуму ад 31/X-27 г.

**Прадмова.**

Як вопыт практыкі па курсу краязнаўства, які прыпадае па програме на II курс пэдтэхнікумаў, а таксама як вопыт мэтодаў правядзеньня краязнаўчай работы будучымі настаўнікамі, было ўхвалена правесьці дасьледваньне рынку (прывозу) на пляцы Парыскай Комуны (так званай раней Траецкай Гары). Плян правядзеньня досьледу быў дэтальна абгавораны на лекцыйных гадзінах. Прынялі падзяліцца на 10 груп, прыблізна ў 8-9 чалавек кожная. Былі абраны старшыні груп, выпрацаваны анкетныя запытаньні і вызначаны месцы стаянкі кожнае групы (апошняе было зроблена пры папярэднім абходзе рынку і бліжэйшых пад'язных вуліц). Анкетныя запытаньні былі разьмеркаваны паміж удзельнікамі кожнае групы так, каб кожны спэцыялізаваўся ў пэўных пытаньнях. Напр., адзін занатоўваў дровы, сена, бярвеньні; другі — коні, каровы (наогул буйную жывёлу); трэці—малочныя продукты і г. д. Практыка паказала, што старшыні некаторых груп самі зьмянілі спосаб апытаньня і запісаў, выявіўшы пры гэтым практычную ініцыятыву. Была выдзелена асобная група для абходу базару і даведваньня цэн (асабліва цікава з гэтага боку цэны запросу).

У далейшым маецца на ўвазе ахапіць падобным досьледам і прывоз на Віленскі рынак. Падаем матар'ял у тым выглядзе, як ён быў апрацаваны рэдакцыйнай колегіяй, у складзе слухачоў: М. Гарошкі, С. Ліхадзіеўскага і Ганны Пашучэнкі.

*Міх. Г.*




**Плян пляцу Парыскае Комуны.**

*Рымскія цыфры абазначаюць месца стаяньня і нумар груп.*

Групай студэнтаў Белпэдтэхнікуму пад кіраўніцтвам выкладчыка Тэхнікуму М. Грамыкі 31 кастрычніка 1927 году было праведзена дасьледваньне рынку на пляцы Парыскай Комуны (т. зв. Траецкай гары). Студэнты, разьбіўшыся на групы па 8-9 чалавек (а ўсіх груп было 9), праводзілі рэгістрацыю прывезенага і прыведзенага на рынак, вартуючы на пад'ездах да пляцу. Рэгістрацыя цягнулася 3 гадзіны ад 6 да 9 гадз. раніцы. Прыяжджаючым на рынак даваліся пы-

таньні аб тым, што і колькі вязецца, а таксама пра адлегласьць сядзібы прадаўца ад Менску. Была вызначана асобная група, якая апытвала цэны прывезеных тавараў у разгары самога гандлю.

Усіх фурманак, што прыехалі на базар, было 1042; людзей на іх прыехала 1276, з іх мужчын 1052 і жанчын 224. Выявілася, што найбольш фурманак зарэгістравалі групы V, VI і VIII, г. зн. з усходняга боку ад рынку (глядзі плян пляцу Парыскай Комуны).

Трэба адзначыць тую акалічнасьць, што дасьледаваньне праводзілася ў час палявой уборкі (бульбы). З гэтае прычыны на рынак прыехала фурманак і людзей мала ў параўнаньні з іншымі часамі.

Сярэдняя адлегласьць месцажыцьця прыехаўшых ад Менску, як выявілася, такая maximum—35 вёрст, minimum—8 вёрст.

Ніжэй падаецца таблічка, у якой паказана назва і колькасьць прывезенага і прыведзенага тавару і яго кошт.

| № | НАЗВА ТАВАРУ | Колькасьць | Просяць |  | Даюць |  |
|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
|  | **А. Жывёлы** |  |  |  |  |  |
| 1 | Коні (сярэдні конь 10 год) | 52 | 100 | — | 80 | — |
| 2 | Жарабяты (пярэзімкі) | 26 | 250—300 | — | 230—250 | — |
| 3 | Каровы | 69 | 130—150 | — | 110 | — |
| 4 | Цяляты | 12 | 17 | — | 15 | — |
| 5 | Авечкі | 16 | 15 | — | 12 | — |
| 6 | Сьвіньні | 174 | ? | — | ? | — |
| 7 | Падсьвінкі | 44 | 35 | — | 30 | — |
| 8 | Куры | 234 | 1 | 80 | 1 | 60 |
| 9 | Кураняты |  | — | 80 | — | 50 |
| 10 | Гусі | 109 | ? | — | ? | — |
| 11 | Качкі | 4 | ? | — | ? | — |
| 12 | Заяц | 1 | ? | — | ? | — |
|  | **Б. Збожжа і мука** |  |  |  |  |  |
| 13 | Жыта | 108 пуд. | 1 | 40 | 1 | 30 |
| 14 | Авёс | 96 „ | 1 | 50 | 1 | 20 |
| 15 | Ячмень | 24 „ | 2 | — | 1 | 80 |
| 16 | Мука ячменная | 2 „ | ? | — | ? | — |
| 17 | „ пшанічная | 4 „ | ? | — | ? | — |
| 18 | Бульба | 827 „ | — | 50 | — | 40 |
| 19 | Льнянае семя | 4 п. 5 ф. | ? | — | ? | — |
|  | **В. Гароднiна і садавіна** |  |  |  |  |  |
| 20 | Капуста | 314 п. | — | 70 | — | 50 |
| 21 | Цыбуля | 10 п. 20 ф. | 3 | — | 2 | 50 |
| 22 | Часнок | 5 ф. | ? | — | ? | — |
| 23 | Яблыкі | 1052 п. | 2 | — | 1 | 70 |
|  | **Г. Сена і салома** |  |  |  |  |  |
| 24 | Сена | 268 п. | — | 80 | — | 70 |
| 25 | Салома | 67 п. | — | 50 | — | 40 |
| 26 | Віка | 12 п. | ? | — | ? | — |
| 27 | Сечка | 273 п. | ? | — | ? | — |
| 28 | Мякіна | 6 вазоў | ? | — | ? | — |
| 29 | Дровы | 36 вазоў | $3_{50}$.4 | — | 3 | — |
|  | **Д. Малочныя і мясныя продукты** |  |  |  |  |  |
| 30 | Масла | 5 п. 12 ф. | — | 90 (1ф.) | — | 90 (1ф.) |
| 31 | Сыр | 5 п. 20 ф. | — | 70-95 „ | — | 50-30 „ |
| 32 | Малако | 814 літр. | — | 13 | — | 13 |
| 33 | Сьмятана | 45 літр. | — | 75 | — | 70 |
| 34 | Сала | 26 п. | — | 45 (ф.) | — | 45 (ф.) |

| № | НАЗВА ТАВАРУ | Колькасьць | Просяць Руб. | Просяць Кап. | Даюць Руб. | Даюць Кап. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 35 | Каўбасы | 3 п. 30 ф. | ? | — | ? | — |
| 36 | Мяса (бараніна) | 18 п. 20 ф. | 10 (пуд) | — | — | — |
| | **Е. Яйкі, ягады, грыбы** | | | | | |
| 37 | Яйкі | 115 дзес. | — | 70 | — | 60 |
| 38 | Грыбы | 3 п. 6 ф. | 1 | 35 (ф.) | 1 | 25 |
| 39 | Ягады | 25 ф. | ? | — | ? | — |
| | **Ж. Драўляныя вырабы і пасуда** | | | | | |
| 40 | Дошкі—10 арш. 1 вярш. | 159 штук | 2 | 50 | 2 | — |
| 41 | Калоды—4 арш. 4 вярш. | 23 „ | 4 | — | 3 | — |
| 42 | Цабэркі | 144 „ | ? | — | ? | — |
| 43 | Бочкі | 40 „ | ? | — | ? | — |
| 44 | Кашы | 15 „ | ? | — | ? | — |
| 45 | Даёнкі | 11 „ | ? | — | ? | — |
| 46 | Кадушкі | 18 | ? | — | ? | — |
| 47 | Балеі | 22 | ? | — | ? | — |
| 48 | Кублы | 5 | ? | — | ? | — |
| 49 | Ночвы | 15 | ? | — | ? | — |
| 50 | Рамы ваконныя | 20 | ? | — | ? | — |
| 51 | Абады | 88 | 2 | — | 1 | 50 |
| 52 | Палазы | 6 | ? | — | ? | — |
| 53 | Кара | 3 возы | ? | — | ? | — |
| 54 | Драбіны | 3 шт. | ? | — | ? | — |
| 55 | Гліняная пасуда | 800 шт. | ? | — | ? | — |
| | **З. Іншае** | | | | | |
| 56 | Воўна | 34 ф. | ? | — | ? | — |
| 57 | Палотны | 120 арш. | — | 40 | — | 30 |
| 58 | Палавікі | 20 арш. | ? | — | ? | — |
| 59 | Кажухі | 2 шт. | ? | — | ? | — |
| 60 | Шчаціна | 1 ф. | ? | — | ? | — |
| 61 | Мох | 16 вазоў | 10 | — | 6 | — |
| 62 | Вугаль | 13 „ | ? | — | ? | — |
| 61 | Прышчэпы | 27 шт. | 1 | 50 | ? | — |
| 64 | Венікі | 100 „ | ? | — | ? | — |

Некалькі слоў аб тым, з якога боку найбольш мы мелі пэўнага віду прывезенае і прыведзенае на рынак. Так, выявілася, што коняй найбольш зарэгістравала група I, II, і V; кароў—групы V, і I; сьвіней—I, II, III, IV; сена і салома правозілася ў большасьці па Шырокай і Комунальнай (рэгістравалі групы VII і VI). Палатняных вырабаў было больш зарэгістравана групай V-ай; збожжа—I, III, і VIII-ай; гародніны—I, V і VIII-ай; курэй—II, V і VIII-ай. Грыбы найбольш рэгістравала VIII і IX група; бандарныя вырабы—IV і IX; дровы VIII і IX-ая групы.

Што тычыцца агульных уражаньняў ад дасьледваньня, то трэба сказаць наступнае:

Дасьледваньне прайшло досыць організавана; студэнты аднесьліся да справы сумленна. Адказы пры апытваньні даваліся прыяжджаючымі ўвогуле ахвотна, хоць для гэтага і патрэбен быў вядомы падыход з боку студэнтаў. Часта прыходзілася даваць тлумачэньні аб мэтах гэтае справы.

Рэд. Колегія *М. Гарошка, С. Ліхадзіеўскі, Г. Пашучэнка.*

# Програмы, анкеты і інструкцыі.

Статут зацьверджаны 9/III-1928 г.
Прот. СНК № 36, § 489,
прот. КПЗ № 32, § 235.

## Статут Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры.

1. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры вядзе сваю працу пад навуковым кіраўніцтвам Прэзыдыуму Інстытуту Беларускае Культуры і дае яму справаздачы аб сваёй дзейнасьці.

2. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства:

а) накіроўвае і дапамагае працы краязнаўчых організацый БССР і пашырэньню іх сеткі;

б) дапамагае кразнаўчым організацыям БССР коордынаваць сваю працу з дзейнасьцю дзяржаўных і навукова-краязнаўчых устаноў;

в) падлічае краязнаўчую працу ў БССР;

г) распрацоўвае мэтоды краязнаўчае працы.

д) популярызуе ідэі краязнаўства з мэтаю прыцягненьня да краязнаўчае справы шырокіх колаў працоўных;

е) організуе і праводзіць усебеларускія краязнаўчыя зьезды і конфэрэнцыі і ўдзельнічае ў акруговых і раённых краязнаўчых конфэрэнцыях.

3. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства выдае пэрыодычныя друкаваныя органы і паасобныя працы па краязнаўчых пытаньнях, мае права організоўваць бібліотэкі і розныя навукова-дапаможныя ўстановы, курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы працаўнікоў краязнаўства і г. д.

У в а г а. Працу па пытаньнях краязнаўства ў асьветных установах Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ўзгадняе з Народным Камісарыятам Асьветы.

4. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства трымае сталую сувязь з аналёгічнымі ўстановамі Савецкіх рэспублік.

5. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства выбіраецца на Ўсебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе на два гады з прадстаўнікоў навуковых, навукова-краязнаўчых і савецкіх устаноў, грамадзкіх організацый і акруговых таварыстваў краязнаўства.

Лік членаў Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і норма прадстаўніцтва ў ім устаноў і організацый вызначаюцца Ўсебеларускім Краязнаўчым Зьездам.

6. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства выбірае Прэзыдыум у складзе 7 асоб і зацьвярджае плян яго дзейнасьці.

7. Пленум Цэнтральнага Бюро Краязнаўства склікаецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

8. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства мае членаў-корэспондэнтаў.

9. Члены-корэспондэнты Цэнтральнага Бюро Краязнаўства выбіраюцца Пленумам па прапанове Прэзыдыуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства з асоб, якія самастойна вядуць сталую краязнаўчую працу (досьледы, збор і апрацоўка матар'ялаў і інш.) і выконваюць паасобныя заданьні Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

10. Члены-корэспондэнты выбіраюцца на тры гады і маюць станоўчы голас на ўсебеларускіх краязнаўчых зьездах.

11. Члены-корэспондэнты раз на год даюць Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства інформацыю аб сваёй краязнаўчай дзейнасьці.

12. Сродкі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства складаюцца:

а) з асыгнаваньняў па каштарысу Інстытуту Беларускае Культуры;

б) з прыбыткаў ад продажы выданьняў, лекцый, выставак і д. т. п.

13. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства мае пячатку са сваёю назваю.

---

# Програма для запісваньня помнікаў вуснай народнай творчасьці.

Вусная народная творчасьць наогул і народныя песьні ў прыватнасьці мелі, а часткай маюць і цяпер вялікае значэньне ў жыцьці народаў: яны ў большасьці выпадкаў выяўляюць грамадзкія ўзаемаадносіны, звычаі і народны быт, народны сьветапогляд, а іншы раз і гістарычныя падзеі.

Вусная народная творчасьць, якая захавалася ў народзе да нашых дзён, вядзе свой пачатак з сівой мінуўшчыны; зарадзілася яна разам з мовай і разьвілася ў агульна-славянскі кругабег, калі вызначыліся яе сюжэты і тэмы; у сувязі з насаджэньнем на старадаўных крывічанскіх землях хрысьціянства ў зьмест народнай творчасьці ўносяцца новыя мотывы, якія выцясьнілі і зьмянілі шэраг народна-нацыянальных сюжэтаў і мотываў.

### Што трэба запісваць?

Пры зьбіраньні дайшоўшых да нашага часу помнікаў вуснай народнай творчасьці, зьбіральнік напаткае наступныя іх віды:

1. *Замовы.* Замовы былі першым відам вуснай народнай творчасьці, узьнікшыя ў першабытнага чалавека. Замовы падзяляюцца на дзьве групы: 1) паганскія замовы і 2) замовы з хрысьціянскімі элемэнтамі. Першы від замоў у народзе не захаваўся; усе-ж замовы, якія можна знайсьці ў сучаснай вёсцы, зьяўляюцца вынікам блытаніны паганскіх і хрысьціянскіх элемэнтаў. Пры дапамозе замоў чараўнікі хацелі прымусіць прыроду адхіліць непажаданыя ім зьявы або прыцягваць да сябе тыя ці іншыя прыродныя сілы.

Замовы складаюцца з наступных груп: I) Адносіны да прыроды (адносіны да марозу, ад засухі, для затрыманьня віхору, загаворы ў часе навальніцы і г. д.) II) Адносіны да мітолёгічных істот (ад „дамавога“, „лесавога“, „вогненнага зьмея“, „нячыстай сілы“ і г. д.). III) Промыслы і занятк і (земляробства, дагляд за жывёлай, паляваньне, рыбны промысел, пчалярства і г. д.). IV) Адносіны грамадзянскія (ад зладзеяў, ад дрэннага чалавека, пры адпраўленьні да

прадстаўнікоў улады і г. д.). V) Прыватны быт (пасьля сну, перад сном, пры адпраўленьні ў дарогу, пры адшукваньні кладу і г. д.) VI) Здароўе і хваробы (пры родах, ад болі зубоў, ад хваробы вачэй, ад трасцы, ад укусу зьмяі і шалёнага сабакі і г. д.). VII) Шлюб (замовы, зьвязаныя з вясельлем, прываблiваньне жаніха, затрыманьне вясельнага поезду, каб муж любіў жонку і г. д.) VIII) Каханьне (замовы, зьвязаныя з каханьнем).

2. *Загадкі.* Загадкамі называюцца кароткія народныя творы, дзе аб прадмеце гаворацца пры дапамозе вобразаў, якія маюць аддаленае да яго падабенства. Думаюць, што загадкі ўзьніклі разам з замовамі, хаця трэба адзначыць, што значная колькасьць іх пранікла ў народ у сувязі з пісьменнасьцю, пачынаючы ўжо з XI ст. Найбольш старадаўнымі загадкамі зьяўляюцца тыя з іх, якія зьявіліся ў выніках мітычных прадстаўленьняў і зьвязваюцца з прыроднымі стыхіямі.

Загадкі трэба запісваць, якія зьвязаны з рознымі павер'ямі і бытам; чалавекам і часткамі яго цела; дзеямі чалавека; ежай і піцьцём; вопраткай і абуткам; будоўляй і яе часткамі; мэбляй і манаткамі; запражкай і земляробнымі прыладамі; жывёлай; расьлінамі; вадой і каменьнямі; стыхіяй; зьявамі прыроды; нябеснымі сьвяціламі; часткамі году і дня і г. д.).

3. *Прыказкі.* Прыказкі таксама зьяўляюцца адным з старадаўных відаў вуснай народнай творчасьці—гэта кароткія выразы, якія выказваюць погляд аб якой-небудзь зьяве або рэчы, зьяўляючыся, паводле беларускага іх зьбіральніка Ів. Насовіча „народнай моральна-практычнай філёзофіяй“.

Прыказкі маюць наступныя падзелы: I) прыказкі са сьлядамі паганскіх вераваньняў і абрадаў; II) прыказкі гаспадарчага характару; III) прыказкі са сьлядамі гістарычных падзей; IV) прыказкі са сьлядамі хрысьціянскіх вераваньняў; V) прыказкі са сьлядамі грамадзкасьці—„міру“; VI) прыказкі са сьлядамі сямейнага быту; VII) прыказкі, якія адбілі моральныя прадстаўленьні; VIII) прыказкі юрыдычнага характару; IX) прыказкі аб багацьці і беднаце; X) прыказкі, якія малююць характары людзей; XI) прыказкі на розныя жыцьцёвыя выпадкі і інш.

4. *Казкі.* Казкай называецца прозаічны народны твор, які ў сваёй аснове мае непраўдападобны і гумарыстычны зьмест. Казкі паходжаньне сваё вядуць з дагістарычных часоў і сваім зьместам даюць адбіткі тагочаснага побыту і вераваньняў. Апрача казак трэба запісваць і іншыя прозаічныя творы, якія маюць характар апавяданьняў, легенд і г. д.

Пры запісваньні казак, апавяданьняў і легенд вызначаюцца наступныя тэмы: I) Аб зьвярох і жывёлах; аб птушках; аб кузурках і г. д. II) Казкі з дзеямі ў іх: сонца, марозу, грому, маланкі, віхору, навальніцы, ветру, дажджу. III) Казкі пра бабу-ягу, кашчэя-бясьсьмертнага, аб зьмеях, аб аднавокім людаедзе; казкі пра чараўнікоў і ваўкалакаў і г. д. IV) Казкі сямейныя і соцыяльна-бытавыя, як, напрыклад, пра злую мачыху і добрую падчарыцу, аб мужыку і пану, папу і чорце і г. д. V) Апавяданьні і легенды аб розных мясцох, курганох, гарадзішчах, каменьнях, расьлінах, рэчках, балотах, царквох, абаротнях; апавяданьні гістарычныя, аб паншчыне, голадзе; гумарыстычна-сатырычныя творы, жарты і г. д. VI) Апавяданьні з уласнага жыцьця казальнікаў на ўсялякія жыцьцёвыя зьявы: пераезд на другое месца, пра страхі, спатканьні з чараўнікамі, аб вайне, рэволюцыі, окупацыі, паншчыне і г. д.

5. *Калядныя песьні.* Калядныя песьні сьпяваліся ў часе дагістарычных сьвяткаваньняў і абраднасьцяй зімняга сонцавароту; песьні гэтага цыклю і зьвязаныя з імі звычаі насілі земляробны характар. У сучасны момант калядныя песьні падзяляюцца на дзьве групы: 1) група з песьнямі, у якіх захаваліся відавочныя сьляды паганскіх уяўленьняў і 2) група з мотывамі хрысьціянскімі. Найбольшую цікавасьць мае першая група, другая група амаль што заўсёды кніжнага паходжаньня.

Калядныя песьні складаюцца з наступных відаў: песьні, якія сьпяваюцца на Коляды (Раство), на Новы Год, на Васільля, батлейкі і рацэі, шчадроўкі і песьні пры розных калядных гульнях, напр. каза, яшчар і інш.

6. *Песьні на масьленку.* Песень гэтага цыклю захавалася мала, бо масьленічныя сьвяткаваньні ўваходзілі ў цыкль веснавых сьвяткаваньняў, ад якіх яны былі адарваны хрысьціянствам.

7. *Веснавыя песьні.* Песьні і абрады гэтага цыклю зьвязваюцца з провадамі зімы, заклікаsuccessfulньнем вясны і некаторымі земляробнымі мотывамі; у гэтым цыклі асабліва цікавы валачобныя песьні, якія, паводле аўтарытэтнага сьведчаньня акад. Карскага, існуюць выключна ў беларусаў. На зьбіраньне валачобных песень трэба зьвярнуць найбольшую ўвагу.

Веснавыя песьні падзяляюцца на песьні, што сьпяваюцца ў вялікі пост; у часе абрадаў замыканьня і адмыканьня вясны; на вялікадня (валачобныя), на саракі, Юр'ю і Міколу.

8. *Русальныя песьні.* Русальныя песьні і звычаі, якія першапачатна зьвязваліся з паганскай мітолёгіей і з ушанаваньнем дрэў і кветак, душ памершых продкаў, у сучасны момант амаль што зьнішчыліся зусім.

Песьні гэтага цыклю маюць наступныя назовы: куставыя, граныя, траецкія, духаўскія, песьні на „зялёныя сьвяткі". маёвыя набажэнства.

9. *Купальскія песьні.* Песьні гэтага цыклю зьвязваліся з сьвяткаваньнем летняга солнцастаяньня, калі сілы прыроды дасягалі найбольшай меры свайго разьвіцьця. Купальскія абрады ўзьніклі аднachасна з калянымі, але іх нешматлікія мотывы, дайшоўшыя да нас, мала захавалі старадаўніх рыс.

Песьні гэтага цыклю маюць назовы: купальскія, песьні на „Пятра і Паўла", ярыловіца—песьні на Ярылу і пятроўскія.

10. *Песьні пры працы.* Асабліва цікавы тут песьні і звычаі зьвязаныя са жнівом, на якія перанесены некаторыя рысы дагістарычных звычаяў і вераньняў.

Песьні пры працы падзяляюцца на групы: зажыначныя, на постаці, дажыначныя, ярныя, спарышовыя, талочныя, сенакосныя і г. д.

11. *Хрэзьбінскія і дзіцячыя песьні.*

12. *Вясельныя песьні.* Песьні і абрады гэтага цыклю маюць дужа многа рысак дагістарычных узаемаадносін нашых продкаў; тут знаходзім, напрыклад, яўныя сьляды „умыканьня" і куплі-прадажы нявесты, а таксама і іншыя матар'ялы аб дагістарычных звычаях і вераваньнях.

Вясельныя групы маюць наступныя віды: песьні, якія сьпяваюцца на заручыны, пры суглядах, пры пасадзе, каравайныя, пры наезьдзе на цясьцёў двор, пасьля вянца, пасьля першай ночы і г. д.

13. *Хаўтурныя галашэньні.* На гэты від народнай творчасьці зьвяртаецца дужа мала ўвагі, між тым, як галашэньні даюць цікавы матар'ял для вывучэньня народных поглядаў і забабонаў на загробнае надземнае і загробнае падземнае жыцьцё нябожчыкаў.

Галашэньні адбываюцца пры пахаваньні нябожчыкаў, у часе памінак, на раданіцу і ў траецкую суботу.

14. *Бытавыя песьні і прыпеўкі.* Бытавыя песьні і асабліва прыпеўкі зьяўляюцца продуктам навейшага пахаджэньня, але, ня гледзячы на гэта, іх трэба запісваць, бо яны даюць матар'ял для вывучэньня ўмоў сучаснага быту сялянства.

Бытавыя песьні паводле свайго зьместу падзяляюцца на групы: бяседныя, любоўныя, песьні аб сямейным жыцьці, салдацкія, арыштанцкія, разбойніцкія, прыгонныя, чумацкія, казацкія, гістарычныя; карагодныя, песьні скочныя і гумарыстычныя; песьні пры рознай працы, нязьвязаныя з абрадамі; калі полюць, косяць, прадуць, ткуць, песьні канюхоў, пастухоў і г. д.

15. *Духоўныя вершы.* Вершы гэтага цыклю пераважна кніжнага пахаджэньня, але паколькі яны ў свой час былі шырака распаўсюджаны ў народных гушчах, яны даюць матар'ял для вывучэньня рэлігійных народных вераваньняў і забабонаў.

Духоўныя вершы падзяляюцца на групы: аб сканчэньні сьвету, аб страшным судзе, аб „Лазару", аб „Аляксею", „Плач Адама", аб „Пятніцы"; вершы з жыцьця Хрыста; песьні на прошчу; памінаньні за памёршых і г. д.

16. Таксама трэба запісваць тыя песьні, вершы і іншыя творы, якія ўжо раней друкаваліся і якія маюць прыкметы не народных, а мастацка-штучных твораў, але якія пашыраны ў вуснай перадачы (як напр., „Тарас на Парнасе", „Панскае ігрышча", „Сьцяпан і Тацьцяна" і г. д.).

### Ад каго і як трэба запісваць?

17. Запісваць трэба са слоў старых ж а н ч ы н. У выпадку адсутнасьці паміж імі асоб, якія ведаюць песьні, казкі і г. д., запісваць трэба са слоў кожнага, хто ведае тыя ці іншыя віды народнай творчасьці, робячы перавагу няпісьменным. Але заўсёды, трэба адшукваць лепшых казальнікаў данай мясцовасьці або тых асоб, якія самі складаюць песьні, казкі і г. д.

18. Абавязкова трэба паказаць прозьвішча і імя тэй асобы, са слоў якой зроблены запісы; паказаць яе ўзрост, асьвету, нацыянальнасьць, месца нараджэньня, заняткі, выезд у далёкія краі (заробкі, салдаты, бежанства і г. д.); а да казальнікаў лепшых, ведаючых вялікую колькасьць народных твораў, трэба дадаваць іх падрабязговы жыцьцяпіс з далучэньнем, калі можна, фотографічнай картачкі.

19. Абавязкова трэба адзначыць каля кожнага запісу: 1) час, калі зроблены запіс; 2) дакладную назову месца, дзе ён зроблен; 3) прозьвішча, імя і адрас асобы, якая зрабіла запіс.

20. Кожны народны твор, кожны выраз, кожнае паасобнае слова трэба запісваць, захоўваючы ў с е а с а б л і в а с ь ц і в ы м а ў л е н ь н я, ня робячы ніякіх паправак, ня гледзячы на тое, што некаторыя словы вымаўляюцца нібы няправільна.

21. Над кожным запісаным словам пажадана ставіць націск.

22. Запіс павінен быць чытэльна зроблен на адным баку паперы.

23. Запісваць народную творчасьць пажадана з такім разьлікам, каб паступова, сыстэматычна запісаць усе віды народнай творчасьці у данай мясцовасьці, не бяручыся адразу за ўсё, што можна пачуць; напр., даць перш усяго замовы, потым загадкі, далей запісаць усе валачобныя песьні і г. д.

24. Кожны зьбіральнік, які робіць сыстэматычныя запісы, павінен весьці дзеньнік, у якім трэба адзначаць: што да м е с ц а з а п і с а ў—

характар таго месца, дзе зроблен запіс (маленькая глухая вёска, вялікае сяло, вёска пры шляху і г. д), а таксама паказаць адлегласьць месца запісаў ад культурнага асяродку (гораду, мястэчка і г. д.); што да насельніцтва—трэба адзначыць, якой яно нацыі, веравызнаньня, асьветы, чым займаецца, ці ходзіць у заробкі; аб перазказчыках адзначыць, адкуль і калі ім узята тое, што ён казаў (ад крэўных, з кнігі, ад салдат, ад асобы, якая вярнулася з фабрыкі і г. д.), пры якіх акалічнасьцях навучыўся сьпевам ці апавяданьням; настроі казальнікаў у часе запісаў; іх вопратка; што да самога запісваньня—адзначыць пры якіх умовах яно адбылося (у які дзень—будзённы ці ў сьвята, на якой працы і г. д.); што да акаляючых умоў—адзначыць настроі акаляючых, увагі, жарты, нагляданьні псыхолёгічнага характару, адным чынам усё, што зьбіральнік будзе чуць і бачыць у часе запісваньня тэксту; што да запісанага—прывесьці народную назву данага віду творчасьці; апісаць абрад (напр., вясельле пры вясельных песьнях і г. д.); адзначыць, з якім часам зьвязваецца выкананьне данага твору; адзначыць, як запісана песьня—з пераказу ці са сьпеву. Этнографічныя дзеньнікі трэба дадаваць да запісаных тэкстаў.

*Ал. Шлюбскі.*

---

# Інструкцыя для складаньня тэрмінолёгічных проектаў.

Патрэба ў тэрмінолёгіі выклікана як нашаю школаю і навукаю, так і дзяржаўна-грамадзкім жыцьцём. Без апрацаванае і ўсталенае тэрмінолёгіі ня можа нормальна разьвівацца ні навука, ні прамысловасьць, ні сельская гаспадарка. У дзяржаўных народаў тэрмінолёгія выпрацоўвалася паступова цэлымі вякамі; нашае-ж культурнае і дзяржаўнае жыцьцё запатрабавала гэтае работы ў парадку тэрміновасьці.

Даць дакладную і дасканалую тэрмінолёгію для тае ці іншае галіны навукі, тэхнікі ці грамадзкага жыцьця, якая-б у поўнай меры адпавядала навуковасьці і практычнасьці—справа нялёгкая. Удасканаліць гэтую работу можна толькі ў тым выпадку, калі ёю зацікавяцца актыўныя сілы ўсяго грамадзянства.

Вось чаму Інстытут Навуковае Мовы зварачаецца да ўсіх школ, дзяржаўных і грамадзкіх установаў з прапановай арганізаваць у сябе тэрмінолёгічныя гурткі для складаньня пачатковых тэрмінолёгічных проектаў.

### Як складаць тэрмінолёгічныя проекты?

Першапачатковыя тэрмінолёгічныя проекты складаюцца наступным парадкам:

1) На сходзе спэцыялістых або зацікаўленых асоб вызначаюцца літаратурныя крыніцы (3-4 кнігі) у расійскай ці іншай чужаземнай мове, якія трэба выкарыстаць для выбаркі патрэбных тэрмінаў і фразэолёгіі для данае дысцыпліны.

2) Вызначаныя літаратурныя крыніцы раздаюцца спэцыялістым для чытаньня і падчыркваньня тэрмінаў і фразэолёгіі.

3) Падчыркнуты матар'ял разносіцца потым на асобныя для кожнага тэрміна ці фразы карткі з кароткім абазначэньнем крыніцы і з паказаньнем старонкі кнігі, адкуль выпісан тэрмін, і з запісам тае

фразы, у якой сустракаецца гэтае слова ў кнізе, калі таго патрабуе яснасьць данага тэрміну. Тут-жа, проці выпісанага зьверху карткі тэрміну ці фразэолёгічнага звароту падаецца іх беларускі проект.

Для беларускага тэксту таксама падаецца крыніца, адкуль узята слова, калі гэта не новатвор. Слова без паказаньня крыніцы лічыцца новатворам.

Увага: а) Тэрміны з народных, не літаратурых крыніц, лічацца больш цэннымі за самыя ўдалыя новатворы.

б) Калі крыніцы, адкуль выбіраліся тэрміны, былі не ў расійскай, а ў іншай мове, то пры выпісцы на карткі на першае месца ставіцца расійскі тэкст, потым тэкст з крыніцы, а затым іх беларускі проект.

в) Калі даная дысцыпліна мае міжнародную тэрмінолёгію, то на першым месцы ставіцца міжнародны тэкст тэрмінолёгіі.

4) Пажадана, каб кожная крыніца выкарыстоўвалася асобнымі спэцыялістымі, якія падаюць і свае асобныя беларускія проекты на даную тэрмінолёгію; такім парадкам зложыцца некалькі проектаў, як матар'ял для далейшае работы.

5) Пры складаньні беларускага тэрмінолёгічнага проекту трэба кіравацца наступным палажэньнем:

а) Каб надаць тэрміну больш яснасьці, прастаты і зразумеласьці, трэба каб ён адпавядаў законам і духу беларускае мовы. Дзеля гэтага павінны быць выкарыстаны ў першую чаргу народныя крыніцы і ўсе друкаваныя матар'ялы ў беларускай мове.

б) Калі патрэбнага тэрміну ці фразэолёгіі ў народных ці ў літаратурных беларускіх крыніцах няма, або калі народнае слова з тых ці іншых прычын для навуковага ці тэхнічнага тэрміну не надаецца, то ўкладальнік вытварае сваё адпаведнае слова ці зварот на падставе тэрмінолёгіі чужаземнае (з напісаньнем гэтых слоў у чужаземнай мове) або ставіць адпаведны чужаземны тэрмін, падпарадкаваўшы яго законам беларускае фонэтыкі і граматычных формаў.

в) Ужываньне т. зв. новатвораў і чужаземных слоў дапускаецца толькі ў выпадках канечнае патрэбы, для сьцісьлейшае навуковае дакладнасьці.

г) Выпісаныя карткі раскладаюцца ўкладальнікамі ў альфабэтным парадку ды паступаюць на разгляд і рэдагаваньне на агульным сходзе спэцыялістых (пажадана з удзелам мовазнаўцы). Пры пераглядзе і рэдагаваньні карткі з аднолькавым тэкстам самі сабою выясьняцца і адпадуць. Карткі з рознымі беларускімі проектамі пакідаюцца, калі таго пажадаюць іх аўтары, толькі лепшы беларускі тэрмін-проект падчыркваецца, як пажаданы тэрмін.

7) Перагледжаныя і зрэдагаваныя карткі раскладаюцца ўсе разам у альфабэтным парадку ды ўвесь картачны матар'ял перасылаецца ў Інстытут Навуковае Мовы для далейшае распрацоўкі.

8) Да картак павінна быць напісана кароткая прадмова з паказаньнем усіх крыніц, якія былі выкарыстаны пры складаньні тэрмінолёгічнага проекту, і з пераменаваньнем тых асоб, якія складалі тэрмінолёгію або прымалі ўдзел ў яе складаньні.

9) Складаньне тэрмінолёгічных проектаў вядзецца ў парадку грамадзянскага ідэёвага служэньня, але лепшыя, паўнейшыя і дакладнейшыя проекты будуць прэміявацца ў форме грашовае нагароды, а аўтары іх залічацца ў сталыя дапішчыкі Інстытуту Навуковае Мовы.

10) Карткі павінны мець такую форму:

| |
|---|
| **Трущоба**—альсе, ніяк. р. |
| Якое а́льсе ні прайсьці, ні праехаць |
| (балота сярод лесу, заваленае дрэвам). |
| Сл. Н. стр. 5. |

Дарэктар Інст. Нав. Мовы: *Я. Лёсік.*
Сакратар: *Л. Цьвяткоў.*

# Як укласьці раённы географічны слоўнік*).

Раённыя географічныя слоўнікі маюць вялікае навуковае і практычнае значэньне. Географічная Камісія Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі Інстытуту Беларускае Культуры ў сучасны момант вядзе шырокую працу па ўпарадкаваньні літаратурных даных аб паасобных паселішчах Беларусі і іншых географічных об'ектах яе. З гэтай мэтай на кожнае паселішча складаецца асобная картка, на якую пераносяцца ўсе найважнейшыя даныя аб гэтым паселішчы з розных друкаваных крыніц. Але ня ўсе патрэбныя весткі можна знайсьці ў гэтых крыніцах і ня ўсе географічныя об'екты ў іх успамінаюцца. Вось у гэтым выпадку асабліва важнае навуковае значэньне мелі-б раённыя географічныя слоўнікі, весткі якіх увайшлі-б і ў агульна-беларускі географічны слоўнік. Апрача таго, вельмі патрэбна зрабіць падлік важнейшых географічных об'ектаў раёну, бо яны зьяўляюцца прадметам навуковага вывучэньня і дасьледваньня раённым таварыствам краязнаўства. Разам з тым яны вывучаюцца з пэдагогічнымі мэтамі дзецьмі ў школах, дзе выкладаньне грунтуецца на вывучэньні вакольнага жыцьця і ў першую чаргу свайго паселішча. Ня менш патрэбны весткі пра географічныя об'екты раёну організатарам і кіраўнікам экскурсій, падарожнікам, мясцовым савецкім, грамадзкім і профэсыянальным установам і г. д. Ды і вывучэньне раёну павінна ўласна пачынацца з вывучэньня географічных об'ектаў—працы найбольш даступнай для мясцовых краязнаўцаў і краязнаўчых гурткоў. Таму раённае таварыства краязнаўства сіламі сваіх членаў павінна сабраць і ўкласьці раённы географічны слоўнік. Непасрэдную працу ўкладаньня слоўніка можна даручыць асобнай камісіі ці пэўнай адказнай асобе.

Зважаючы на тое, што ўсе географічныя об'екты перажываюць пэўныя зьмены, трэба паклапаціцца, каб слоўнік даваў весткі на пэўны тэрмін. Было-б вельмі непажадана мець весткі ў слоўніку аб адным об'екце на 1920 год, а аб другім—на 1928 г., асабліва, калі гэта тычыцца, напр., ліку насельнасьці. На гэтай падставе пажадана абмежаваць тэрмін зьбіраньня слоўніка адным-двума гадамі, што цалкам магчыма зрабіць на сучасным узроўні разьвіцьця краязнаўчай дзейнасьці. Зразумела, гэта не азначае, што пасьля ня трэба будзе зьбіраць даных аб новых об'ектах, зьменах у іх і г. д., але асноўная праца можа быць скончана ў гэты тэрмін. Весткі аб насельнасьці трэба браць па

*) Укладзена М. Азбукіным і М. Касьпяровічам і ўзгоднена з Географічнай Камісіяй Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі Інстытуту Беларускае Культуры.

даных усесаюзнага перапісу 1926 году, і, апроч таго, па апошніх даных сельсавету. Зразумела, трэба даваць весткі і на іншую дату, калі для некаторых об'ектаў на абраную дату іх ня будзе. Але ў гэтым выпадку трэба паказваць на які тэрмін весткі даюцца.

Крыніцаю матар'ялаў для ўкладальніка павінна быць непасрэднае азнаямленьне з об'ектам, а таксама розныя статыстычныя і інш. весткі. Зразумела, неабходна паказаць бібліографію, г. зн. усе вядомыя ўкладальніку друкаваныя нататкі, артыкулы і працы аб даным географічным об'екце, якія зьмешчаны ў газэтах, часопісах, кнігах, ці выдадзены асобным выданьнем.

У слоўнік павінны ўвайсьці ўсе назвы населеных пунктаў раёну з акаляючымі яго географічнымі об'ектамі: назвы гор, узгоркаў, нізін, рэк, парогаў, вазёр, балот, тарфовішчаў, адкладаў карысных выкапняў, назвы лясных масываў і дач, лясьніцтваў, запаведнікаў, пушч, урочышч, сельсаветаў і інш. Для пэўнага орыентаваньня ўкладальнік можа ўзяць у раённым выканаўчым камітэце сьпіс паселішчаў раёну, і, сабраўшы матар'ял аб іх, пашыраць і дапаўняць гэты сьпіс да канчатковай паўнаты.

Для посьпеху ў працы абавязкова трэба прыцягнуць магчыма большы лік удзельнікаў яе. Добрае апісаньне об'екту зможа даць той працаўнік, які доўга жыве ў данай мясцовасьці. Але для праверкі атрыманых матар'ялаў і для зьбіраньня дадатковых вестак, прыдзецца выяжджаць на месцы. Апрацоўка ўсіх матар'ялаў павінна адбывацца ў раённым цэнтры.

У першую чаргу ўкладальнік павінен скарыстаць матар'ялы, якія ўжо назапашаны ў галіне яго працы раённым таварыствам краязнаўства, а таксама вучнямі мясцовых сямігадовых школ, праца якіх пры належным кіраўніцтве можа мець навуковую вартасьць. Далей у зьбіраньні вестак могуць дапамагчы мясцовыя працаўнікі: настаўнікі, лясьнікі, фэльчары, агрономы і інш., а таксама мясцовыя сяляне, асабліва старажылы.

Апісаньне об'ектаў павінна рабіцца па пэўным пляне. Самым поўным такім плянам можа быць наступны:

Назва, або назвы паселішча, калі іх некалькі (абавязкова паказаць націск). Пажадана паказаць як завуць ваколічныя насельнікі людзей з данага паселішча, напр. „лянчук“ (з вёскі Ленчыцы), а таксама мянушкі іх: капусьнікі, кажыкі, трапачы і падобныя, а таксама прыметнікі ад гэтых слоў—амельлянскі (з Амельна) і інш.

Род паселішча: мястэчка, вёска, хутар і д. т. п.

Географічная палажэньне.

Пры якой рацэ, возеры, сажалцы, канаве і д. т. п.; на якім беразе; якой велічыні вадазборы; ці ёсьць мост.

Да якой воласьці належала да вайны, рэволюцыі і ў якім зараз сельсавеце.

Колькі насельнікаў паводле даных перапісу 1926 году і сучасных даных сельсавету: усіх, мужчын і жанчын асобна; склад па нацыянальнасьці: беларусаў, рускіх і г. д.; склад па профэсіі: земляробаў, саматужнікаў, гандляроў і г. д.

Колькасьць двароў, гаспадарак.

Плошча зямлі па ўжыткоўнасьцях.

Назва бліжэйшых рынкаў і адлегласьць ад яго (па дарогах: летняй, зімовай).

Бліжэйшая станцыя чыгункі, прыстань, пошта і адлегласьць іх.

Агульнае апісаньне рэльефу паверхні ваколіц пункту і дарог.

Апісаньне водаў у межах об'екту і яго ваколіц (рака, возера, балота, сажалка, канава, крыніца, калодзеж і д. т. п.).

Глебы, іх мясцовыя і навуковыя назвы.

Карысныя выкапні: гліны, торф, каменьні, руды і д. т. п.

Лясы, сенажаці, балоты; дзікія расьліны, жывёлы.

Сельская і лясная гаспадарка; галоўныя палявыя і гародныя расьліны, сады, пчэльнікі і д. т. п.; способы гаспадаркі.

Промыслы і рамёствы.

Фабрыкі, гуты, млыны, заводы і д. т. п. у сучасным і мінулым

Гандаль—прыватны, коопэрацыйны.

Агульныя асаблівасьці насельнікаў, іх быту, звычаяў, творчасьці.

Пісьменнасьць, школы. Культурныя ўстановы.

Помнікі старасьветчыны, быту, мастацтва, прыроды і г. д.

Час заснаваньня, гісторыя і зьвязаныя з даным пунктам яго назвай апавяданьні, легенды, і інш.; успаміны зьвязаныя з прыгонам, рэволюцыяй, партызанствам і г. д.

Бібліографія.

Хто дае весткі і яго адрас.

Зразумела, зьмяшчэньне тутака гэтага пляну не азначае, што на ўсе пункты яго павінны быць дадзены адказы. Ды адносна значнага ліку географічных об'ектаў: урочышчаў, рэк і д. т. п. гэта зрабіць немагчыма-б было.

Склаўшы такім чынам апісаньні географічных об'ектаў раёну, трэба ўпарадкаваць іх у альфабэтным парадку іх назваў. Гэта і будзе раённым географічным слоўнікам. Яго з часам трэба будзе дапаўняць новымі назвамі, калі яны будуць зьяўляцца ў раёне.

Аб укладзеным раённым географічным слоўніку трэба паведаміць Акруговае Таварыства і Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Гэта дасьць магчымасьць скарыстаць слоўнік для навукі, хоць і не ў такой меры як тады, калі ён будзе надрукаваны. Але самае лепшае паклапаціцца аб апошнім, калі праца будзе скончана,—раённы выканаўчы камітэт і раённае таварыства краязнаўства не павінны адмовіцца ад выданьня яе, зважаючы на яе вялікае навуковае і практычнае значэньне. Слоўнік трэба хаваць у бясьпечным ад пажару месцы. Перапіску, паведамленьні і інш. трэба здаць у архіў раённага таварыства краязнаўства, як праца будзе скончана.

---

# Апытальнік аб стане працы па дасьледваньні мясцовых культурных гнёзд.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства просіць мясцовыя краязнаўчыя організацыі і паасобных краязнаўцаў паведаміць, у якім стане знаходзіцца справа вывучэньня культуры краю, а ўласна:

а) ці вядзецца ў вашым краі або горадзе праца па вывучэньні мясцовай літаратуры ў сувязі з вывучэньнем культуры;

б) ці ёсьць у мясцовых музэях аддзелы прысьвечаныя гэтаму пытаньню;

в) ці пачалі засноўвацца асобныя літаратурныя музэйчыкі;

г) пералік асноўных тыпаў экспонатаў і матар'ялаў у іх;

д) пералік літаратурных твораў, зьвязаных з вашым краем або горадам і нават такіх, у якіх ёсьць успаміны аб ім;

е) пералік пісьменьнікаў, мастакоў, музыкантаў, вучоных і інш. дзеячоў навукі і мастацтва зьвязаных з вашым краем або горадам;

э) ці ўкладаецца слоўнік мясцовых пісьменьнікаў, мастакоў, музыкантаў, вучоных і інш. дзеячоў навукі і мастацтва;

ё) ці вывучаюцца месцы, зьвязаныя з іх жыцьцём і творчасьцю; ці зроблены здымкі з гэтых месц або зарысоўскі іх;

ж) ці ёсьць зборы рукапісаў і друкаваных прац; ці ёсьць рукапісы сучасных мясцовых поэтаў і пісьменьнікаў з сялянства і рабочых;

з) ці ёсьць мэморыяльныя зборы рэчаў;

і) ці ёсьць друкаваныя працы, прысьвечаныя пытаньням вывучэньня культурных гнёзд наогул і вашага прыватна;

й) ці зьбіраюцца весткі аб мясцовым пэрыодычным друку;

к) ці адбываюцца экскурсіі ў сувязі з вывучэньнем культурных гнёзд;

л) сьпіс асоб, якія вядуць працу ў вашым краі або горадзе па вывучэньні культуры вашага краю або гораду ў памянёных напрамках; іх адрасы;

м) іншыя даныя ў гэтай справе.

Адказы трэба пасылаць: Менск, Рэволюцыйная, 21, Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства; перасылка бясплатная.

---

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць ЦБК.

*Пасяджэньне 10/II—28 г.*

Заслухана інформацыя яўрэйскага інструктара ЦБК т. Аляксандрава аб працы яўрэйскай краязнаўчай сэкцыі ЦБК і інформацыя польскага інструктара ЦБК т. Даўкшы аб краязнаўчай працы сярод польскага насельніцтва. Заслухана інформацыя т. Шашалевіча аб ходзе падпіскі на „Наш Край“. Вынесена пастанова аб дасылцы прэміяльных экзэмпляраў „Нашага Краю“ найбольш актыўным зьбіральнікам падпіскі. Вынесена пастанова аб камандыраваньні ў Мазырскую акругу інструктара ЦБК А. Шашалевіча.

*Пасяджэньне 17/II.*

Разгледжана пытаньне аб формах дапамогі з боку ЦБК Таварыству краязнаўства пры Камвузе. Вынесена пастанова: рэкомэндаваць т-ву дабіцца ўвядзеньня курсу краязнаўства ў вучэбны плян Камвузу, наладзіць для сяброў т-ва шэраг лекцый па краязнаўству і чытаньне іх даручыць т. Касьпяровічу, выдаць т-ву неабходную інструкцыйную літаратуру, комплект „Нашага Краю“ і інш. Зацьверджана разьмеркаваньне краязнаўчых лекцый па радыё і вылучаны са складу ЦБК лектары па радыё: т. т. Казак, Касьпяровіч, Шашалевіч, Жураўскі, Аляксандраў. Зацьверджаны зьмест № 3 „Наш Край“ за 1928 г. Заслухана інформацыя т. Касьпяровіча аб Полацкай і Віцебскай акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях.

*Пасяджэньне 9/III.*

Заслухана інформацыя т. Шашалевіча аб краязнаўчай працы на Мазыршчыне. Прынята пастанова надрукаваць зьмест дакладу ў хроніцы „Нашага Краю“. Разгледжана пытаньне аб увядзеньні курсу краязнаўства ў пляны вузаў і тэхнікумаў. Пастанавілі: прасіць Галоўметодком паставіць на абгаварэньне гэта пытаньне на сваім бліжэйшым пасяджэньні; даручыць т. Касьпяровічу і т. Аляксандраву ўзгадніць проект програмы з інспэктарыятам НКА. Вырашана пытаньне аб курсах краязнаўства пры Краязнаўчым Т-ве пры БДУ. Прадстаўніком ЦБК па справе курсаў вылучаны т. Жураўскі. Вызначаны невялікія сродкі на правядзеньне курсаў (25 р.). Вырашана пытаньне аб удзеле ЦБК у Лейпцыгскай выстаўцы школы СССР. Разгледжана пытаньне аб укладаньні раённых географічных слоўнікаў: даручана т. т. Жураўскаму і Аляксандраву зрэдагаваць інструкцыю па ўкладаньні географічных слоўнікаў.

*Пасяджэньне 16/III.*

Зацьверджаны пяцігадовы пэрспэктыўны плян працы ЦБК і яго каштарыс на гэты час. Разгледжана пытаньне аб экскурсійнай кампаніі. Прынята пастанова зьвярнуцца ў Галоўпалітасьветы з просьбай організаваць Экскурсійнае бюро для кіраваньня экскурсіямі. Даручана т. т. Жураўскаму і Касьпяровічу ўкласьці маршруты па г. Менску. Прынята пастанова прасіць усе краязнаўчыя організацыі БССР прыслаць у ЦБК маршруты па сваіх раёнах. Разгледжана пытаньне аб падліку дасьледчых экспэдыцый у 1926—27 і 1927—28 г. г. на тэрыторыі Беларусі і ўвязцы іх з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі. Прынята пастанова прасіць ІБК прапанаваць усім экспэдыцыям у сваёй працы мець шчыльную сувязь з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі. Вырашана пытаньне аб прызначэньні для Мазырскай акругі спэцыяльнага № „Нашага Краю“—№ 6-7. Абмеркавана пытаньне аб жаданьні Краязнаўчага гуртку пры Мсьціслаўскім пэдтэхнікуме выдаць этнографічныя матар'ялы Калініншчыны. Прынята пастанова—прасіць дырэктара пэдтэхнікуму т. Серафімава прыслаць матар'ялы на прагляд ЦБК.

*Пасяджэньне 23/III.*

Заслухана справаздача старшыні Менскага акруговага Т-ва Краязнаўства т. Юшкевіча. У мэтах паляпшэньня і ажыўленьня працы т-ва прызнала неабходным у бліжэйшы час склікаць пашыранае пасяджэньне праўленьня т-ва з удзелам прадстаўнікоў розных організацый, склікаць агульна-гарадзкую краязнаўчую конфэрэнцыю і аднавіць плянавую працу т-ва. Зацьверджаны тэзісы справаздачнага дакладу ЦБК на пасяджэньні

Прэзыдыуму ІБК. Зацьверджаны ў асноўным проект інструкцыі па складаньні раённых геаграфічных слоўнікаў. Прадстаўніком на Аршанскую Акруговую Краязнаўчую конфэрэнцыю вылучаны т. Казак. Зацьверджаны каляндарны плян працы ЦБК на месяц. Разгледжана пытаньне аб програме вывучэньня мясцовых будынкаў. Прынята пастанова—прасіць Этнографічную камісію скласьці гэтую програму для зьмяшчэньня ў „Нашым Краі". Разгледжана пытаньне аб ненадрукаваных матар'ялах рэдакцыі „Нашага Краю". Даручана т. Шашалевічу ўпарадкаваць гэтыя матар'ялы і даць агляд іх у „Нашым Краі". Прадстаўніком у камісію аховы помнікаў вылучаны т. Жураўскі.

*Пасяджэньне 30/III.*

Заслухана інформацыя т. Казака аб 4-ай Аршанскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі. Разгледжана пастанова Прэзыдыуму ІБК аб працы ЦБК. Даручана рэдколегіі „Нашага Краю" вырашыць пытаньне аб зьменах у програме часопісу „Наш Край". Заслуханы інформацыі камісіі: школьна-краязнаўчай, студэнцкай і падарожніцкай. Прынята пастанова працу гэтых камісій уключыць у каляндарны плян працы Прэзыдыуму ЦБК. Даручана т. Аляксандраву напісаць даклад аб стане школьна-краязнаўчых гурткоў. Вырашана пытаньне аб пленуме ЦБК у восень 1928 г.

*Пасяджэньне 9/IV.*

Зацьверджаны протокол пасяджэньня Выставачнага Камітэту Усебеларускай Выстаўкі краязнаўчых зарысовак і фотографій. Вырашана выстаўку адчыніць 15/IV, вызначыць для гэтага мінімальныя неабходныя сродкі, надрукаваць агляд выстаўкі ў „Нашым Краі", даць інформацыйныя заметкі аб выстаўцы ва ўсіх газэтах.

## Адчыненьне Першай Усебеларускай Выстаўкі краязнаўчых фотографій і зарысовак.

15 красавіка 1928 году ў будынку Дзяржаўнага Музэю ў Менску адчынілася першая ўсебеларуская выстаўка краязнаўчых фотографій і зарысовак. Да гэтага часу адбыліся толькі дзьве краёвыя выстаўкі ў 1925 годзе: у Віцебску, наладжаная мастацкай сэкцыяй віцебскага акруговага таварыства краязнаўства і ў Чэрыкаве, наладжаная сямігадовай школай; на абедзьвюх былі толькі мастацкія рэчы, якія адлюстроўваюць мясцовы край, і ня было фотографій. Даная-ж выстаўка мае мэтаю выявіць дасягненьні ў справе фотографаваньня і зарысоўваньня розных краін БССР, а таксама запасы краязнаўчых ілюстрацыйных матар'ялаў і зьвярнуць увагу на значэньне рысунку і фотографіі для краязнаўчай працы. Выстаўляць свае творы і колекцыі запрашаліся дзяржаўныя інстытуцыі, краязнаўчыя організацыі, фотографічныя гурткі, аб'яднаньні фотографаў, аб'яднаньні мастакоў, краязнаўцы, мастакі, фотографы, аматары, колекцыянэры і інш. На выстаўку прымаліся зарысоўкі алоўкам, пастэльлю, пяром і акварэльлю і фотографіі. Усяго было прадстаўлена для экспозыцыі каля 3000 экспонатаў, з якіх выстаўлена каля 2000. Самы большы лік экспонатаў прадставілі: а) з дзяржаўных інстытуцый—Дзяржаўны Музэй у Менску і яго магілеўскае аддзяленьне; б) з навуковых працаўнікоў—І. А. Сербаў; в) з мастакоў—Пархоменка; г) з фотоаб'яднаньняў—Бабруйскі колектыў фотографаў; д) з колекцыянэраў—І. П. Фурман; е) з краязнаўчых організацый—слуцкае таварыства краязнаўства і г. д. Апрача памянёных трэба адзначыць экспонаты фотографаў: З. А. Фурмана, Фальковіча, Вальkoўскага, Сьляпяна і інш.; краязнаўчых організацый: ляднянскага таварыства краязнаўства, горацкага таварыства краязнаўства, асіпавіцкага таварыства краязнаўства, барысаўскага таварыства краязнаўства, бялыніцкага таварыства краязнаўства, шацкага таварыства краязнаўства і інш.; мастакоў: А. Тычыны, Кругера і інш.

Усе экспонаты на выстаўцы разьмешчаны ў наступных аддзелах: а) быт, б) тып, в) вопратка, г) краявід, д) рэволюцыйны рух, е) праца, э) гарады, ё) орнамэнт, ж) будовы, з) нацыянальныя меншасьці і і) іншае. Усе аддзелы даволі поўна адлюстроўваюць Беларусь, яе прыроду і жыцьцё.

Выстаўка была адчынена прамовамі дырэктара Дзяржаўнага Музэю т. Ластоўскага і намесьніка старшыні Цэнтральнага Бюро Краязнаўства т. Казака. У сваіх прамовах яны адзначылі вялікае значэньне выстаўкі ў галіне культурнага будаўніцтва наогул і ў справе краязнаўства асабліва. Пасьля прамоваў прысутныя агледзілі выстаўку і гэтым адчынілі шэраг экскурсій на яе, якія зараз і адбываюцца.

## Краязнаўства па-за межамі краязнаўчых організацый.

Побач з распрацоўкаю агульнанавуковых, ведамсьцьвенных і інш. проблем, вывучэньне паасобных краёў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі ажыцьцяўляецца нашымі акадэмічнымі ўстановамі: Інстытутам Беларускай Культуры, Навукова-Дасьледчым Інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна, Горацкім навуковым таварыствам па вывучэньні Беларусі, музэямі, вышэйшымі школамі, а таксама рознымі ведамствамі і дзяржаўнымі органамі.

Інстытут Беларускай Культуры заснаваны ў 1922 годзе. Ён вырас з Навукова-Тэрмінолёгічнай камісіі, якая існавала ў складзе Народнага Камісарыяту Асьветы з 1921 году і мела мэтаю ўкладаньне беларускай навуковай тэрмінолёгіі. У выніку некалькіх рэорганізацый Інстытут Беларускай Культуры ў 1926 г. выкрышталізаваўся ў вышэйшую дзяржаўную навуковую ўстанову і падпарадкаваўся непасрэдна Савету Народных Камісараў. Асноўнымі задачамі Інстытуту зьяўляецца: а) пашырэньне і ўдасканаленьне навуковых дысцыплін, якія належаць да яго компэтэнцыі, абагачаючы іх новымі выкрыцьцямі і

мэтодамі дасьледваньня; б) плянавае дасьледваньне Беларусі з боку яе прыродных вытворчых сіл, вывучэньня і садзейнічаньня іх выкарыстаньню, народнай гаспадаркі, права, грамадзкага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнографіі і інш.; в) аб'яднаньне ў гэтых галінах усяе навуковае працы, якая вядзецца навуковымі ўстановамі БССР і паасобнымі вучонымі; г) дапасаваньне навуковых твораў і вынікаў навуковых досьледаў да практычнага ўжываньня ў прамысловасьці і культурна-экономічным будаўніцтве БССР.

У сучасны момант Інстытут складаецца з устаноў, якія існуюць непасрэдна пры яго Прэзыдыуме, двох аддзелаў—гуманітарных і прыродазнаўчых і гаспадарчых навук і двох нацыянальных сэктараў. Пры Прэзыдыуме працуюць: а) Цэнтральнае Бюро Краязнаўства (ЦБК), б) Бібліографічная комісія, в) Камісія для вывучэньня Заходняе Беларусі, г) Вайскова-тэрмінолёгічная камісія, д) Камісія для вывучэньня прыродных вытворчых сіл Беларусі, е) Бібліотэка, э) Друкарня.

Аддзел Гуманітарных Навук у сваю чаргу складаецца з дзьвёх кляс: філёлёгіі і гісторыі. У склад клясы філёлёгіі ўваходзяць: а) камісія для складаньня гістарычнага слоўніка беларускай мовы, б) камісія для складаньня слоўніка жывой беларускай мовы, в) дыялектолёгічная камісія, г) камісія для вывучэньня беларускай літаратурнай мовы, д) інстытут навуковае мовы, е) камісія для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў, э) камісія для складаньня біографічнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў. У склад клясы гісторыі ўваходзяць: а) Катэдра агульнай гісторыі, б) Катэдра гісторыі Беларусі XIX і XX ст., в) Архэографічная камісія, г) Камісія для складаньня гістарычна-географічнага слоўніка Беларусі, д) Археолёгічная камісія, е) археолёгічны габінэт, э) Камісія для вывучэньня гісторыі гарадоў і краін Беларусі, ё) Камісія для вывучэньня гісторыі асьветы на Беларусі, ж) Камісія для вывучэньня матар'яльнай культуры, з) Фольклёрная камісія, і) Камісія для вывучэньня гісторыі беларускага мастацтва, к) Камісія для вывучэньня гісторыі беларускага тэатру, л) Камісія для вывучэньня беларускай песьні і музыкі, м) Музэй беларускага мастацтва.

Кляса прыроды аддзелу прыродазнаўчых і гаспадарчых навук мае: а) Геолёгічны інстытут з сэкцыяй рэгіональнае геолёгіі, і сэкцыяй прыкладное геолёгіі, б) Катэдру глебазнаўства, в) Ботанічны сад у В. Летцах, г) Ботанічную камісію, д) Зоолёгічны музэй, е) Камісію географіі і картографіі, з) цэнтральную хэмічную лябораторыю (сумесна з Нав. Дасьл. Інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі імя Ў. І. Леніна), ё) Антрополёгічны габінэт, ж) Лябораторыю вышэйшае нэрвовае дзейнасьці, з) Лябораторыю экспэрымэнтальнае біолёгіі. У склад клясы гаспадаркі ўваходзяць: а) Камісія для вывучэньня прамысловасьці, б) Камісія для вывучэньня хатніх рамёстваў, в) Камісія для вывучэньня коопэрацыі, г) Навуковае таварыства для вывучэньня Беларусі ў Горках, з сэкцыяй прыродазнаўства, сэкцыяй гаспадаркі. З прычыны браку месца мы не пералічылі катэдраў, у склад якіх уваходзяць зазначаныя дасьледчыя ўстановы.

У складзе яўрэйскага нацыянальнага сэктару ёсьць: а) Лінгвіністычная камісія, б) Тэрмінолёгічная камісія дыялектолёгічнага атлясу, в) Камісія для вывучэньня гісторыі яўрэйскай літаратуры, г) Камісія для вывучэньня яўрэйскага фольклёру, д) Камісія для вывучэньня экономікі яўрэйскага насельніцтва.

Польскі нацыянальны сэктар складаецца: з а) Камісіі для вывучэньня польскае літаратуры і мовы, б) Польскай этнографічнай камісіі, в) Гістарычнай камісіі.

Апрача памянёных сэктароў у складзе Інстытуту Беларускае Культуры працуе Катэдра гісторыі Літвы і Камісія для вывучэньня культуры латышоў.

Такім чынам вывучэньне ўсіх насельнікаў Беларусі, яе прыроды і гаспадаркі цалкам забясьпечана адпаведнымі ўстановамі Інстытуту. Асабовы склад апошняга складаецца з правадзейных членаў, членаў корэспондэнтаў і навуковых супрацоўнікаў. Членамі Інстытуту абіраюцца асобы, якія ўзбагацілі навуку або мастацтва працамі высокавыдатнага значэньня. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю Інстытуту ажыцьцяўляецца Акадэмічнаю радаю яго на чале з Прэзыдыумам Інстытуту. Аддзелы і сэктары кіруюцца сваімі радамі; выканаўча-кіраўнічым органам інстытуту зьяўляецца яго Прэзыдыум, які абіраецца Акадэмічнаю Радаю.

Самаю буйнаю ўстановаю Інстытуту Беларускае культуры зьяўляецца Горы-Горацкае навуковае таварыства для вывучэньня Беларусі, заснаванае ў 1924 годзе. Яно мае мэтаю плянавае вывучэньне прыроды і гаспадаркі Беларусі і сваю дзейнасьць выяўляе паводле прынцыпаў і характару працы Інстытуту. У члены яго абіраюцца навуковыя працаўнікі, якія працуюць у Горы-Горках і прымаюць актыўны ўдзел у працах Таварыства, абмяркоўваюцца радай Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі і зацьвярждаюцца Прэзыдыумам Інстытуту. Агульнае кіраўніцтва працаю таварыства належыць радзе аддзелу, а непасрэднае прэзыдыуму таварыства.

Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя Ў. І. Леніна заснаваны ў пачатку 1927 году і знаходзіцца ў непасрэдным падпарадкаваньні Савету Народных Камісараў. Ён мае мэтаю сыстэматычнае і ўсебаковае вывучэньне сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі, каб дапамагчы хутчэйшай перабудове яе на соцыялістычных асновах і шпарчэйшаму разьвіцьцю вытворчасьці ўсяе народнае гаспадаркі Беларусі наогул. У сучасны момант Інстытут складаецца з аддзелаў: а) лясной гаспадаркі, б) мэліорацыі, і культуры балот, в) сельскагаспадарчай экономікі і аграрнай політыкі, г) жывёлагадоўлі і прыкладнай зоолёгіі і д) расьлінагадоўлі і прыкладнай ботанікі. Апрача таго, Інстытут мае хэмічную лябораторыю, музэй, бібліотэку і інш.

Згодна сваёй справаздачы, найбольшую

ўвагу Інстытут зварачвае на вывучэньне: а) жывёлагадоўлі і ў першую чаргу—сьвінагадоўлі, б) інтэнсыўных культур і ў першую чаргу—бульбы, в) лесу і ў першую чаргу — лясных дрэвастанаў. лесагадоўлі, хэмічнай і мэханічнай тэхнолёгіі лесу г) мэліорацыі.

Пад кіраўніцтвам Навукова-Дасьледчага Інстытуту працуюць шэраг спэцыяльных дасьледчых станцый і мэтэаролёгічнае бюро з 22 мэтэаролёгічнымі станцыямі II разраду, 48 станцыямі III разраду і 46 вадамернадажджамернымі пастамі. У галіне паляводзтва працуюць Менская, Горацкая, Віцебская, Турская і Палеская дасьледчыя станцыі; у галіне сэлекцыі і насеньняводзтва—Горацкая, Віцебская, Турская і Менская; у галіне садоўніцтва—Горацкая; гародніцтва—Віцебская; лекавых расьлін—Магілеўская і культуры балот—Менская балотная дасьледчая станцыя і Забалоцкая балотная дасьледчая гаспадарка. Шмат каштоўных дасягненьняў гэтых станцый ужо апублікаваны.

Гісторыя і бягучая праца Інстытуту Беларускае Культуры, Горы-Горацкага навуковага таварыства і Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя І. У. Леніна асьвятляліся і асьвятляюцца ў спэцыяльных інформацыйных выданьнях іх адначасна з асьвятленьнем іх у друку наогул.

Значную працу ў справе вывучэньня паасобных краёў Беларусі вядуць таксама і нашы дзяржаўныя і мясцовыя таварыствы краязнаўства і музэі. Беларускі Дзяржаўны Музэй месьціцца ў Менску і мае свае тры аддзяленьні на мясцох: у Віцебску, Гомелі і Магілеве. Апрача яго ў Менску працуюць: музэй прыроды, музэй рэволюцыі і сельска-гаспадарчы музэй пры Доме селяніна. Такі-ж сельска-гаспадарчы музэй ёсьць і пры Віцебскім доме селяніна. Але непараўнальна больш багатым зьяўляецца Аршанскі дзяржаўны сельска-гаспадарчы музэй. Апрача памянёных, у Віцебску функцыянуе багаты дзяржаўны вэтэрынарна-зоолёгічны музэй і вучэбныя музэі Дзяржаўнага вэтэрынарнага Інстытуту: энтомолёгічны, фаўны і інш. З краёвых музэяў, якія належаць мясцовым краязнаўчым організацыям заслугоўваюць асаблівай увагі: Аршанскі, Бабруйскі, Клімавіцкі, Полацкі і Слуцкі.

У процэсе сваёй навучальнай і навуковай дзейнасьці вялікую краязнаўчую працу вядуць нашы вышэйшыя школы: Дзяржаўны Унівэрсытэт, Дзяржаўная Сельска-Гаспадарчая Акадэмія, Дзяржаўны вэтэрынарны інстытут і Комуністычны Унівэрсытэт.

Ня меншую працу па пазнаньні Беларусі выконваюць і шэраг ведамстваў: Дзяржаўны архіў з 8 акруговымі аддзяленьнямі, Цэнтральная Статыстычная Управа з 8 акруговымі Бюро, Дзяржаўная Плянавая Камісія і акруговыя плянавыя камісіі, Вышэйшы савет Народнай Гаспадаркі, Народны Камісарыят Земляробства і інш. Яны выдаюць шэраг выданьняў, організуюць экспэдыцыі, маюць свае сталыя навукова-дасьледчыя ўстановы і г. д.

Такім чынам па-за межамі краязнаўчых грамадзкіх організацый вядзецца надзвычайна вялікая беларусазнаўчая праца, якая, паміж іншым, дапамагае посьпехам дзейнасьці ўласна краязнаўчых організацый.

## Новае з гісторыі краязнаўства.

Знойдзены матар'ялы аб „Студэнцкім гуртку па вывучэньні Беларусі і Літвы". Ён адчыніўся ў пачатку 1914 году пры Інстытуце Сельскай і Лясной Гаспадаркі ў Новай Александрыі (Пулавах) і неўзабаве быў зацьверджаны адміністрацыяй Інстытуту. Гурток меў мэтаю ўсебаковае вывучэньне і дасьледваньне Беларуска-Літоўскага краю ў стасунку сельска-гаспадарчым, экономічным, лясным і гістарычным. На гэтай практычнай працы гурток думаў падрыхтоўваць краёвыя навуковыя сілы, якія-б былі добра знаёмы з мясцовым краем і яго асаблівасьцямі. Згодна свайму статуту гурток меў права: а) зьбіраць сваю бібліотэку; б) наладжваць навуковыя экспэдыцыі; в) організоўваць сходы з навуковымі дакладамі; г) запрашаць спэцыялістых для дапамогі ў сваёй працы і г. д. З мэтаю прыцягненьня да свае працы ўласна спэцыялістых гурток у „Нашай ніве" (Вільня 1914, № 16) зьмясьціў ліст з просьбаю да ўсіх культурных сіл памагаць гуртку, хто чым можа, для ажыцьцяўленьня пастаўленых ім сабе задач.

М. К.

## Аршанская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя.

25—26 сакавіка адбылася IV Аршанская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя. У працы конфэрэнцыі прымала ўдзел у сярэднім каля 30 чалавек, у тым ліку 12 прадстаўнікоў ад раённых краязнаўчых організацый. Ня былі прадстаўлены тры раённыя краязнаўчыя організацыі. На конфэрэнцыі былі заслуханы:

1. Справаздача Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.
2. Справаздача Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства.
3. Справаздача трох раённых таварыстваў краязнаўства—Коханаўскага, Расьнянскага і Крупскага.
4. Проф. П. Салаўёў.—Фэнолёгічныя назіраньні.
5. Выбары праўленьня.

Конфэрэнцыю адчыніў Старшыня праўленьня т. Сауліч які ў сваім уступным слове спыніўся на процэсе над Беларускай Грамадай. Конфэрэнцыя прыняла рэзолюцыю протэсту і прыступіла да працы. Першым быў заслухан даклад т. Казака: Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і краязнаўчай сеткі за 1927 год. Падрабязныя весткі аб праробленай Ц. Б. Краязнаўства працы і аб стане працы на мясцох будуць надрукаваны ў бліжэйшы час. Пасьля гэтага была заслухана справаздача акруговага таварыства краязнаўства і садаклады трох раённых краязнаўчых організацый.

## Справаздача Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства.

*(т. Васілеўскі).*

Акруговае Таварыства Краязнаўства, арганізавалася ў канцы 1924 г. ў ліку 40 сяброў. На 1-ае студзеня 1926 г. налічвала 920 сяброў, з іх кандыдатаў і членаў КП (б) Б—80, ЛКСМ 60, беспартыйных 780. Па нацыянальнасьці: беларусоў—800, яўрэяў—90, палякаў—10, расійцаў—5. Па профэсіі: настаўнікаў—700 ч., політасьветчыкаў -60, выкладчыкаў вышэйшай школы 40, агрономаў—5, каморнікаў—2, лясьнічых—3, дактароў і фельчароў—20, коопэратараў—5, статыстыкаў і страхагэнтаў—10 ч., працаўнікоў саветаў—15, рабочых—20, сялян—20, вучняў—20.

Перарэгістрацыя, якая адбылася ў 1927 г. дала зьмяншэньне агульных лічбаў.

У склад Акруговага т-ва ўваходзіла 92 чалавекі, з іх муж.—80, жан.—12. Па соцыяльным паходжэньні: рабочых—12, служачых—70, сялян—10.

Па партыйнасьці: комуністых—20, ЛКСМ—11, беспартыйных—61.

Па нацыянальнасьці: беларусоў—87, расійцаў—1, яўрэяў—4.

На працягу 1927 г. ў складзе Акрпраўленьня адбыліся некаторыя зьмены, але да канца перарэгістрацыі гэтыя зьмены ня выяўлены.

Склад Акрпраўленьня: усіх членаў—9, кандыдатаў—6, з іх членаў і кандыдатаў КП(б)Б—5. ЛКСМ—1, беспартыйных—9, беларусоў—12, расійцаў—2, яўрэяў—1. Па профэсіі: настаўнікаў—5, агрономаў—1, савецкіх і партыйных працаўнікоў—3, профэсароў—2, дактароў—1, профработнікаў—1, музэйных работнікаў—саўработнікаў—1.

Праўленьне ў сваёй працы падзяляецца на асобныя сэкцыі: прыродна-географічную, гістарычна-этнографічную, мэдычную і сэкцыю яўрэйскай і польскай культуры. Апрача сэкцый ёсьць у горадзе 5 школьных, 1 чыгуначны гурток краязнаўства, а ў раёнах апрача гурткоў пры сямігодках існуе 11 гурткоў пры сельсаветах. У працы сэкцый і гурткоў выхоўваецца краязнаўчы актыў. Зараз мы ўжо маем 250 сяброў Таварыства, якія зрабілі тую ці іншую краязнаўчую працу. Запісвалі фольклёр, праводзілі вучнёўскія экскурсіі, вучот апісаньня помнікаў старажытнасьці, мастацтва і зьбіралі колекцый мінэралаў глеб, грошы і саматужных вырабаў, але поўнага падліку краязнаўчае працы таго ці іншага сябра пакуль што няма. Сувязь з партыйнымі організацыямі ў краязнаўчых таварыстваў здавальняючая. У складзе праўленьняў таварыства ёсьць прадстаўнікі райкомаў КП(б)Б і ЛКСМ. 2 разы справаздача праўленьня таварыства заслухоўвалася ў колегії АПА Акругкому. З савецкімі організацыямі сувязь нездавальняючая. Усяго толькі два разы Акруговае таварыства рабіла справаздачу ў плянавай камісіі і на прэзыдыуме. Розныя дасьледчыя экспэдыцыі, якія праводзяцца савецкімі ўстановамі ў акрузе, робяцца вядомымі таварыству значна пазьней пачатку работ, ці нават калі экспэдыцыя ўжо кончыла сваю работу і выехала за межы акругі. З профсаюзнымі організацыямі сувязь пашыраецца за межы Саюзу Працасьветы. З грамадзкімі організацыямі падтрымліваецца сувязь: так, з Саюзам Паляўнічых праводзілася сумесная праца па дасьледваньні жыльля баброў у Дрыбінскім раёне; з таварыствам прыхільнікаў лесу праводзілася сумесная кампанія па насаджэньні лесу. На працягу 1927 г. адбылося 7 пасяджэньняў праўленьня, 2 пленумы і 2 чарговыя нарады краязнаўчых організацый. Рэвізыйная камісія правяла адзін раз агляд працы Акруговага таварыства.

З Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце падтрымліваецца цесная сувязь. Акруговае т-ва атрымала ад ЦБК значную дапамогу ў працы шляхам абежнікаў і жывога інструктаваньня. Інструктар Цэнтральнага Бюро Краязнаўства т. Шашалевіч агледзеў працу Ляднянскага, Дубровенскага, Коханаўскага, Талачынскага, Круглянскага і Крупскага раённых т-ваў краязнаўства і даў ім належныя ўказаньні ў працы.

У сваёй працы ў 1927 г. Акруговае Т-ва ставіла сабе такія мэты: закончыць падлік—помнікаў старажытнасьці па акрузе і абвясьціць іх праз Прэзыдыум АВК дзяржаўнай маёмасьцю; правесьці дасьледваньне Дубровінскага, Дрыбінскага, Талачынскага і Аршанскага раёнаў з боку архэолёгії. Але ў гэтым напрамку ня ўсё ўдалася зрабіць: архэолёгічныя досьледы прышлося перанесьці на 1928 г., бо ўсе архэолёгі Інбелкульту былі заняты ў навуковых экспэдыцыях па Беларусі. Узяты на падлік і зацьверджаны Прэзыдыумам АВК і Соўнаркомам БССР помнікі старажытнасьці ў горадзе Воршы, як Аршанскае замчышча, аконы Пятра Вялікага, былыя кляштары, будынкі трынітатарскі, базальянскі мужчынскі, францісканскі, дамініканскі, бэрнардынскі, кутэінскі мужчынскі, кутэінскі жаночы, як былы езуіцкі кляштар, царквы Ільлінская, Мікалаеўская (на Шклоўскай), яўрэйская сінагога, яўрэйскія могілкі, лячэрная царква ў Дубкох і помнікі старажытнасьці ў Аршанскім, Багушэўскім, Ляднянскім, Горацкім, Дрыбінскім, Копыскім, Коханаўскім і Талачынскім раёнах. Але поўнага апісаньня, а таксама поўнага падліку помнікаў старажытнасьці ў гэтых раёнах правесьці пакуль не ўдалося. Райвыканкомы і Раённыя Таварыствы не патрапілі наладзіць на месцы гэты падлік і апісаньне помнікаў старажытнасьці прыдзецца прадоўжыць і ў 1928 г. Апрача гэтага Таварыства абвясьціла дзяржаўнымі заказьнікамі курганы на плошчы да аднэй дзес. каля вёскі Чаркасава, Межаўскага сельсавету Аршанскага раёну і маёнтак Друць з старажытным замчышчам. Складзена апісаньне помнікаў старажытнасьці ў гарадох Воршы і мястэчку Смальянах. З мэтай разьвіцьця экскурсійнае справы складзены падарожнік па гістарычных мясьцінах Аршаншчыны. Падрыхтавана да друку гісторыя г. Воршы і рыхтуецца слоўнік беларускай мовы Аршаншчыны. Напісана гісторыя мястэчка Горы-Горкі і гісторыя асьветы ў Го-

рацкім раёне. Вывучэньнем рэволюцыйнага руху на акрузе быў ахоплен галоўным чынам пэрыод паміж 1863 г. і 1905 г. Выдзелена асобная камісія па вывучэньні Кастрычніка ў Аршаншчыне. Камісія выявіла архіўныя матар'ялы па 1917-18 г. г. у мясцовых архівах. Праводзіцца распрацоўка сялянскага рэўруху на Аршаншчыне за гэтыя гады.

Прыродна-агрономічная сэкцыя галоўную ўвагу ў сваёй працы за мінулы год зьвяртала на вывучэньне глебы, фаўны і флёры Аршанскае акругі, асабліва ў Дубровенскім раёне: зьбіраліся беларускія назвы расьлін, складзен гэрбары траў Аршаншчыны; вывучаліся бабры ў Дрыбінскім раёне на рэцы Проні, дзе праведзена дасьледчая экспэдыцыя і абвешчан бабровы заказьнік. Вывучэньне карысных выкапняў дало наступныя весткі ў межах Аршаншчыны:

*Аршанскі раён*—жалезная руда каля вёскі Гарбацэвічы, Яромкаўскага сельсавету на балоце. Белыя гліны каля рэчкі Адроўцы пры вёсцы Барані, хварбоўныя гліны „чэрня" на беразе ракі Аршыцы.

*Багушэўскі раён*—балотная жалезная руда каля вёск. Корсы Багушэўскага сельсавету, хутар Астраўкі, Астапінскага сельсавету, сяла Дзевіна. Вапнякі каля вёскі Дыганоўка Какоўчынскага сельсавету, белая ганчарная гліна каля вёскі Канавалава, Каменскага сельсавету, Леднявічы і Навязкі, Леднявіцкага сельсавету.

*Горацкі раён*—балотная жалезная руда на Чапелінскім балоце, крэйда пад слоем імху на Быстранскіх балотах.

*Дубровенскі раён*—жалезная руда (балотная) каля вёскі Ступакі, Нова-Тухінскага сельсавету на плошчы 3-х дзесяцін, на глыбіні аршына ад паверхні зямлі, таўшчынёю мэтр, вапнякі вышэй Дуброўны і каля вёскі Гараны, белая гліна ў маёнтку Ступакі, ганчарная гліна (агнятрывалая) каля вёскі Гарані.

*Дрыбінскі раён*—белая гліна каля вёсак Жывань і Пералогі, ганчарная гліна каля мястэчка Дрыбін, вёсак Палоскі, Карэбы, вапнякі каля вёсак Палоска, Міхееўка, крэйда каля вёскі Гарадзец, Студзянец, залежы вохры па рэчцы Проні, каля вёсак Кледнівічы, Старае і Новае Прыбіжжа, Міхееўка і м-ка Дрыбіна.

*Копыскі раён*—мэргель каля мястэчка Копысь, вёсак Ляўкі, Лешча, Сьмятанка, ганчарныя гліны каля Старасельля і іншых вёсак.

*Коханаўскі раён*—белая гліна каля вёсак Паравалочня, Ганышава, Новае Грыцава, Ніронкі, агнятрывалая гліна каля Рацава, м-ка Смальлян, залежы зялёнай вохры пад торфам каля вёскі Лісуны, залежы гліністага сланца з адбіткамі расьлін каля вёскі Рэпухава і далей у кірунку мяжы і па мяжы з Талачынскім раёнам.

*Круглянскі раён*—чырвоная жалезістая гліна, у якой, па досьледах профэсара С.Г. Акадэміі Кораткава, знойдзена 41.17% чыстага жалеза, яна цягнецца шырокай паласой ад вёскі Тубышкі на Шклоў, у ёй жалеза часам так многа, што каля Саўхоза Бабчынскага зусім не расьце трава, тут каля вёскі Рамшына, балотная жалезная руда таўшчынёю ў аршын па беразе Друці каля вёскі Прыгані.

*Лядняскі раён*—бурая гліна каля мястэчка Лядоў. Зарубы, Дзямянкова, балотная жалезная руда каля вёскі Кабыльля і па жалезным ручаі каля Лядоў, жалезная гліна ў вёсцы Ліцьвінава на хутары Законьнікава на глыбіні 4-х сажняў, бурыя мінэральныя хварбы „чэрня" каля вёскі Парфенкава па беразе ручаю, мэргель каля м-ка Баева па рэчцы Мерэя.

*Мсьціслаўскі раён*—крэйда па беразе рэчкі Вохры паміж вёскамі Віхрамі і Рэзанцы, а таксама каля вёскі Куравічы, вохра па берагох рэчкі Вохры, фосфарыты па левым беразе Сажа, каля вёскі Рудагож, хварбы на палёх вёскі Лар'янава ў вурочышчы Рыжаўка.

*Расьнянскі раён*—белая гліна каля вёскі В. Запольле Пячонкаўскага сельсавету на беразе ручаю, балотная жалезная руда каля вёскі Басьценавічы Шыркаўскага сельсавету, буры вугаль таўшчынёю ў аршын знойдзен на глыбіні 8 аршын на хутары Тышча, Даўгавіцкага сельсавету.

*Талачынскі раён*—белыя кварцавыя пяскі каля м-ка Талачын, вёсак Азярцы, Пасмуркі, Серкавіцы; белая гліна каля вёскі Галынка, агнятрывалыя гліны каля вёскі Пызава, Неклюдаўскага сельсавету, М.Сухарава, Навасельскага сельсавету, акамянелы буры торф каля вёскі Ўсьвейка.

*Крупскі раён*—балотная жалезная руда вёска Чартарэя па рэчцы Бабёр, чырвоная гліна каля вёсак Панскае, Гапонавічы. Белая гліна каля вёскі Панская, кафельная гліна ў урочышчы Ліпка каля мястэчка Крупкі, бурыя мінэральныя хварбы „чэрня" каля вёскі Бальшая Слабада.

*Чарэйскі раён*—вапнякі каля вёскі Кіявец, Абчугскага сельсавету, белая гліна па рэчцы Юнга, Лукомскага сельсавету і па беразе Чарэйскага возера, пясок з значнай прымешкай залацістай сьлюды па мясцоваму „з золатам" каля вёскі Дубы, Дубаўскага сельсавету, па беразе возера Селява на глыбіні аднаго мэтра.

Далейшае дасьледваньне прыродных багацьцяў Аршаншчыны будзе праводзіцца пры дапамозе Горнага пададдзелу ВСНХБ.

Вялося далей вывучэньне і апісаньне прыроды і экономікі Дуровенскага раёну.

Сэкцыя яўрэйскай культуры займалася галоўным чынам гісторыяй яўрэяў на Аршаншчыне, гісторыяй яўрэйскіх земляробскіх колёній і зьбіраньнем народнага фольклёру.

Мэдыцынская сэкцыя праводзіла санітарнае вывучэньне вёсак Дубровенскага раёну.

Польсэкцыі ў Воршы організаваць не ўдалося і замест яе ўтварыўся гурток польскай культуры ў Беларускай С.-Г. Акадэміі пад краўніцтвам раённага таварыства.

На чарзе дня працы Акруговага Таварыства стаіць злучэньне Аршанскіх музэяў і організацыя адзінага акруговага Краязнаўчага музэю. Справа затрымліваецца дзеля адсутнасьці належнага памяшканьня.

За мінулы год сабрана 8000 картак слоў для слоўніка беларускай мовы Аршаншчыны,

пераслана ў Інбелкульт 3000 песень, прыказак, казак і замоў. Перададзена ў музэй 4 скарбы ў 160 монэт, 15 прылад каменнага веку і складзена апісаньне аднаго раёну, 2-х мястэчак і аднаго замка, адаслана ў Інбелкульт 60 розных анкет.

У акруговым Таварыстве рабілася апрацоўка галоўным чынам гістарычнага і лінгвістычнага матар'ялу. Апрацавана гісторыя г. Воршы, Горак і Талачына, а таксама падрыхтаваны слоўнік Аршаншчыны ў 6000 слоў.

Неапрацаваныя матар'ялы для належнай апрацоўкі пасылаліся ў Інбелкульт, а для правядзеньня аналізаў—у Беларускую С.-Г. Акадэмію і ЦБК. Пакуль што выяўлены косьці маманта з Кабылякскай камяніцы і косьці насарога з мястэчка Леніна. Вельмі дрэнная справа з правадзеньнем аналізаў розных глін. Пасланыя пробы прападаюць, як у Інбелкульце, так і ў Акадэміі, ці ляжаць без аналізу.

На сходах краязнаўчага таварыства заслуханы наступныя даклады: 1) Ворша ў XVI сталецьці. 2) І-ы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд, 3) Аршанскія пячэры, 4) Інформацыя аб пашырэньні краязнаўчай працы, 5) Чарговыя задачы краязнаўчай працы на Беларусі, 6) Заслуханы справаздачы Горацкага, Копыскага, Коханаўскага і Дубровенскага Таварыстваў Краязнаўства, 7) Паведамленьне аб працы Навуковага Таварыства па вывучэньні Беларусі, 8) Аб складаньні археолёгічнай карты, 9) аб зьбіраньні і вывучэньні птушак Аршаншчыны, 10) Аб гістарычным заказьніку, 11) Аб выніках падліку помнікаў старажытнасьці на Аршаншчыне, 12) Аб чарговых задачах краязнаўства на васеньне-зімовы пэрыод, 13) Польскае паўстаньне 1863 г. на Аршаншчыне, 14) Друкарская справа на Аршаншчыне, 15) Вынікі дасьледваньня Дубровенскага раёну, 16) Вынікі працы 2-га ўсебеларускага краязнаўчага зьезду, 17) Аб падземных ходах у г. Воршы, 18) Помнікі старажытнасьці г. Воршы, 19) Аршанскія друкары ў Масковіі, 20) Яўрэі на Аршаншчыне ў XVII-XVIII сталецьці, 21) Аб вывучэньні Кастрычнікаў Аршаншчыне, 22) Шматпольле на Аршаншчыне, 23) Батанічны сад у Горках, 24) Сялянства Аршаншчыны, 25) Паўстаньне 1863 г.

Зараз у арганізацыі ёсьць ненадрукаваныя рукапісы 1) Гісторыі Воршы, 2) Апісаньне Талачынскага раёну, 3) Помнікі старажытнасьці на Аршаншчыне, 4) Смаленскі замак, 5) Прырода Дубровенскага раёну, 6) Беларускі слоўнік Аршаншчыны, 7) Польскае паўстаньне 1863 г. на Аршаншчыне, 8) яўрэі на Аршаншчыне ў XVII-XVIII сталецьці, 9) Беларуская селянства на шляхох Кастрычніка, 10) Беларускае вольна-экономічнае таварыства, 11) Беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух на Магілеўшчыне, 12) Беларускі зельнік.

Акруговым Таварыствам у мінулым годзе зроблены 4 экскурсіі ў горадзе Воршы: адна экскурсія ў Дуброўну і на Асінбуд, адна дасьледчая экспэдыцыя ў Дубровенскі раён для вывучэньня санітарнага стану вёскі, адна экспэдыцыя ў Дрыбінскі раён для дасьледаваньня жыльля баброў, адна экспэдыцыя ў Кабылякі на месца знаходак касьцей маманта, якія перададзецы ў Акруговы музэй.

Зьвесткі аб працы Таварыства друкаваліся ў часопісах: „Наш Край", „Працы навуковага таварыства па вывучэньні Беларусі", у газэтах: „Камуністычны Шлях", „Савецкая Беларусь", „Зьвязда".

За мінулы год вышла з друку „Аршаншчына", у якой надрукаван артыкул „Друк на Аршаншчыне". Інформацыя аб працы таварыства пераважна зьмяшчалася ў газэце „Савецкая Беларусь", „Комуністычны Шлях" і часопісу „Наш Край". У мэтах пашырэньня ведаў па краязнаўству сярод працоўных Аршаншчыны Акруговае таварыства ставіла даклады аб краязнаўстве ў саюзе Рабземлесу, Паляўнічых, Мэдсанпрацы, Комсамолу і сярод піонэраў.

Галоўнымі перашкодамі ў працы зьяўлялася дрэннае матар'яльнае палажэньне т-ва. Праца таварыства вялася на дабрахвотных падставах. Увесь бюджэт таварыства складаўся з 600 р., якія былі адпушчаны па каштарысу Акруговага Выканаўчага Камітэту. Разгарнуць музэйную справу ў горадзе Воршы не ўдалося дзеля адсутнасьці памяшканьня. К канцу году ўдалося наладзіць архіўную справу. Горсавет даў пад архіў будынкі былой Мікалаеўскай царквы па Шклоўскай вуліцы, куды перавезены ўжо ўсе архіўныя фонды і апрача таго з вясны будзе перавезена і архіўная бібліотэка ў ліку 5000 кніг, якая зараз зьмяшчаецца ў 1-й сямігодцы. У новым будынку будзе абсталяваны асобны пакой для навуковых заняткаў у архіве. Часопіс „Асьвета" дае вельмі каштоўныя парады краязнаўцам і было-б пажадана, каб ён выпісваўся ў кожны сельсавет.

Па ўсіх заслуханых дакладах спрэчкі вяліся разам. Са справаздач ЦБК і Акруговага Т-ва Краязнаўства выявілася, што рост краязнаўчага руху ідзе зараз галоўным чынам за кошт моладзі і часткова сялянства, што заўважаецца частковае аслабленьне зацікаўленнасьці да краязнаўчай працы з боку настаўніцтва. Побач з гэтым конфэрэнцыя адзначыла паглыбленьне краязн. т-ваў справы ў некаторых краязнаўчых організацыях. У прынятай конфэрэнцыяй рэзолюцыі вызначаны шляхі далейшага разьвіцьця краязнаўчай справы на Аршаншчыне. Асноўным момантам у працы мясцовых краязнаўчых на бягучы пэрыод конфэрэнцыя намеціла вывучэньне пытаньняў сучаснасьці і ў першую чаргу колектыўных форм гаспадараньня.

Проф. П. Салаўёў у сваім дакладзе „Фэнолёгічныя назіраньні", яшчэ раз завойстрыў увагу краязнаўцаў на вялікім значэньні, якое маюць фэнолёгічныя назіраньні ў краязнаўчай справе, спыніўся на гісторыі фэнолёгічнай справы ў БССР і прывёў сьпіс літаратуры, якая можа дапамагчы пры вывучэньні гэтага пытаньня.

Конфэрэнцыя закончыла сваю працу з аднэй думкай—паглыбеньня краязнаўчай справы.

## Жыткавіцкае Раённае Т-ва Краязнаўства.

У мінулым годзе Т-ва мала працавала. Ня было сталага Праўленьня. Пачынаючы з гэтага году ў працы Т-ва прыкметна ажыўленьне. 15 студзеня адбыўся сход сяброў Т-ва (аднačасна з настаўніцкай конфэрэнцыяй), на якім быў заслуханы справаздачны даклад т. Тарлоўскага і абрана новае Праўленьне з 5 асоб і 2 кандыдатаў. На сходзе было яшчэ абмеркаваньне пляну працы Т-ва і разглядалася пытаньне аб пашырэньні падпіскі на часопіс „Наш Край". Сяброў Т-ва зараз налічваецца каля 40. Ёсьць яшчэ каля 10 заявак аб жаданьні ўвайсьці ў Т-ва. Т-ва вядзе такую рэгулярную працу: 1) Ад Ленінградзкага Гідролёгічнага Інстытуту вядуцца гідролёгічныя нагляданьні і пасылаюцца ў Інстытут; 2) Заснаваны два фэнолёгічныя пункты—у Жыткавічах (наглядальнік т. Лясун); і ў Ляхавічах (наглядальнік т. Антановіч); 3) складаецца географічны слоўнік раёну—для гэтага ўсе неабходныя інструкцыйныя матар'ялы разьмяркоўваюцца між сябрамі; 4) рэгіструюцца некаторыя помнікі гісторыі і археолёгіі—праца толькі пачалася; 5) запаўняюцца дзьве програмы па вывучэньні асаблівасьцяй беларускіх гаворак; 6) апрацавана 64 №№ фольклёрных матар'ялаў 7) запаўняюцца ўсе анкеты, якія перасылае ЦБК; 8) яўрэйская сэкцыя Т-ва стала працуе ў зьбіраньні слоў жывой мовы—больш 1000 слоў пераслана ў Яўрэйскі Аддзел ІБК; 9) вядзецца агітацыя за падпіску на „Наш Край"—сабрана 4 гадавых падпішчыкі, ёсьць надзея, што лік падпішчыкаў значна павялічыцца.

16/II адбылося пасяджэньне Праўленьня Т-ва, ня якім прысутнічаў і прадстаўнік ЦБК. Была заслухана інформацыя аб працы Праўленьня за мінулы час і пляне далейшай працы, былі разьмеркаваны абавязкі між сябрамі Праўленьня і заслухана інструкцыйная бяседа прадстаўніка ЦБК. На далейшы час Праўленьне намячае такую працу:

1. Дасьледаваць месцазнаходжаньні руды.
2. Даць санітарна-бытавое апісаньне аднэй вёскі.
3. Вясною пачаць складаньне гэрбарыяў і зоолёгічных колекцый.
4. Даручыць т. Тарлоўскаму дасьледваць каштарыс селяніна па Жыткавіцкім раёне.
5. Зарэгістраваць курганы па раёне і наглядаць за аховаю іх.
6. Даць зарысоўкі для Ўсебеларускай Выстаўкі.
7 Асаблівую ўвагу зьвярнуць на зьбіраньне вестак для географічнага слоўніка.
8. Організаваць краязнаўчы гурток пры 7-цы.

## Тураўскае Раённае Т-ва Краязнаўства.

Т-ва мае моцны культурна-гістарычны ўхіл. Уся яго праца да гэтага часу вялася галоўным чынам у галіне вывучэньня старажытнасьцяй. Складзена поўная карта помнікаў і паслана ў ІБК. Сабраны цікавыя апавяданьні старых людзей аб мінулым Турава Наладжана пяць экскурсій у мэтах дасьледваньня гарадзішч—Азяранскага Гарадца, Баркаўскага, Хільчыцкага, Рычоўскага і Перароўскага. Дасьледавана (сябр. Чайкоўскім і Квіцінскім) старажытнае паселішча ў урочышчы Казаргаць і знойдзена там 2 гаршкі і міса. Апісана каменная труна, якую па вестках дасьледвала экспэдыцыя з Менску яшчэ ў 1911 годзе.

Праца вядзецца і ў прыродазнаўчай галіне. Рэгулярна вядуцца мэтэоролёгічныя нагляданьні, заснаваны два фэнолёгічныя пункты, сабраны гэрбарыі. Організавалася з восені грамадзка-экономічная сэкцыя з 18 асоб (кіраўнік т. Паляшчук), якая толькі распачынае працу. Асноўным заданьнем гэтай сэкцыі ставіцца монографічнае вывучэньне 2-3 паселішч.

Адным з дасягненьняў у працы Т-ва ёсьць адчыненьне раённага Краязнаўчага Музэю. Праўда гэта толькі пачатак музэю, але важна тое, што музэю адведзена два пакоі на агропункце і ён можа там паступова пашырацца. Пакуль што ў музэі сабрана: гэрбарыі, дзьве скрыні археолёгічных знаходак, узоры насеньня збожжа і г. д. Пры музэі знаходзіцца і каменная труна. Таксама сюды перададзены некаторыя матар'ялы краязнаўчай экспэдыцыі студэнтаў БДзУ у 1927 г.

Т-ва досыць популярна сярод савецкіх устаноў і насельніцтва. Аб гэтым сьведчаць запрашэньні Т-ва ў розныя юбілейныя мясцовыя камісіі. Сяброў Т-ва цяпер 45.

Недахопам у працы Т-ва зьяўляецца адсутнасьць падпіскі на „Наш Край". Дагэтуль Т-ва яшчэ не сабралася вырашыць становіча гэтае пытаньне.

17/II адбыўся сход сяброў Т-ва, на якім прысутнічаў прадстаўнік ЦБК. Абгаварвалася пытаньне, як ажывіць працу Т-ва ў організацыйным і дасьледчым напрамку, як пашырыць падпіску на „Наш Край", якія першачарговыя заданьні выканаць.

## Мазырскае Акруговае Т-ва Краязнаўства.

Праца Т-ва ў поўным разгары. Працуюць поўным ходам амаль усе сэкцыі. Колосальную працу задумала выканаць прыродазнаўчая сэкцыя: скласьці географічны слоўнік акругі. Цяпер вядуцца шпаркім тэмпам падрыхтоўчыя працы для гэтага заданьня. Па раёнах рассылаюцца блянкі для нанясеньня ў іх географічных об'ектаў. Праца гэта разьлічана на 2-3 гады. З вясны пачнуць паступаць матар'ялы для слоўніка. Сэкцыя вядзе яшчэ гідролёгічныя нагляданьні, зьбірае гэрбарыі, зоолёгічныя колекцыі і робіць адзначэньні. Культурна-гістарычная сэкцыя ў складзе Калодкіна, Тарановіча і Сіманава склала для зьмяшчэньня ў друку нарыс аб помніках старасьветчыны на Мазыршчыне. Грамадзка-экономічная сэкцыя дабілася значных дасягненьняў у галіне вывучэньня дыялектолёгіі і народнай творчасьці акругі. Ёсьць тры сшыткі па дыялектолёгіі акругі, шмат

матар'ялаў па фольклёры пераслана ў ІБК. Складзены слоўнік жывой мовы Мазыршчыны, ужо зусім падрыхтаваны да друку, але затрымка ў тым, што Слоўнікавая Камісія ІБК паставіла неабходнай умовай для друкаваньня слоўніка—указаць родны склон слова. У падрыхтаваным слоўніку звыш 10000 слоў. Сэкцыя цяпер вядзе, апрача пераличанай працы, монографічнае вывучэньне в. Баброў (2 в. ад Мозыра). Да гэтага часу сабраны матар'ялы па дыялектолёгіі, фольклёры, сабраны словы і агульныя весткі аб насельніцтве вёскі. Усяго зроблена 4 экскурсіі ў гэтую вёску.

Вельмі цікавую працу вядзе фотографіч. сэкцыя Т-ва. Яна зрабіла больш 60 фотоздымкаў з розных месц Мазыршчыны, мае цікавыя краязнаўчыя зарысоўкі, зробленыя сябром Т-ва т. Пуданам, атрымала ад экспэдыцыі Цэнтр. Музэю народазнаўства фотографічныя здымкі розных куткоў Мазыршчыны і мае фотографіі, зробленыя краязнаўчай экспэдыцыяй студэнтаў БДУ ў Тураўшчыну.

Яўрэйская сэкцыя Т-ва прыкметную працу разварачвае па раёнах. Плянава вывучаецца 4 мястэчкі. Польская сэкцыя працуе выпадкова: яе праца гуртуецца па польскіх школах і сельсаветах.

Т-ва мае моцны грунт для навуковай працы, набыло вельмі каштоўную краязнаўчую бібліотэку і заклала Акруговы Краёвы Музэй. У бібліотэцы розныя пэрыодычныя выданьні краязнаўчага характару, даведачнікі і адзначнікі расьлін і жывёл. Музэй разгортваецца: сабраны экспонаты руды, мінэралаў, камняў, архэолёгічных знаходак, жукоў, мятлухаў, расьлін і інш. Т-ва шчыльна зьвязана з раённымі Т-вамі і карыстаецца аўторытэтам. Аб большасьці т-ваў Мазырскае Акруговае Т-ва мае дакладныя весткі. У сучасны момант Т-ва мае такія весткі аб бягучай працы раённых т-ваў.

*Нараўлянскае* Т-ва робіць апісаньне Нараўлянскай цукерачнай фабрыкі „Чырвоны Мазыранін".

*Капаткевіцкае* Т-ва складае апісаньне раёну для школ. Ужо сабраны некаторыя матар'ялы, будуць зроблены ілюстрацыі для апісаньня. Т-ва організавала мэтстанцыю. Т-ва карыстаецца аўторытэтам, часта раённы суд бярэ спраўкі ў Т-ва аб надвор'і, якое было ў вядомы час. Т-ва атрымала ад Акруговага Т-ва некаторыя фотографічныя прылады.

*Нараўлянскае* Т-ва ўсю працу вядзе вакол музэю, у якім налічваецца каля 1000 экспонатаў. На ўтрыманьне Музэю Т-ва згодна абяцаньню РВК атрымае грашовую дапамогу.

*Азарыцкае* Т-ва організавала раённы музэйчык. Адчыненьне яго ўрачыста адбылося ў Кастрычнікавае сьвята. РВК даў яму невялікую дапамогу.

## Пятрыкоўскае Раённае Т-ва Краязнаўства.

У склад Т-ва цяпер уваходзіць 44 асобы. У пачатку студзеня гэтага году адбыўся агульны сход сяброў Т-ва, на якім былі пастаўлены даклады: 1. Справаздача аб працы Т-ва за 1927 г. 2. Плян працы Т-ва на бягучы год і 3. Інструкцыйны даклад па апісаньні паселішчаў. Сход таксама пераабраў Праўленьне Т-ва. За мінулы год Т-ва правяло такую працу: 1) Рэгулярна вяліся фэнолёгічныя нагляданьні; 2) на працягу ўсяго году штодзённа запісваліся даныя тэмпэратуры, ціску і інш.; 3) вяліся гідролёгічныя нагляданьні і вынікі іх т. Марозам адсылаліся ў Ленінград у Гідролёгічны Інститут; 4) сабраны некаторыя колекцыі—ботанічныя, зоолёгічныя, каменяў, руды; 5) праведзена падрыхтоўчая праца па зьбіраньні матар'ялаў для географічнага слоўніка – зроблены інструкцыйныя даклады і разасланы сябрам блянкі для запаўненьня. 6) Зьбіраліся фольклёрныя матар'ялы; 7) заснаваны сталыя фэнпункты—у Пятрыкове (наглядальнік т. Мароз) і Грабаве; 8) раздадзены для запаўненьня 5 програм па вывучэньні асаблівасьцяй беларускіх гаворак.

З організацыйнага боку Т-ва досыць моцнае. Пасяджэньні Праўленьня адбываюцца 1 раз у месяц. З Новага году было 2 пасяджэньні. На 1-м пасяджэньні абмяркоўвалася абвестка агульнага сходу сяброў Т-ва, на 2-м кіраўнікі сэкцый інформавалі аб сваёй працы і плянах далейшай дзейнасьці. Т-ва ставіла свой даклад на Пленуме Выканкому і сярод комсамольскай моладзі. Пры школе 7-цы організаваны гурток краязнаўства. Т-ва завербавала 5 падпішчыкаў на „Наш Край", але падпіска яшчэ не рэалізавана. Т-ва разьлічвае сабраць падпіскі больш 10 гадавых падпішчыкаў. 22/II-28 адбылося пасяджэньне Праўленьня Т-ва, на якім присутнічаў прадстаўнік ЦБК. Былі абмеркаваны чарговыя задачы ў працы Пятрыкоўскага Т-ва краязнаўства.

## Лельчыцкае Раённае Т-ва Краязнаўства.

16 студзеня гэтага году адбылася Лельчыцкая Раённая Краязнаўчая Конфэрэнцыя. На Конфэрэнцыі быў заслуханы справаздачны даклад аб працы Т-ва за год і абрана новае Праўленьне і Рэвізыйная Камісія. Праўленьне складаецца з 5 асоб і 3-х кандыдатаў. Т-ва цяпер налічвае 56 сяброў. Па раёне ёсьць 3 дзейных гурткі: Буйнавіцкі. Мілашэвіцкі і Руднянскі. У склад Т-ва ўваходзіць трое сялян і некалькі савецкіх служачых. Усе іншыя сябры—настаўнікі. Пры школе 7-цы працуе вучнёўскі краязнаўчы гурток.

За мінулы час Т-ва вяло гідролёгічныя нагляданьні і даныя іх адсылаліся ў Ленінград. З восені мінулага году рэгулярна працуе мэтэоролёгічная станцыя. Раздадзены для запаўненьня програмы Некрашэвіча. Запісаны стэнографічна дыялекты ў Буйнавічах (ад 2-х сялян) і ў Лельчыцах (ад 3-х сялян). Рэгістрацыя помнікаў старасьветчыны толькі пачалася—зарэгістраваны курганы каля в. Мілашэвіч і Сініцкага поля., Па раёне краязнаўчая праца асабліва пашырана ў Мілашэвічах, дзе наст. Шоўкавічам і Булаўкай сабрана поўная шафа розных археолёгічных знаходак і цікавых старажытных рэчаў. Т-ва

думае заснаваць краёвы музэй пры Лельчыцкім Нардоме.

Т-ва заснавала тры фэнолёгічных пункты па раёне: у Буйнавічах (т. Стасенка), Лельчыцах (т. Лебедзеў) і Мілашэвічах.

Т-ва сабрала цадпіску на 7 экз. „Нашага Краю"—для 5 пэдагогічных гурткоў, для Мясцкому Працасьветы і Райкому КПБ. Т-ва мае добры вучот працы і для інструктаваньня сяброў па раёне мае ўласны шапірограф.

23/II адбылося пасяджэньне Праўленьня Т-ва разам з пасяджэньнем мясцкому працасьветы. Была заслухана справаздача Праўленьня і інструкцыйны садаклад прадстаўніка ЦБК. У рэзолюцыі па дакладах вызначаны конкрэтныя задачы Т-ва на бліжэйшы час у організацыйным, мэтодычным і дасьледчым напрамках.

## Краязнаўчая праца студэнтаў Рагачэўскага Белпэдтэхнікуму.

Хутка ідзе наперад краязнаўчая праца студэнтаў Рагачэўскага Белпэдтэхнікуму. Час зімовых вакацый выкарыстан студэнтамі-краязнаўцамі добра. Праўленьне выпрацавала заданьні, якія былі разданы сябром гуртка. Пачалася здача заданьняў. Шмат матар'ялу ўжо здана, і некаторая частка яшчэ апрацоўваецца студэнтамі; з паданага матар'ялу маецца каля 800 песень-прыпевак, 1000 слоў, якіх няма ў слоўніку Гарэцкага, 60 прымет аб пагодзе. Шмат сабрана вестак аб тым, якія і ў якой мясцовасьці знаходзяцца зьвяры, птушкі. Таксама ёсьць вельмі цікавы матар'ял аб лекавых расьлінах і ўжываньні іх у якасьці мэдыцынскай дапамогі ў вёсцы. Здана некалькі апісаньняў вясельляў і іншых сьвят. Пачалася праца па санітарна-бытавому абсьледваньню вёскі Збароў. Таксама вядзецца праца па вывучэньні экономікі і прыроды Рагачэўшчыны. Паложан пачатак гэрбарыю, колекцыям кузурак. Праведзена вялікая праца па вывучэньні іхтыофауны Дняпра, спосабаў лоўлі рыбы, апісана больш як 30 відаў рыб.

Матар'ял групуецца, апрацоўваецца і ў хуткім часе будзе адасланы ў ЦБК. 23/II-28 г.

В. Халмоўскі.

## Краязнаўчы гурток пры Мсьціслаўскім Дзяржаўным Пэдтэхнікуме.

*(Аршанская акруга).*

Гурток організаваўся 16/IX-1926 году і на працягу паўтарагадовае працы мае шмат вынікаў. Організацыйная праца спачатку была добра ўвязана з мэтавою ўстаноўкаю. Мэта гуртка была падрыхтаваць добрых краязнаўцаў і ўсебакова вывучыць Мсьціслаўскі раён.

На першым організацыйным сходзе запісалася 20 асоб. На агульным сходзе былі абраны старшыня і сакратар гуртка. У сучасны момант гурток налічвае 25 сяброў і маецца Праўленьне з 5 асоб. Усёй працаю кіруе Праўленьне.

За тэрмін з 16/IX-1926 г. па 25/III-1928 г. было праведзена: агульных сходаў 16, пасяджэньняў Праўленьня 10, экскурсій 6. На агульных сходах заслухоўваліся даклады выхаваўча-мэтодычнага зьместу, напрыклад: „Нагляданьне за пагодаю паводле мясцовых прымет", „Акварыюм, яго пабудова і догляд за ім", „Вывучэньне прыродных багацьцяў", „Вывучэньне кірмашу", „Краязнаўчая праца на вёсцы", „Вывучэньне гораду", „Спраздачы сяброў аб прырабленай працы па сэкцыях" і іншыя. Акрамя сходаў, якія адбываюцца кожныя два тыдні, кожны тыдзень адбываюцца заняткі. На занятках асобныя сябры чытаюць краязнаўчую літаратуру і апрацоўваюць краязнаўчыя матар'ялы. Праца вядзецца па пляну, які выпрацоўваецца на два месяцы.

За ўвесь час зроблена наступнае: запісана і апрацована песень—64, прыпевак—90, загавораў—21, казак—7, загадак—179, прыкмет—50, пасловіц і пагаворак—60. Запісана шмат слоў, якія перададзены ў слоўнікавую камісію па ўкладаньні Калінінскага слоўніка. Вывучана тры Мсьціслаўскія кірмашы і запоўнена некалькі анкет па вывучэньні бюджэту часу селяніна. На першым месцы па сувязі з гуртком стаіць ЦБК, яно дасылае інструкцыі, анкеты, якімі гурток кіруецца. Галоўным сродкам для кіраваньня служыць часопіс „Наш Край". Ленінградзкі Гігролёгічны Інстытут дасылае ў гурток блянкі і анкеты, якія гуртком своечасова дасылаюцца, а адбіткі застаюцца ў справах гуртку з мэтай папаўненьня музэю. У далейшым гурток, лічыць працягваць працы ў тым напрамку, як працаваў раней і організаваць краязнаўчыя гурткі па раёне і раённы школьна-краязнаўчы музэй.

## Краязнаўчая праца ў Смаленскай губ. за 1927 г.

У 1927 г. на тэрыторыі Смаленскай губ. існавалі (ня лічачы Дзяржмузэю, Губархіўбюро і некаторых унівэрсытэцкіх т-ваў, якія часткова вядуць краязнаўчую працу) дзьве губэрскія краязнаўчыя організацыі: Т-ва вывучэньня прыроды і Т-ва краязнаўства, 4 паветовых: Бельскае Т-ва краязнаўства і 3 аддзяленьні Смаленскага Т-ва кразнаўства: у Вязьме, Сычоўцы і Дарагабужы. Весткі, што мы маем, даюць магчымасьць ахарактарызаваць краязнаўчую працу толькі Смаленскага Т-ва краязнаўства і яго аддзяленьняў. Праца Т-ва за справаздачны тэрмін вялася ў напрамках: організацыйным, навукова-дасьледчым і популярызацыйна-асьветным.

Організацыйная чыннасьць Т-ва выяўлялася ў дапамозе заснаваньню новых аддзяленьняў Т-ва, у заснаваньні шчыльнай сувязі з існуючымі аддзяленьнямі і падтрыманьні апошніх як у навукова-мэтодычным напрамку, так і ў організацыйна-адміністрацыйным, у рэгістрацыі і прыцягненьні ў склад Т-ва паасобных таварышоў, якія вядуць краязнаўчую працу і г. д. Вынікі пералічанай дзейнасьці: былі організаваны ініцыятыўныя групы ў гарадох: Гжацку і Дзямідаве,

якім было даручана праца па організацыі аддзяленьняў на мясцох і выяўленьні краязнаўцаў.

Што датычыцца ініцыятыўных груп, якія заснаваны яшчэ ў мінулым годзе ў Ельні і Рослаўлі, дык, ня гледзячы на шматразовыя запытаньні Т-ва, вестак аб іх працы ў нас няма. Апрача гэтага, ініцыятывай Т-ва было склікана нарада з прадстаўнікоў розных устаноў, якая разглядала пытаньне аб організацыі Губэрскай краязнаўчай конфэрэнцыі. Была абрана камісія, якой даручана: апрацаваць павестку дня і адшукаць неабходныя сродкі.

Навукова-дасьледчая дзейнасьць Т-ва вялася як у сэкцыях, якія організаваны Т-вам, так і паасобна. Сэкцый працавала 5: эканомічная, гістарычная, этнографічная, прыродна-гістарычная, археолёгічная і бібліографічная камісія. Праца сэкцый выяўлялася ў колектыўнай распрацоўцы інструкцый, праграм, плянаў, у зьбіраньні матар'ялаў і г. д. Так напрыклад, да 10-гадовага юбілею Кастрычнікавай рэволюцыі быў апрацаваны падрабязны плян выстаўкі пры Рачаўскім Музэі Т-ва, апрацаваны сумесна з Рачаўскай школай праграмы па вывучэньні сіламі вучняў быту вёскі і гораду, саматужнай прамысловасьці і г. д.

Дзейнасьць бібліографічнай камісіі, якая складалася з сяброў Т-ва: Г. В. Парфенава, В. В. Дзьмітрава, В. Р. Тарасенкі, Н. Н. Радкова і І. А. Марозава, за справаздачны пэрыод выявілася ў наступным: пасяджэньняў камісіі было 7, на якіх былі апрацаваны мэтоды і спосабы бібліографіі мясцовага краю, апрацавана і разаслана па мясцох інструкцыя па бібліографічным апісаньні мясцовай літаратуры, дзьве анкеты біо-бібліографіі мясцовых краязнаўцаў, запоўнена каля 2000 картак. Бібліографічна былі апісаны такія выданьні: „Экономическая Жизнь", „Епархиальные ведомости", „Памятные книжки Смоленской губ.", „Журнал Мин. Нар. Просвещения", „Смоленская Старина" і інш.

Пераходзячы да пералічэньня індывідуальных прац сяброў Т-ва, неабходна падкрэсьліць, што яны вяліся як у галіне зьбіраньня, накапленьня матар'ялаў з мясцовага краю, так і ў галіне навуковай апрацоўкі іх. Некаторыя закончаныя працы былі зачытаны на адчыненых сходах Т-ва, як даклады ці навуковыя паведамленьні. Усяго на працягу году было заслухана 11 дакладаў і паведамленьняў, а менавіта: 1) Кароткі біографічны нарыс жыцьця і дзейнасьці С. М. Сакалоўскага (А. Ф. Палашэнкаў); 2) Археолёгічныя працы С. М. Сакалоўскага (А. Н. Ляўданскі); 3) Успаміны аб С. М. Сакалоўскім (І. М. Хозэраў); 4) Успаміны аб С. М. Сакалоўскім (В. В. Дзьмітраў); 5) Смаленскія профсаюзы да 1917 г. і ў Кастрычнікавыя дні (А. Т. Абрамовіч); 6) Забытая магіла. Некаторыя даныя аб поэце-селяніне Гарвадзі Псальмаве (В. П. Лапчынскі); 7) Смаленскія вуліцы ў часе Лютаўскай рэволюцыі (В. І. Грачоў); 8) Тры гады працы Рачаўскага Музэю (Г. В. Парфенаў); 9) Смоленскія вуліцы ў часе Кастрычнікавай рэволюцыі (В. І. Грачоў); 10) Вынікі выстаўкі пры Рачаўскім Музэі Т-ва, прысьвечанай 10-годзьдзю Кастрычнікавай рэволюцыі (Г. В. Парфенаў) і 11) Аб Краязнаўчай працы Смаленскага Дзяржаўнага Краёвага Музэю (А. Ф. Палашэнкаў).

З другіх праўленьняў навукова-дасьледчай дзейнасьці Т-ва трэба адзначыць працы Рачаўскага музэю мясцовага краю, які нядаўна перайшоў да Т-ва. Гісторыя ўзьнікненьня гэтага „музэйчыка", як завуць яго сябры Т-ва, такая: у восень 1924 г. у ніжнім (сутарэньні) памяшканьні Рачаўскай бібліотэкі, якая знаходзіцца на ўскрайку г. Смаленску—Рачаўскай слабадзе з насяленьнем пераважна рабочым, адчыніўся, з ініцыятывы сябра Т-ва Г. В. Парфенава, невялічкі музэй, у якім было каля 100 экспонатаў. У першы дзень адчыненьня музэйчыка яго наведала каля 40 чалавек. Потым, дзякуючы пропагандзе як у музэі, так і за межамі яго, лік наведваючых з кожным днём павялічваўся, а разам з тым павялічвалася і колькасьць экспонатаў і ў канцы году музэй налічваў ужо 497 прадметаў.

У 1925 г. пры музэйчыку быў організаваны гурток з 17 вучняў, які пад кіраўніцвам Г. В. Парфенава заняўся складаньнем гэрбарыя мясцовых расьлін і колекцый скамянеласьцяй. Апрача таго сіламі музэйчыка была складзена багатая колекцыя будаўнічага матар'ялу з рэштак будоўлі XII-XIII ст. у Смаленску. У восень таго-ж самага году музэйчык насьцігла няшчасьце: цемнаю ноччу злодзеі, узламаўшы дзьверы, улезьлі ў музэй і забралі шмат монэт, альбомы і кнігі. Нязначная частка выкрадзеных рэчаў была знойдзена на рынку. Гэтае здарэньне ня спыніла працы музэйчыка. Зноў пачалі павялічвацца ахвяраваньні і наведваньні музэю. З лістапада па студзень музэй наведала 512 асоб і ахвяравана да 200 экспонатаў. За час працы музэйчыка, г. зн. да пераходу яго пад кіраўніцтва Т-ва, праведзена 7 публічных бяседы, 31 экскурсія, адчынена стаянка каменнага веку, абсьледвана некалькі гарадзішч і г. д. *).

У момант пераходу музэйчыка да Т-ва (люты 1927 г.) у ім налічвалася экспонатаў: па аддзелу нумізматыкі—1151, па гісторыі—422, па археолёгіі—483, прыроднай гісторыі—504, а ўсяго 2560. З лютага 1927 г. па 1 студзеня 1928 г. у музэй паступіла 543 прадметы і цяпер музэй мае 3103 экспонаты. Музэйчык на працягу 1927 г. адчыняўся 2 разы ў тыдзень і яго наведала 1574 асобы. Цесната памяшканьня (усяго 1 пакойчык) не дае магчымасьці шырэй разгарнуць працу музэйчыка і апошняму давялося перайсьці да організацыі пэрыодычных выставак. Першая выстаўка, як было вышэй заўважана, адбылася ў юбілей Кастрычніка (з 2 па 18 лістапада 1927 г.). Выстаўка мела такія аддзелы: рэволюцыйны рух да 1905 г., 1905 г., ад лютага да кастрычніка, барацьба за кастрычнік і дасягненьні Рачаўкі за 10 год. На гэту выстаўку быў выкарыстаны матар'ял

*) Пададзеныя вышэй весткі ўзяты з заметкі Рачаўца „3 гады Рачаўскага музэю", якая зьмешчана ў газэце „Рабочий Путь" № 252, за 1927 г.

Губархіва, Дзяржмузэю і прыватных асоб. Выстаўку наведала 673 асобы. Пасьля зачыненьня юбілейнай выстаўкі музэйчык пачаў рыхтавацца да другой—„Рачаўка ў мінулым“, якая затым была хутка адчынена і яе наведала ўжо каля 800 чалавек. Уся праца ў Музэі праводзіцца сябрамі Т-ва, па спэцыяльным даручэньні Т-ва, і гуртком, які заснаваны яшчэ ў 1925 г. і цяпер налічвае 23 асобы. Сябры Т-ва кіруюць працай гуртка, вядуць па чацьвяргох бяседы па гісторыі, археолёгіі, этнографіі мясцовага краю і г. д. За летні пэрыод пад кіраўніцтвам сяброў Т-ва праведзена 14 экскурсій археолёгічных і прыродна-гістарычных. Апрача таго было наладжана штодзённае нагляданьне за землянымі працамі, якія рабіліся на Рачаўцы, у мэтах зьбіраньня археолёгічных рэчаў, якія можна знайсьці пры паказаных працах. Праведзены досьледы Рачаўскіх гарадзішч, іх абмер і плянаваньне. Апрача гэтага пад кіраўніцтвам сябра Т-ва І. М. Хозарава былі абсьледваны рэшткі будоўлі XII-XIII ст. на Рачаўцы і на Духаўскай вуліцы. Здабытыя такім чынам матар'ялы перайшлі ў музэйчык.

Популярызацыйна - асьветная дзейнасьць Т-ва вялася ў двох кірунках: шляхам друку і шляхам бясед, чытаньня лекцый на курсах, сходах, у гуртках і г. д. Апрача таго, у Музэйчыку вялася культасьветная праца і популярызацыя ідэй краязнаўства.

Пры Т-ве існуе бібліотэка, якая налічвае звыш 2000 тамоў.

Апрача краязнаўчых організацый губэрні Т-ва падтрымоўвала навуковую сувязь з Цэнтральным Бюро Краязнаўства РСФСР, Цэнтральным Бюро Краязнаўства БССР, Інстытутам Беларускай Культуры і краязнаўчымі Т-вамі ў іншых гарадох. Таксама была наладжана сувязь і з мясцовымі навуковымі організацыямі і ўстановамі, якія часта запрашаліся на нашы сходы для супольнага абмеркаваньня тых ці іншых пытаньняў. Неабходна таксама падкрэсьліць і сувязь з Дзяржмузэем, у вучоную раду якога сталымі прадстаўнікамі былі вылучаны сябры Т-ва: В. В. Дзьмітраў і В. Р. Тарасенка.

Апрача таго, Т-ва выступала ў якасьці консультанта па розных пытаньнях вывучэньня мясцовага краю. Так, напрыклад, згодна просьбы Губаддзелу Асьветы Т-ва давала Харкаўскаму ІНО весткі аб турызьме па рацэ Дняпры, аб выдатных мясцох Смаленскай губ. па плыні Дняпра і па бібліографіі.

Праўленьне Т-ва было абрана ў такім складзе: В. П. Лапчынскі (старшыня). В. В. Дзьмітраў (намесьнік старшыні), Л. М. Гольдэнбэрг, В. Р. Тарасенка (сакратар) і А. Н. Ляўданскі (казначэй), а пасьля яго выезду—Г. В. Парфенаў. Праца праўленьня вялася згодна пляну, які быў зацьверджаны агульным сходам. Усяго за год пасяджэньняў праўляньня было 9, на якіх разгледжана 33 пытаньні. Пасяджэньняў рэўкамісіі было 1. Было склікана 6 агульных сходаў, з іх організацыйных 1 і 5 чарговых. На іх разгледжана 11 організацыйных пытаньняў і заслухана 11 навуковых дакладаў і паведамленьняў. На 1 студзеня 1928 г. у склад Т-ва ўваходзіла—64 сябры, з іх: 2 ганаровых, 54 дзейных і 8 сяброў—прыхільнікаў („соревнователей“).

Сродкі Т-ва за справаздачны год выключна складаліся з сяброўскіх адлічэньняў—усяго 28 р. 5 к. Уся праца, зьвязаная з падарожамі, аплачвалася ўласнымі сродкамі сяброў Т-ва. Атрымаць субсыдыю ніадкуль не ўдалося ня гледзячы на шматразовыя хадайніцтвы Т-ва, як перад цэнтральнымі органамі, так і перад мясцовымі ўстановамі. Галоўнай перашкодай у працы Т-ва была адсутнасьць сродкаў на навукова - дасьледчую працу і надрукаваньне сваіх прац, адсутнасьць свайго памяшканьня і др. Праўда, у 1928 годзе згодна просьбы Т-ва Прэзыдыум Губвыканкому на паказаныя патрэбы вызначыў 500 р.

*Вяземскае* аддзяленьне заснавалася 17/I-V 1927 г. Як маладая краязнаўчая організацыя, яно першай задачай паставіла—аб'яднаць краязнаўцаў пры аддзяленьні. У канцы 1927 г. аддзяленьне налічвала ўжо 33 сябры. Праца аддзяленьня была такая: праведзена 2 організацыйных сходы, 4 пасяджэньні Праўленьня. Праўленьне складалася з 5 асоб: Кісялёва, Марэйна, Дуброўскага, Запорына і Харкова. Было праведзена 2 агульных сходы, на якіх было заслухана 4 даклады: 1) гісторыя вёскі Бозьні (даклад Дуброўскага), 2) Гісторыя краязнаўства ў Вязьме (Запорын), 3) Азарава ў 30—40 гадох (Сямёнаў) і 4) Інформацыя аб Усерасейскай Краязнаўчай Конфэрэнцыі (Запорын).

Навукова-дасьледчая праца велася пасобнымі сябрамі аддзяленьня і, як відаць, мела выпадковы характар. Так, напр., т. Дуброўскі зьбіраў матар'ял па гісторыі в. Бозьні, т. Запорын вывучаў расьліны-сьметнякі; іншыя таварышы працавалі над архіўнымі матар'ямі. Апрача таго, выкрыты рэшткі крэпасьці, знойдзеныя пры пракладцы вадаправоду, старая вуліца, могілкі са старажытнымі выдаўбленымі трунамі. Знойдзена цікавае начыньне з фігурнымі зьверамі і здадзена ў музэй. Аддзяленьне популярызуе краязнаўчую працу на старонках мясцовай газэты „Товарищ“. Недахопы ў працы Т-ва: адсутнасьць сувязі з нізавымі краязнаўчымі організацыямі і адсутнасьць сродкаў. Усе сродкі аддзяленьня выключна складаюцца з сяброўскіх адлічэньняў.

*Сычоўскае* аддзяленьне заснавана 18 траўня 1927 г. Дзейнасьць яго заключалася ў пашырэньні музэю мясцовага краю, у організацыі пры музэі саматужна-прамысловай і мастацкай выстаўкі да юбілею Кастрычніка, якую за 6 дзён наведала 2198 асоб, у заснаваньні школьна-краязнаўчага гуртка пры 2-ой дзевяцігодцы.

Навукова-дасьледчая праца за справаздачны год выявілася ў зьбіраньні матар'ялаў для даведачніка „Сычоўскі край“, у зьбіраньні і вывучэньні матар'ялаў па гісторыі рэволюцыйнага руху ў краі. Апрача гэтага было праведзена 4 экскурсіі ў межах павету гэолёгічнага і археолёгічнага характару. Так-

сама зьбіраўся матар'ял па гісторыі г. Сычоўкі, аб нроднай асьвеце ў павеце за 10 год, рабіліся зарысоўкі для музэю портрэтаў рэволюцыйных дзеячоў мясцовага краю і г. д. Праведзена некалькі вечароў успамінаў аб рэволюцыйным руху. Пры аддзяленьні існуе бібліотэчка, якая налічвае 165 т. Сродкі аддзяленьня складаліся з каштарысных асыгнаваньняў, ахвяраваньняў і сяброўскіх адлічэньняў. Усяго за год аддзяленьне мела 116 р. 90 к.

Дзейнасьць аддзяленьня ў організацыйным напрамку была наступная: пасяджэньняў Праўленьня было 1. Склад Праўленьня: С. І. Аглоблін (старшыня), А. С. Навіцкі (сакратар), Е. Я. Грузін, Г. Ф. Гусеў і Бярэзінскі. Агульных сходаў было 1. Усяго сяброў аддзяленьня на 1/I-28 г. было 18 асоб. Галоўным недахопам у працы аддзяленьня была адсутнасьць сувязі з нізавымі краязнаўчымі організацыямі. У далейшым аддзяленьне ставіць задачай: прыцягнуць да працы па вывучэньні мясцовага краю настаўнікаў, профсаюзы і вучняў, апошніх праз організацыю школьна-краязнаўчых гурткоў пры школах.

*Дарагабускае* аддзяленьне толькі ў канцы 1927 г. было зарэгістравана ў Павятовым Адміністрацыйным Аддзеле і з гэтае прычыны яшчэ не пасьпела выявіць сваю краязнаўчую працу. В. Дзьмітраў.

## Беларускае школьнае краязнаўства на выстаўцы ў Лейпцыгу.

На выстаўку савецкай школы ў Лейпцыгу Цэнтральным Бюро Краязнаўства пасланы наступныя экспонаты: а) Карта БССР з адзначэньнем месца знаходжаньня ўсіх школьных і тэхнікумаўскіх гурткоў краязнаўства, а таксама краязнаўчых організацый у вышэйшых школах; б) картаграма ліку гурткоў і вучняў-краязнаўцаў па акругах; в) схэма структуры гуртка; г) статуты: школьных і тэхнікумаўскіх гурткоў краязнаўства, а таксама таварыстваў краязнаўства пры вышэйшых школах і д) карткавы каталёг беларускай літаратуры па гісторыі, тэорыі і мэтодыцы краязнаўства, усяго 400 картак па аддзелах: гісторыя краязнаўства; організацыя краязнаўчага руху; мэтодыка краязнаўчай дзейнасьці і асьветнае краязнаўства.

# БІБЛІОГРАФІЯ.

## ОРГАНІЗАВАНАЕ ВЫВУЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ*).

### Організацыі беларусазнаўчыя.

Касперович, Н. И.
1927—Белорусское краеведение.
„Научный Работник“, М. 1927, № 5-6, ст. 30-35.

[ . . .
1927—Второй всебелорусский краеведческий с‘езд.
„Известия Центрального Бюро Краеведения“, ЛНГР, 1927, № 2, ст. 67.

[ . . .
1927—Праца школьна-краязнаўчай сэкцыі на II усебеларускім краязнаўчым зьездзе.
„Асьвета“, Менск 1927, № 2 ст. 117-118.

Байкоў, М.
1927—Сучасны стан і пэрспэктывы слоўнікавай працы на мясцох БССР.
„Асьвета“, Менск 1927, № 2, ст. 121-126.

Ластоўскі, В.
1927—Музэйнае будаўніцтва ў БССР.
„Асьвета“, Менск 1927, № 7, ст.-135.130

[ . . .
1927—Беларуская ССР.
„Краеведные учреждения СССР“—справочник. ЛГР, ст. 137-151.
(Сьпіс краязнаўчых установ і організацый БССР).

Салаўёў, П.
1927—Краязнаўчая дзейнасьць с.-г. Акадэміі і Навуковага Таварыства.
„Наш Край“, Менск 1927, № 10, ст. 31-33.

Пічэта, У.
1927—Краязнаўства ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце.
„Наш Край“, Менск 1927, № 10, ст. 26-30.

[ . . .
1927—Дзеньнік прац II-га усебеларускага краязнаўчага зьезду.
„Працы 2-га ўсебел. краязн. зьезду“, Менск 1927, ст. 81-119.

Васілеўскі, Д.
1926—Краязнаўчая праца на ўсходзе Беларусі.
„Аршаншчына“, Ворша 1926, ст. 2-8.

Жураўскі, С.
1927—Масавае настаўніцтва ў навукова-краязнаўчай працы.
„Наш Край“, Менск 1927, № 10, ст. 69-71.

[ . . .
1927—Навукова-краязнаўчыя організацыі і ўстановы БССР (сьпіс).
„Наш Край“, Менск 1927, № 1, ст. 103-113.

Касьпяровіч, М. І.
1927—Краязнаўчая праца па акругах.
„Наш Край“, Менск 1927, № 3, ст. 59-62.

[ . . .
1927—Праца Беларускага навукова-дасьледчага гуртка ў Ленінградзе.
„Наш Край“, Менск 1927, № 6-7, ст. 114.
1927.—Krajoznawstwo polskie w chwil obecnej
„Наш Край“, Менск 1927, № 11, ст. 50-51.

Васілеўскі, Д.
1927—Беларускае Вольна-Экономічнае таварыства.
„Наш Край“, Менск 1927, № 12, ст. 11-17.

Віткоўскі, Я.
1927—Краязнаўчая праца сярод польскай нацыянальнасьці.
„Наш Край“, Менск 1927, № 10, ст. 67-68.

Аляксяндраў, Г.
1927—Краязнаўчая праца сярод яўрэйскага насяленьня БССР.
„Наш Край“, Менск 1927, № 10, ст. 65-66.

Бялуга, М.
1927—Рэорганізацыя ІБК.
„Наш Край“, Менск 1927, № 10, ст. 21-25.

Каранеўскі, Я.
1927—Інстытут Беларускай Культуры.
„Наш Край“, Менск 1927, № 10, ст. 16-20.

Казак, А.
1927—Краязнаўства ў БССР к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай рэволюцыі.
„Наш Край“, Менск, 1927, № 10, ст. 9-15.

[ . . .
1927—II Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд.
„Наш Край“, Менск 1927, № 2, ст. 60-62.

[ . . .
1927—Працы другога ўсебеларускага краязнаўчага зьезду 10-13 лютага 1927 г.
Менск 1927, ст. 126.
Зьмест: Справаздача Цэнтральнага Бюро Краязнаўства на другім усебеларускім краязнаўчым зьезьдзе (6-16); дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР (16-25); як праводзіцца вывучэньне Асіпавіцкага раёну (25-30); дзеньнік прац зьезду (81-119); і інш..

Касьпяровіч, М.
1927—Беларуская навука да Кастрычніка і пасьля яго.
„Маладняк“, Менск 1927, № 10 і асобны адбітак, Менск 1927, ст. 21.

*) Пачатак і працяг гл. „Наш Край“, Менск 1928, №№ 1 і 3.

Касьпяровіч, М.
1927. Організаванае вывучэньне Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецьця.
„Полымя", Менск 1928. № 1, ст. 140-155 і № 2, ст. 159-177.
К. Менскі (Касьпяровіч, М.)
1928—Польская буржуазная навука на Беларусі.
„Наш Край", Менск 1928, № 1, ст. 4-8.
Касьпяровіч, М.
1928.—З гісторыі краязнаўства.
„Наш Край", Менск 1928, № 2, ст. 13-19.
(Касьпяровіч, М.)
1928. Беларускае краязнаўства па-за межамі БССР.
„Наш Край", Менск 1928, № 2, ст. 59-61.
Касьпяровіч, М.
1928—Краязнаўства па-за межамі краязнаўчых організацый.
„Наш Край", Менск № 4, ст. 51-53.
Касьпяровіч, М.
1928—Новае з гісторыі краязнаўства.
„Наш Край", Менск 1928, № 4, ст. 53.

## Організацыі краязнаўчыя.

### Аршаншчына.

[ . . .
1926—Жыцьцё і праца Аршанскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (справаздача за 1925 г.).
„Аршанчына". Ворша 1926, ст. 16-28.

[ . . .
1926—Горецкое Районное Общество Краеведения.
„Известия Центрального Бюро Краеведения". ЛНГР 1926, № 6, ст. 189.

[ . . .
1925-1927. (Краязнаўчая справа ў Аршанскай акрузе).
„Наш Край", Менск 1925-1927 г. г.
Зьмест: 1925 г.—Краязнаўчая справа ў Аршанскай акрузе (II, 54-56); 1926 г.—Краязнаўчая праца Аршанскага Рабфаку (I, 61-62); 2 Аршанская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя (IV-V. 89-91), знахадкі ў Аршанскім раёне (IV-V, 91); праца Горацкага раённага таварыства краязнаўства (IV-V. 91-92); Чарэйская раённая краязнаўчая конфэрэнцыя (IV-V, 93-94); працы Расьнянскага раённага краязнаўчага таварыства (X-XI, 69-70); цікавая знахадка (маманта) (X-XI, 75); год працы Горацкага раённага таварыства краязнаўства (XII, 72-73); 1927 г.—3-я Аршанская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя (II, 63-65); Дрыбінскае Раённае таварыства (II, 65); Багушэўскае раённае краязнаўчае таварыства (II, 65); карысныя выкапні Дрыбінскага раёну (IV, 67-68); Краязнаўчы гурток пры Аршанскім Рабфаку і Пэдтэхнікуме (VI-VII, 113), Аршанская акруга (Ляднянскае, Дуброўненскае, Коханаўскае, Талачынскае, Крупскае раённыя таварыствы краязнаўства (VII, 73-74).

### Бабруйшчына.

Удзельнік конфэрэнцыі.
1923—Першы крок зроблены. Уражаньні з конфэрэнцыі настаўнікаў беларусазнаўства, якая адбылася ў Слуцку 15 і 16 студзеня г. г.
„Полымя", Менск 1923, № 2 ст. 133.

[ . . .
1924—З тэзісаў дакладаў на конфэрэнцыі настаўнікаў сямігодак (організаванай Слуцкай павятовай Камісіяй беларусазнаўства ў 1923 г.)
„Бюлетэнь офіцыяльных загадаў і паведамленьняў", Віцебск 1924, № 3-7, ст. 90-92.

[ . . .
1925-1927—Краязнаўчая справа ў Бабруйскай акрузе.
„Наш Край", Менск 1925-1927 г. г.
Зьмест: 1925—Краязнаўчы гурток „Зорка" пры Краснабярэскім сельска-гаспадарчым тэхнікуме (II, 57); Клічаўскае раённае таварыства краязнаўства (II, 57-58); 1926 г.—Бабруйская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя (II, 86-88); працы Жлобінскага Раённага Таварыства Краязнаўства (IV-V, 92); праца Асіпавіцкага Раённага Таварыства Краязнаўства (IV-V, 92-93); краязнаўчая праца ў Бабруйскай акрузе (VI-VII, 70-71); абсьледваньне яўрэйскага местачковага паселішча (VI-VII, 71-72); стан абсьледаваньня Асіпавіцкага раёну (VIII-IX, 75); дасягненьні Слуцкага Акруговага Таварыства Краязнаўства (X-XI, 75-76); праца па абсьледваньні Асіпавіцкага раёну ў летні пэрыод 1926 году (XII, 69-71); на Случчыне (XII, 73-75); разгортваем працу (Азяранскі гурток) (XII, 76) 1927 г.—становішча краязнаўчай працы па Бабруйскай акрузе (I, 83-84); Глускае Раённае Таварыства (I, 84-85); краязнаўчы гурток пры Краснабярэскім Агропэдтэхнікуме (I, 85); Бабруйскае Акруговае Т-ва Краязнаўства (VIII, 62-63); Гарадзецкае Раённае Т-ва Краязнаўства (III, 63-64); Жлобінскае Раённае Таварыства Краязнаўства (III, 64-65), Стрэшынскае Раённае Таварыства Краязнаўства (III, 65); Краязнаўчы гурток пры Гарадзецкай сямігадовай школе (IV, 68-69), рэштки старасьветчыны (VIII-IX, 89).

### Віцебшчына.

[ . . .
(1911—Экскурсіі Віцебскай Вучонай Архіўнай Камісіі ў 1911 г.).
„Записки Северо-Западного Отдела Императорского Русского-Географического Общества", Вільня 1911, кн. 2, ст. 372-385.

[ . . .
1911—Отчет о деятельности Витебской ученой архивной Комиссии за первый год ее существования.
„Полоцко-Витебская старина". Віцебск 1911, кн. 1.
Сахаров, С.
1911—Торжественное заседание Витебской ученой архивной комиссии, посвященное памяти Н. А. Столыпина.
„Полоцко-Витебская старина", Віцебск 1911, кн. 1.
[ . . .
1911—Денежный отчет Витебской ученой архивной комиссии за 1909-1910 год.
„Полоцко-Витебская старина", Віцебск 1911. кн. 1.
Богородский, Н.
1911—Отчет о деятельности Витебской ученой архивной комиссии за второй год ее существования.

„Полоцко - Витебская старина“, Віцебск 1911, кн. 1.

Мялешка, М.

1922—Беларуская культурная праца ў Віцебшчыне.

„Вестник Народного Комиссариата Просвещения“, Менск 1922, № 5-6 (7-8), ст. 21-22 беларускага аддзелу.

Аб заснаваньні, статуце і працы (сходах, дакладах, зборах, выданьні і інш.). Этнографічнай Камісіі пры Этнографічным габінэце Віцебскага Аддзяленьня Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту на працягу 1921-1922 г.

Касьпяровіч, М.

1924—Краязнаўчая праца ў Віцебшчыне.

„Савецкая Беларусь“, Менск 1924, №292.

[ . . .

1925—Витебское Окружное Общество Краеведения.

„Известия Центрального Бюро Краеведения“, ЛНГР 1925, № 3, ст. 79.

[ . . .

1925 — Белорусская ССР. (Витебская окружная конференция по краеведению 26-27 апреля 1925 г. Витебский Окружной Архив. Большелетчанский Ботанический Сад).

„Известия Центрального Бюро Краеведения“ ЛНГР 1925, № 2, ст. 42-44.

[ . . .

1925—Віцебская акруговая сьветазнаўчая нарада.

„Віцебшчына“, Віцебск 1925, ст. 199-206.

(Касьпяровіч, М.)

1925 — Жыцьцё таварыства (Віцебскага Акруговага).

„Віцебшчына“, Віцебск 1925, ст. 190-198.

[ . . .

1925—Статут Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства.

„Віцебшчына“, Віцебск 1925, ст. 187-189.

Касьпяровіч, М.

1925—Першая акруговая сьветазнаўчая нарада.

„Савецкая Беларусь“, Менск 1925, №164.

(Касьпяровіч, М.).

1925 — Віцебскае Акруговае Таварыства Краязнаўства.

„Савецкая Беларусь“, Менск 1925, № 87.

Касьпяровіч, М.

1925—Віцебск як мастацкі асяродак.

„Савецкая Беларусь“, Менск 1925, №142.

Касьпяровіч, М.

1925—Конфэрэнцыя беларусаведаў.

„Савецкая Беларусь“, Менск 1925, №142.

Касьпяровіч, М.

1925—Окружная краеведческая конференция.

„Заря Запада“, Віцебск 1925, № 98.

[ . . .

1925—Як разьвівалася наша краязнаўства.

„Заря Запада“, Віцебск 1925, № 121.

[ . . .

1925—По краеведческим учреждениям.

„Заря Запада“, Віцебск 1925, № 148.

[ . . .

1925—Віцебская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя 26-27 красавіка 1925 г.

„Віцебшчына“, Віцебск 1925, ст. 207-216.

Касперович, Н.

1926—Витебск (Витебские музеи).

„Известия Центрального Бюро Краеведения“, ЛНГР 1926, № 5 ст. 144-145.

В. Brežgo B.

Muzea Witebskie. Адбітка з „Ziemi“, Варшава 1926. № 15-16, ст. 232-240: Варшава 1926, 16$^{0}$, 30 ст. з мал.

Казицын, В.

1926—2-ая Витебская Окружная Конференция по краеведению.

„Известия Центрального Бюро Краеведения“, ЛНГР 1926, № 2, ст. 53-55.

Касперович, Н.

1926—Краеведческое движение в Витебском округе.

„Краеведение“, ЛНГР 1926, № 3, ст. 373-376.

Касперович, Н.

1926—Очередные задачи (к краеведческой конференции).

„Заря Запада“, Віцебск 1926, № 22.

Касперович, Н.

1926—Производственое краеведение.

„Заря Запада“, Віцебск 1926, № 28.

Касперович, Н.

1926—Словарь живого языка Витебщины.

„Заря Запада“, Віцебск 1926, № 75.

Касперович, Н.

1926—Краеведческое движение в Витебском Округе.

„Заря Запада“, Віцебск 1926, № 87.

Касперович, Н.

1926—Сбор Витебского словаря.

„Заря Запада“, Віцебск 1926, № 105.

Касьпяровіч, М.

1926—Да пытаньня аб выданьні слоўніка жывой мовы Віцебшчыны.

„Заря Запада“, Віцебск 1926 № 160.

(Касьпяровіч, М.)

1926—Сьветазнаўчая праца на Віцебшчыне.

„Савецкая Беларусь“, Менск 1926, №260.

[ . . .

1926-1927—Краязнаўчая справа ў Віцебскай акрузе.

„Наш Край“, Менск 1926-1927 г. г.

Зьмест: 1926—краязнаўчая праца на Віцебшчыне (IV-V, 86-89); на Віцебшчыне (X-XI, 73-74); піонэры-краязнаўцы (X-XI, 74); Віцебская дасьледчая с.-г. станцыя (X-XI, 75); краязнаўчая праца Віцебскага аддзяленьня саюзу працаўнікоў зямлі і лесу (X-XI, 75); краязнаўчая выстаўка (XII, 76); 1927—3-я Віцебская сьветазнаўчая конфэрэнцыя (I, 79-80); як утварыўся Віцебскі краёвы слоўнік (I, 87-90); Сеньненскае раённае т-ва краязнаўства (VI-VII, 112); праца Сеньненскага раённага таварыства краязнаўства (XI, 54).

[ . . .

1927—Третья Окружная Конференция Витебского Окружного Общества Краеведения.

„Известия Центрального Бюро Краеведения“, ЛНРГ 1927, № 2, ст. 68.

**Гомельшчына.**

Струнин, Л.

1925—Отчет о работе Гомельского губернского бюро краеведения.

„Краеведение“, М.-Л. 1925, ст. 312-315.

Весткі за час з сьнежня 1923 да 1 ліпня 1925 г.

[ . . .

1926—Краязнаўчая справа ў Гомельскай акрузе.

„Наш Край“, Менск 1926-1927 г.г.

Зьмест:—1926 г.—Чачэрскае валасное бюро краязнаўства (VI-VII, 77); Краязнаўства ў Гомельшчыне (VIII-IX, 82); 1927—Буда-Кашалёўская раённая краязнаўчая конфэрэнцыя (III, 64), краязнаўчая праца на Гомельшчыне (III, 65); дзейнасьць Гомельскага Акруговага Т-ва Краязнаўства (VIII-IX, 88-89).

### Магілёўшчына.

[ . . .

1923—Беларуская культурная праца ў Магілеўшчыне.

„Крывіч“, Коўна 1923, № 3, 55—56.

Троськая.

1925—Краязнаўчая справа на Магілеўшчыне.

„Асьвета“, Менск 1925, № 4, ст. 96—100.

[ . . .

1925-1927—Краязнаўчая справа ў Магілеўскай акрузе.

„Наш Край“, Менск 1925-1927 г. г.

Зьмест: 1925 г.—Расьнянскае Раённае Таварыства Краязнаўства (XI, 56); Мілаславіцкае раённае таварыства краязнаўства (II, 56); Мілаславіцкае раённае таварыства краязнаўства (II, 56); 1926 г.—год працы Магілеўскага акруговага таварыства краязнаўства (I, 60-61); Калінінская першая акруговая нарада старшынь краязнаўчых таварыстваў (IV—V, 94); Працы Магілеўскага акруговага таварыства краязнаўства (VI - VII, 72-73); у Магілеве (VIII-IX, 81-82); праца Калінінскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (X-XI, 65-69); праца Хоцімскага раённага т-ва краязнаўства (X-XI, 72); краязнаўчая конфэрэнцыя на Калініншчыне (X-XI, 72-73); 1927 г.—Магілеўская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя (I, 81-82); краязнаўчы гурток пры Магілеўскай савецка-партыйнай школе (I, 82); гурток пры Магілеўскім Пэдтэхнікуме (I, 82); гурток пры Магілеўскім Каморніцка-Зямляўпарадкавальным тэхнікуме (I, 82-83); Хоцімскае раённае Т-ва (I, 85); Касьцюковіцкае раённае т-ва (I, 85); Касьцюковіцкае раённае т-ва (I, 85); Бялынкавіцкае раённая т-ва (I, 86); Крычаўскае раённае т-ва (I, 86-87); праца краязнаўчага гуртка пры Магілеўскай Савпартшколе (VII-VII, III); абсьледваньне краязнаўчай працы на мясцох (XII; 72); Магілеўскае акруговае таварыства краязнаўства (XII, 72-73).

Лапіцкі, р.

1927—Аб краязнаўчай працы ў Магілеўскай Саўпартшколе.

„Магілеўшчына“, Магілеў 1927, ст. 155-156.

Ламака, М.

1927—Вывучэньне Магілеўшчыны.

„Магілеўшчына“, Магілеў, 1927, ст. 150-155.

Зярэнін, М.

1927—Праца фольклёрнага гуртка пэдтэхнікуму.

„Магілеўшчына“, Магілеў 1927, ст. 100-101.

### Меншчына.

Былов, М. Н. Скрынченко, Л. В.

1909—Об учреждении Минского Церковного Историко-Археологического Комитета (речи).

„Минская старина“. Менск 1909, вып. I, ст. 2—9.

[ . . .

1909—Годичный отчет Минского Церковного Историко-Археологического Комитета. (13.2.08—2.8.09).

„Минская старина“, Менск 1909, вып. I, ст. 149—167.

[ . . .

1911—Описание поездки в Пинск (и Туров) (членами) Минскаго Церк. Ист.-Арх. Комитета в августе 1909 г.

„Минская старина“, Менск 1911, вып. 2, ст. 250—262.

[ . . .

1911—Из жизни и деятельности (Минскаго) Ц. И. Ар. Комитета.

„Минская старина“, Менск 1911, вып. 2, ст. 236—249.

[ . . .

1923—Гурток беларускае культуры ў Менску.

„Крывіч“, Коўна 1923 г. № 1, ст. 45.

Сущинский, В.

1922—Пешеходная экскурсия в Изяславль.

„Вестник Народного Комиссариата Просвещения“, Менск 1922, вып. 9—10, ст. 50.

Аб трохдзённай экскурсіі організаванай Менскім Пэдагогічным Таварыствам.

Самцевіч, В.

1925—Учреждение заповедника в Борисовском Округе. (Белоруссия).

„Известия Центрального Бюро Краеведения“, ЛНГР, 1925, № 6, ст. 182—183.

[ . . .

1925-1927—Краязнаўчая справа ў Менскай акрузе.

„Наш Край“, Менск 1925—1927 г.г.

Зьмест: 1925 г.—Сьмілавіцкае раённае таварыства краязнаўства (II, 57); краязнаўчая праца гуртка натуралістых пры Барысаўскім Пэдтэхнікуме (II, 58); краязнаўчы гурток пры Менскім Белпэдтэхнікуме (II, 59); 1926—Барысаўская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя па краязнаўству (I, 59-60); вывучэньне народнага мастацтва ў Сьмілавіцкай сямігодцы (II, 88); пытаньне краязнаўчай працы на нарадзе сямігодак Барысаўскай акругі (VI—VII, 73-74); экскурсія ў раён возера Пялік (VI-VII, 74-75); справаздача аб працы Барысаўскага Акруговага Таварыства Краязнаўства за люты—жнівень 1926 г. (VIII-IX, 68-70); краязнаўчая праца ў Барысаўшчыне ў 1926 г.) VIII-IX, 78-80), праца Смалявіцкага раённага таварыства краязнаўства (VIII-IX, 81); краязнаўчы гурток пры Узьдзенскай сямігодцы (VIII-IX, 81); праца Менскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (XI, 64-65); 1927 г.—Барысаўская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя (I, 92-94); краязнаўчы гурток пры Гідротэхнікуме (II, 63); праца Менскага Акруговага Таварыства

Краязнаўства (V, 64); праца Веляціцкага гуртка краязнаўства (V, 65-66); праца Крайскага краязнаўчага гуртка (V, 66); Менская конфэрэнцыя студэнцкіх краязнаўчых організацый (VI-VII, 109-110); Барысаўская школьная краязнаўчая конфэрэнцыя (XII, 74-75).

Самцэвіч, В.

1926—Конференция по краеведению в Борисове (БССР).

„Краеведение", ЛНГР, 1926. № 1, ст. 107—108.

[ . . .

1927—Третья Борисовская (Белоруссия) окружная краеведческая конференция.

„Известия Центрального Бюро Краеведения", ЛНГР 1927, № 2, ст. 68.

**Мазыршчына.**

[ . . .

1926-1927—Краязнаўчая справа ў Мазырскай акрузе.

„Наш Край", Менск 1926-1927.

Зьмест: 1926 г.—Мазырскае Акруговае Таварыства Краязнаўства (IV-V, 92); ініцыятыўная група краязнаўства ў Каленкавічах (IV-V, 92); справаздача аб працы Мазырскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (VIII-IX, 70-71); 1927 г.—Першая Мазырская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя (I, 80-81); Краязнаўства на Мазыршчыне (V, 66-67); краязнаўства ў Пятрыкоўскім раёне) VI-VII, 113-114); пленум Мазырскага Акруговага Т-ва Краязнаўства) XI, 52-53).

**Полаччына.**

[ . . .

1926-27 – Краязнаўчая справа ў Полацкай Акрузе.

„Наш Край", Менск 1926-1927 г.

Зьмест:—1926 г.—Краязнаўчая праца ў Полацкай акрузе (VI-VII, 75-76); праца Вальтэцкага раённага таварыства краязнаўства (VIII-IX, 82); 1927 г.—Асьвейскае раённае т-ва краязнаўства (VI-VII, 112-113); Лепельская краязнаўчая праца (VIII-IX, 89).

**Смаленшчына.**

[ . . .

1926-1927—Краязнаўчая справа ў Смаленшчыне.

„Наш Край", Менск 1926-1927 г. г.

Зьмест: 1926 г.—Смоленское Общество Краеведения (IV-V, 95); 1927 г.—Бельскае таварыства краязнаўства (IV, 68); год працы Смаленскага таварыства краязнаўства (VI-VII, 110-111); флёрыстычная праца Бельскага т-ва краязнаўства (VIII-IX, 93).

## Музэі, архівы, сады і д. т. п.

Фирсов, М. В.

1898—Описание Могилевского Музея. Магілёў, вып. 2, 1898, ст. 10-106.

[ . . .

1910 — Историко-археологические музеи С.-З. Края.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорского Русского Географического Общества", Вільня 1910, кн. I, ст. 222-236.

[ . . .

1911 — Церковный Музей г. Могилева в 1910 г.

„Могилевский Вестник", Магілеў 1911, № 53.

[ . . .

1911 — Могилевский церковно-археологический музей в 1910 г.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорского Русского Географического Общества", Вільня 1911, кн. 2 ст. 361—365.

[ . . .

1911—Новый ист.-арх. музей в г. Витебске.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскага Русского Географическаго Общества", Вільня 1911, кн. 2, ст. 361.

[ . . .

1923—Беларускі краёвы Музэй (у Менску)

„Крывіч", Коўна, 1923, № 1, ст. 47.

Загрэцкі.

1925 — Віцебскі вэтэрынарна - зоолёгічны музэй.

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 174-175.

Адамаў, Ул.

1925—Бальшалетчанскі ботанічны сад.

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 173.

Нікольскі.

1925—Ботанічны сад Дзяржаўнага Вэтэрынарнага Інстытуту.

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 169-172.

Адамаў, Ул.

1925—Бешанкавіцкі сад.

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 167-168.

Красавіцкі, П.

1925—Сад Саломінка.

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 164-166.

Плюшчык-Плюшчэўскі.

1925—Жукі і матылькі Віцебшчыны (колекцыі).

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 153-156

Адамаў, Ул.

1925—Фатыньскі сад і гаспадарка.

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 157-163.

Адамаў, Ул.

1925—Бачэкайскі сад і палац.

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 176-178.

Нікольскі, Л.

1925—Куткі жывой прыроды ў Віцебску і яго ваколіцах.

„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 182-184.

(Касперович, Н.).

1926—Витебские библиотеки и книгохранилища.

„Заря Запада", Віцебск 1926, № 168.

(Касперович, Н.).

1926—Витебские Музеи.

„Заря Запада", Віцебск 1926, № 123.

(Касперович Н.).

1926—Сады Витебского Округа.

„Заря Запада", Віцебск 1926. № 107.

Квяткоўскі, А.

1926—Фатыньская гаспадарка і яе значэньне.

„Наш Край", Менск 1926, № 6—7, ст. 58—63.

*М. Касьпяровіч.*

# ЗЬМЕСТ.

*Стар.*

**В. Самцэвіч.**—Краязнаўства ў працы профсаюзных організацый . 3
**М. П. Сьмірноў.**—Яшчэ пра біоклімат Беларусі . . 5
**М. Касьпяровіч.**—Аб краязнаўстве ў Фіншчыне. . . . 10
**М. Дабратворскі.**— Чмялі-зязюлі (Hymenoptera Psithyridae) . . 21
**В. Купрэвіч.**—Да пытаньня аб ахове прыроды . . . . . 23

## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**В. Самцэвіч.**—М. Лагойск (Менскай акругі) . . . . . 25
**М. Мікіцін.**—Кірмаш у м. Клічаве, Бабруйск. акр. . . . 33
Дасьледваньне Менскага рынку студэнтамі Белпэдтэхнікуму . 35

## ПРОГРАМЫ, АНКЕТЫ І ІНСТРУКЦЫІ.

Статут Цэнтр. Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры . . . . . . . . . . . . 39
**А. Шлюбскі.**—Програма для запісваньня помнікаў вуснай народнай творчасьці . . . . . . . . . 40
**Я. Лёсік і Л. Цьвяткоў.**—Інструкцыя для складаньня тэрмінолёгічных проектаў . . . . . . . . . 44
Як укласьці раённы географічны слоўнік . . . . . 46
Апытальнік аб стане працы па дасьледваньні мясцовых культурных гнёзд . . . . . . . . . . 48

## ХРОНІКА.

Дзейнасьць ЦБК . . . . . . . . . . 50
Адчыненьне Першай Усебеларускай Выстаўкі краязнаўчых фотографій і зарысовак . . . . . . . . 51
Краязнаўства па-за межамі краязнаўчых організацый . . . 51
Новае з гісторыі краязнаўства . . . . . . . 53
Аршанская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя . . . . 53
Жыткавіцкае Раённае Т-ва Краязнаўства . . . . . 57
Тураўскае Раённае Т-ва Краязнаўства . . . . . 57
Мазырскае Акруговае Т-ва Краязнаўства . . . . . 57
Пятрыкоўскае Раённае Т-ва Краязнаўства . . . . 58
Лельчыцкае Раённае Т-ва Краязнаўства . . . . . 58
Краязнаўчая праца студэнтаў Рагачэўскага Белпэдтэхнікуму . 59
Краязнаўчы гурток пры Мсьціслаўскім дзярж. пэдтэхнікуме . 59
Краязнаўчая праца ў Смаленскай губ. за 1927 г. . . . 59
Беларускае школьнае краязнаўства на выстаўцы ў Лейпцыгу . 62

## БІБЛІОГРАФІЯ.

Організаванае вывучэньне Беларусі (Бібліографічны паказчык) . 63



